ЗАБОЙСТВА ЭМІГРАНТА
ГАЁВЫЯ

# Наша Гісторыя

@Пішам добрыя тэксты ад 1906 history.nn.by

№ 11(28) — 2020

ISSN 2617-2305

ЗАХАПЛЯЛЬНЫЯ БІЯГРАФІІ
ЦІКАВЫЯ ЗНАХОДКІ
ВАЖНЫЯ АДКРЫЦЦІ

ФЕРДЫНАНД РУШЧЫЦ

СЯРГЕЙ ПАЛУЯН

ІСУС СА СНІПІШАК

ТУНІС

## ЯНКА БРЫЛЬ:

## ЯК ШЧАСЛІВА ПРАЖЫЦЬ НЕШЧАСЛІВУЮ ЭПОХУ

16+




Падзеі дэтэктыўнага рамана Рычарда Цвірлея «Кантрабанда без правілаў» пераносяць чытачоў у Польшчу 80-х гадоў XX стагоддзя. Камуністы, прапаганда, барацьба з іншадумствам, алкагалізм, дэфіцыт і іншыя з'явы сацыялістычнай эпохі складаюць неад'емную частку ўсяго таго, што адбываецца. Польскім міліцыянтам трэба будзе расследаваць серыю жорсткіх забойстваў. І ўсе яны вядуць да чыгункі. Справу ўскладняе рускі след.

Дзеянне рамана «Смяротны ўдар» адбываецца на рок-фэсце «Яроцін-88». Надыходзіць час перамен. Камуністычная партыя страчвае ўплыў, усё часцей праходзяць забастоўкі рабочых, усё больш прыхільнікаў набірае «Салідарнасць». Служба бяспекі імкнецца кантраляваць усіх грамадзян, але яна ўжо не ўсёмагутная. Шляхі герояў перасякаюцца нечаканым чынам, каб у рэшце рэшт мазаіка склалася ў адзінае цэлае.




ПАЛЬЯНАВА ГАЛІНА ВАЛЯНЦІНАЎНА

Наша Гісторыя
11/2020
history.nn.by

**Навукова-папулярны, літаратурна-мастацкі часопіс**

Выдаецца з 2018 г.

ISSN 2617-2305

Зарэгістраваны Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь.
Пасведчанне аб рэгістрацыі №1921 ад 11.07.2018 г.

**Галоўны рэдактар**
Андрэй Васільевіч Дынько

**Намеснікі галоўнага рэдактара**
Аляксандр Пашкевіч, кандыдат гістарычных навук
Іна Хоміч

**Дызайн і вёрстка** Уладзіслава Губіч

**Карэктура** Тацццяна Кур'ян

На першай старонцы вокладкі — Янка Брыль, фота Анатоля Клешчука.

Часопіс «Наша гісторыя» выходзіць на беларускай і рускай мовах.
Перыядычнасць — 1 раз на месяц.





**Заснавальнік:** Прыватнае выдавецкае ўнітарнае прадпрыемства «Суродзічы».
Р/р BY84BLBB30120190786828001001 у аддз. 539 ААТ «Белінвестбанк» г. Мінск, вул. Калектарная, 11 код BLBBBY2X, УНП 190786828.

**Адрас рэдакцыі:** 220030, Мінск, вул. Энгельса, 34А.

**Адрас для допісаў:** 220004, Мінск, а/с 62.

**Тэлефоны:** (017) 316-48-13, (029) 613-32-32, (029) 707-73-29

**E-mail:** history@nn.by

Цана дамоўная.

**Падпісаны ў друк** 08.12.2020.
Афсетны друк. Папера лёгкакрэйдаваная.
Фармат 60×84/8.
Умоўных друкаваных аркушаў 11,16.
Гарнітура PetersburgC.
Замова 0636/20.
Наклад 5053.

Часопіс надрукаваны ў друкарні «Акварэль-прынт». Вул. Радыяльная, 40-202, 220070, г. Мінск. УНП 101282916.
ЛД 02330/78 ад 03.03.2014.
Пасведчанне аб рэгістрацыі ў Дзяржаўным рэестры выдаўцоў, вытворцаў і распаўсюднікаў друкаваных выданняў № 2/16 ад 21.11.2013 г.


## Ад рэдакцыі

У прадмове да мінулага нумара мы казалі пра горкую долю, якую мелі ўдзельнікі беларускага нацыянальнага руху ў першай палове XX стагоддзя. Большасць іх тады гінула ці памірала ў маладым веку, а тым, каму пашчасціла выжыць, амаль усім давялося паспытаць турэмнага ці лагернага хлеба.

Пасля стала лягчэй. Адносіны паміж дзяржавай і яе грамадзянамі сталі грунтавацца на аснове нефармальнай грамадскай дамовы: грамадзяне не ставілі пад сумнеў манаполію камуністычнай партыі на ўладу, а тая за гэта старалася забяспечваць грамадзянам больш годныя матэрыяльныя ўмовы існавання і пакідала ім больш свабоды ў параўнанні з ранейшымі часамі, прынамсі ў прыватным жыцці.

Гэты самы час, 1950–1980-я гады, лічыцца «залатым векам» беларускай савецкай культуры. На яго прыпадаюць гады творчага росквіту многіх прызнаных класікаў нашай культуры. Час быў дзіўны і супярэчлівы: з аднаго боку, захоўваліся цэнзура і поўная дзяржаўная манаполія на выданне і распаўсюд любой друкаванай прадукцыі, «самвыдат» сурова пераследаваўся. З другога боку, тыя ж пісьменнікі менавіта тады мелі цудоўныя ўмовы для працы, прынамсі калі глядзець з пункту гледжання вырашэння побытавых праблем.

Але тых, хто думаў не толькі пра свой дабрабыт, не пакідала адчуванне дысанансу: нібыта дзяржава спрыяе развіццю нацыянальнай культуры і выдаткоўвае на яе немалыя сродкі, нібыта і культура тая з году ў год мае ўсё большыя набыткі, але адначасова з яшчэ большым размахам праводзіцца ў жыццё палітыка «зліцця нацый». І не пакідала прыкрае адчуванне, што ўсё, што ты з калегамі і аднадумцамі робіш, — дарэмнае, яно толькі для музея, а не для карыстання і ўзбагачэння новымі пакаленнямі.

Адным з беларускіх літаратараў, хто разумеў і цяжка перажываў гэтыя супярэчнасці, быў Янка Брыль. Яму лёсам было дадзена доўгае, амаль 90-гадовае жыццё, і яно ўвабрала ў сябе рознае: дзяцінства і маладосць пры «панскай Польшчы», вайну ў войску і ў партызанах, дастаткова спакойны і забяспечаны пасляваенны перыяд у якасці аднаго з класікаў беларускай савецкай літаратуры, надзея, падораная нацыянальным адраджэннем на мяжы 1980-х і 1990-х, роспач і трывога апошніх гадоў, калі здавалася, што ўжо дакладна ўсё, на што было аддадзена жыццё, пойдзе на глум. Паміраў у 2006 годзе пісьменнік яўна не са спакойным сэрцам, бо тады нішто не сведчыла пра тое, што час, калі ягоны сцяг падхопяць тысячы маладых рук, ужо набліжаецца...

Пра Янку Брыля і «самурайскі кодэкс» ягонага жыцця ў гэтым нумары «Нашай гісторыі» (**старонкі 4—16**) піша Андрэй Скурко.


4


18


68



52






54


26


68


40






96
САЛОН ПРЫГАЖОСЦІ · ФОТАСАЛОН
ПРАМТАВАРЫ

# Янка Брыль: як шчасліва пражыць нешчаслівую эпоху

**Героямі найчасцей лічаць змагароў, у падручніках гісторыі найбольш праслаўляюць воінаў. Народны пісьменнік Беларусі Янка Брыль, хоць і прыйшлося яму павяяваць, хоць вырас і жыў ён у мілітарысцкую эпоху, быў, наадварот, чалавек прынцыпова, да пацыфізму мірны. Парадаксальна, што і ад згубы, і ад ганьбы нават у таталітарным грамадстве Брыля ратавала вернасць свайму асабістаму самурайскаму кодэксу. У публічным жыцці Брыль быў майстрам мудрай асцярожнасці. А ў асабістым — здолеў перадаць атрыманы ад бацькоў зарад дабрыні, любові і дружнасці наступнаму пакаленню сям'і. Як гэта яму ўдавалася, піша Андрэй Скурко.**

Янка быў апошнім, дзясятым, дзіцем у таты з мамай — «пестуном», як казалі тады без адмоўнай канатацыі. Яго бацька меў у 1917-м 47 год, 44 было маці. Парадзіха трохі саромелася свайго веку, але доктар, які прымаў малое, выгукнуў: «Мадам, не грешите! Какой прелестный мальчик!»

«Мадам» — бо Янка нарадзіўся ў Адэсе. Туды выехаў на заробкі з-пад Карэліч ягоны бацька Антон Данілавіч. Ён рабіў праваднiком на цягніках лініі Санкт-




**Загора, з якога родам Брылі**, — старое сяло на бітым шляху, што аддаўна злучае Слуцк, Нясвіж, Мір і Наваградак.

ФОТА НАДЗЕІ БУЖАН

Пецярбург – Адэса. У працы было многа плюсоў: праваднік атрымліваў пры цары 35 рублёў на месяц (настаўнік 24) — плюс чаявыя, плюс дазвалялася правозіць у службовым купэ кашы з вінаградам на продаж у паўночных губернях.

Яго жонка Настасся Іванаўна заставалася на радзіме глядзець гаспадарку, дзяцей і старых мужавых бацькоў.

У сям'і Брылёў дагэтуль захоўваецца вялікі скураны партманет, у які Антон Данілавіч складаў царскія асігнацыі. І ўсё ж «чыстая» гарадская праца разглядалася як нешта часовае: капейка да капейкі, сям'я адкладала грошы на спрадвечнае «купіць зямлю, прыдбаць свой кут». Карты зблытала Першая сусветная вайна: з яе пачаткам бацька забраў сям'ю з Беларусі ў Адэсу.

Цяпер цяжка такое нават уявіць: першыя дзеці Антона і Настассі былі старэйшыя за найменшых на цэлае пакаленне. Сястра Ганна, меўшы ўжо сваё дзіця, часам падкормлівала цыцкай і малога Янку — што са смехам прыпамінала яму ў дарослым веку.

Ганна і Янка — першая і апошні — пражылі найдаўжэй з дзяцей Антона і Настассі. Трое з іх памерлі малымі ад невылечнай у той час шкарлятыны, Уладзіміра расстраляў савецкі НКВД у 39 гадоў, Ігнат пасля катаргі на Беламорканале ад лейкеміі і Мікалай ад інсульту — у 59, Міша раптоўна ад сэрца — у 51, Віліта ад раку — у 75.

### З Адэсы — у Загора

У Адэсе сям'і прыжыцца не ўдалося: разам з вайной прыйшла інфляцыя, бацька захварэў на тыф, пасля на паўторны тыф, старэйшым сынам даводзілася ездзіць праваднікамі замест яго. А ў 1922-м сям'я пастанавіла з Краіны Саветаў вярнуцца ў Беларусь, у роднае Загора, на гаспадарку. Яно тады было ўжо пад Польшчай.

У Брыля ёсць абразок, як тата падсцілае іх першай карове чыстай ячнай саломы і, не ўцярпеўшы, сам кладзецца на яе і запрашае пяцігадовага сына — такая радасць гаспадара.

Старэйшыя сыны не паехалі. Яны на той час ужо мелі спецыяльнасці і жонак. Уладзімір вывучыўся на заатэхніка, а Ігнась, які ў гімназічныя гады спрабаваў уцячы ў манастыр, пасля паступіў на медыка, але правучыўся да першага наведвання анатамічкі. Ён выкладаў у беларускай школе ў Адэсе, а пасля прыняў-такі сан праваслаўнага святара. ▸

### Саюз

Антон і Настасся пабраліся наперакор бацькам. У іх гісторыі праявілася, сведчыў сябра і біёграф Брыля Уладзімір Калеснік, своеасаблівая вясковая станавасць: продкі жонкі былі з дзяржаўных сялян — тых, якія раней былі каралеўскія, а не прыгонныя, — і не хацелі радніцца з нашчадкамі парабкаў. А бацька Настассі Іван Чычук у маладосці быў нават у абозе паўстанцаў 1863-га.



NARBEL.BSU.BY

**Янка Брыль**
(1917, Адэса – 2006, Мінск), пісьменнік.
Аўтар рамана «Птушкі і гнёзды» (1962), аповесці «Ніжнія Байдуны» (1975), шматлікіх кніг лірычных мініяцюр. Суаўтар дакументальнай кнігі «Я з вогненнай вёскі» (1975). Народны пісьменнік Беларусі (1981).

▶ Бацькі мелі план, каб з часам старэйшыя сыны забралі да сябе ў горад меншых — Міхася і Янку. Мяжу, якая стала паміж Адэсай і Загорам пасля Рыжскага міру, усур'ёз спачатку не прымалі. Развал імперыі, як мы можам бачыць на прыкладзе СССР, усведамляецца паступова. На шчасце для Міхася і Янкі, ажыццявіць бацькоўскі план не ўдалося.




**Татаў партманет і матчына верацяно** — Янка Брыль трымаў іх дома як памяць пра бацькоў.

### Муштук і папка

Лёс найстарэйшага брата Янка Брыль апісаў у аповесці «Муштук і папка». След Валодзі згубіўся — дакладней, знайшоўся — у Быкаўні пад Кіевам. Гэта ўкраінскія Курапаты, дзе пахаваныя сотні тысяч ахвяраў сталінізму. Падчас раскопак паміж костак выявілі муштук* з выдрапаным надпісам «Брыль В.А. 16.IX.1937». Валодзя, калгасны заатэхнік, заеўся з партыйным начальствам і па даносе быў узяты як *«разоблаченный сын польского помещика»*. Дата на муштуку — першага допыту.

Жонка Валодзі ўспамінала, як чакала следчага пад дзвярыма да ночы і станавілася перад ім у снег на калені. Не дапамагло. У органах Валодзю прыпісалі яшчэ шпіянаж на карысць Германіі і выбілі патрэбныя прызнанні.

Нядоўга пабыў святаром і Ігнат. Неўзабаве ён быў арыштаваны ды адпраўлены на «перакоўку», капаць Беламорканал. *«Одет, обут, накормлен»*, — пісаў ён дамоў. Ігнату пашчасціла выжыць, пасля лагера ён пасяліўся аж за Уралам, настаўнічаў, а пры першай магчымасці зноў вярнуўся да святарства.

* **Муштук** — аксесуар, трубка, у якой утрымліваецца цыгарэта. Быў модны з пачатку 1910-х да пачатку сярэдзіны 1970-х.

### Брылі спяваюць

Загора, у якое вярнуліся Брылі з Адэсы, — старое сяло на бітым шляху, што злучаў Слуцк, Нясвіж, Мір і Навагрудак. Тут іх род прасочваўся ад канца XVIII стагоддзя. Хоць і парабкі. Паводле Уладзіміра Калесніка, даўнія продкі пісьменніка за прыгонам мелі прозвішча Брылевічы, а Антон Данілавіч, калі прыйшоў у валасць рабіць пашпарт, каб ехаць на заробкі, назваўся вясковай мянушкай Брыль. Сам пісьменнік гэтую версію не падмацоўваў. Але і Брылеўскія ў наваколлі ёсць.

Загора — спрадвечная назва, хоць вёску на картах пішуць як Загор'е.

У сям'і Брылёў было здавён прынята «дружыць». «Дружылі» яшчэ дзяды, родныя браты Даніла і Ёсіп, загорскія парабкі, якія на дваіх купілі ў пані Наркевіч-Ёдкі пяць дзесяцін зямлі. Дружылі і іх дзеці — стрыечныя Антон і Павел, якія разам працавалі ў Адэсе. Не кідаў Антон Данілавіч і жончыну радню. Ён узяў у горад і аддаў вучыцца на краўца роднага брата Настассі, Навума, калеку з малых гадоў. Навум вярнуўся ў родную вёску аж занадта фасоністым краўцом.

Наступнае пакаленне таксама не адышло ад традыцыі. «У іх была вялікая сям'я і ўсе адно з адным сябравалі, — расказваюць дочкі Янкі Брыля. — І, дарэчы, добра спявалі. Наш бацька ведаў польскія, украінскія, беларускія, рускія песні — калі яны збіраліся ў Загоры, бывала, хадзілі за два кіламетры на раку Вуша лавіць рыбу, а пасля сядзелі ля вогнішча і спявалі. Гэта было чуваць у вёсцы і там казалі: "Ну, ужо Брылі спяваюць"».

### «Вечна занятая і справядліва добрая»

Жыццё за палякамі ідыліяй не было. Асабліва калі ўвесну 1924-га, застудзіўшыся ў лесе, памёр ад запалення лёгкіх бацька. «Маліся, Іван, каб я выздаравеў! Малітва рэбёнка ўслышыцца», — прасіў ён, лежачы, 7-гадовага сына як апошнюю надзею.

«Маленства маё, апошняга пестуна, пасля гарадскога вясковае, працягвалася пры ёй. Вечна занятай, строгай, але і справядліва добрай», — пісаў Брыль пра маці.

Брыль успамінаў, як мама, выкупаўшы яго, малога, у балеі, выцалоўвала мыльную пену з вочак, каб не плакаў. Але раз, калі прынёс з выгану брыдкія прыпеўкі, адхвастала нагайкай,

пакінутай на іх сялібе казакамі, калі ў Загоры стаяў фронт.

Гаспадаром у хаце стаў брат Мікалай, якому ішоў 14-ы год. Паміраючы, бацька прасіў маці «вучыць» меншых дзяцей — Мішу і Янку. Гэта каштавала нятанна і пазбаўляла гаспадарку рабочых рук.

### Чытанне і думанне

Браты перад тым скончылі сямігодку ў мястэчку Турэц. Вучылі там па-польску, але некалькі ўрокаў на тыдзень вялі па-беларуску — гэта быў кампраміс перад бацькамі, якія дабіваліся для дзяцей школы на роднай мове. Настаўнікі там былі розныя: пані Марыя Пранеўская была добрым геніем і апякункай Янкі. Дзякуючы ёй, ён вынес са школы «здаровую натуральную любасць да польскай культуры». Тым часам настаўнік матэматыкі, адзеўшы маску, дапамагаў паліцыі катаваць арыштаваных камуністаў. Вучні байкатавалі таго настаўніка.

Калі Міша, якому ўдалося паступіць у Наваградскую гімназію, рыхтаваў да ўступных экзаменаў Янку, маці марыла: хоць бы ты не паступіў. Але Янка здаў на выдатна і быў залічаны. Праўда, павучыцца доўга не ўдалося: прыехаў дзядзька Навум і расказаў, што маці захварэла, гаспадарку абклалі штрафамі, а Мікалай не дае рады адзін. Браты паплакалі ноч і пастанавілі вяртацца ў Загора.

З той пары Янка Брыль нідзе не вучыўся, калі не лічыць пасляваенныя курсы марксізму-ленінізму, якія ў абавязковым парадку праходзілі ўсе пісьменнікі — нават Янка Маўр, якому было за 60.

Універсітэт Брылю замяніла чытанне і думанне. Браты з Адэсы аддалі цэлы кораб гімназічных падручнікаў і рускай класікі. У кнігалюба і дзеяча Беларускай сялянска-работніцкай грамады Якава Ваўчка з суседняй вёскі знайшліся віленскія беларускія выданні. Праз пакаёўку з панскай бібліятэкі даставалі Гейнэ, бо сам пан не даваў. Брыль нават выкупіў абанемент у яўрэйскай кагальнай бібліятэцы ў Турцы і хадзіў туды па кнігі.

Янка не цураўся і грамадскай актыўнасці: арганізаваў самадзейны тэатр. Сабраныя пасля паказу спектакля грошы часам аддавалі на дабрачыннасць: напрыклад, на карову сіротам (старая здохла, праглынуўшы цвік).

З беларускай самадзейнасцю ў Польшчы было строга: на кожнае мерапрыемства трэба было браць дазвол у старасты ў Стоўбцах, на спектаклі мусіў таксама прысутнічаць паліцыянт з карабінам. ▶



**Капліца на могілках у Загоры**, дзе пахаваныя бацькі Брыля і ягоныя брат і сястра.

ФОТА НАДЗЕІ БУЖАН




**Удзельнікі самадзейнай тэатральнай трупы ў Загоры.** Каля 1937 года. Янка стаіць справа. Якое ж гэта было інтэлігентнае пакаленне!

Тады ж Янка пачаў друкавацца, яго першыя творы з'явіліся ў віленскім часопісе «Шлях моладзі». Назбіралася іх на асобную кніжку, але выданне зборніка апавяданняў каштавала як мінімум 75 злотых — эквівалент 30 пудоў жыта.

**«Няма відовішча больш агіднага, чым тое, калі чалавек б'е чалавека»**

### «Чаму я не думаю, у каго траплялі кулі?»

Ад Ваўчка Мішу і Янку прыйшло і захапленне ідэямі Льва Талстога. Браты, якія маглі весці гутарку цытатамі з Гогаля, адкрыўшы для сябе Талстога, пра Гогалевы «смешачкі» забыліся.

Талстоўцаў у тадышняй Заходняй Беларусі было нямала: талстоўскі гуманізм клаўся на духоўныя пошукі таго міжваеннага пакалення, ён падаваўся справядлівай альтэрнатывай і польскаму шавінізму, і рэакцыйнаму клерыкалізму, і радыкальнаму марксізму, і мілітарызму, у які пагружалася тагачасная Еўропа. Антываенны талстоўскі дух настолькі ўвайшоў у Янку, што, трапіўшы ў войска, ён хацеў трапіць у санітарную каманду. Аднак начальства вырашыла іначай — двухметровы хлопец стаў правафланговым ва ўзводзе элітнай марской пяхоты.

У прызыўны год Янкі Польшча ўвайшла ў распятую нацыстамі Чэхаславакію, каб адкусіць спрэчную Цешынскую Сілезію. Брыль успамінаў, які быў шчаслівы, што не трапіў на тую вайну. Праўда, неўзабаве яму, другому нумару кулямётнага разліку, давялося ўбачыць у бінокль Гданьск у чырвоных нацысцкіх сцягах: гітлераўцы прыйшлі прабіваць «калідор» ва Усходнюю Прусію.

«Чаму я не думаю, у каго траплялі кулі?» — задумляўся Брыль-талстовец у старасці, успамінаючы, як пад Гданьскам пускаў па наступаючых немцах «усю стужку старога "максіма" — дзвесце пяцьдзясят патронаў — адным націскам».

### «Грос Ханс»

«"Ён жыў пад акупацыяй... Ён жыў пры панскай Польшчы..." І трэба было ў першым выпадку быць героем-партызанам, а ў другім вязнем-падпольшчыкам, каб дараўняць якой-небудзь нікчэмнасці, што нідзе не была», — скрушна натаваў савецкія стэрэатыпы Брыль.

Побыт у нямецкім палоне Брыль апісаў пасля ў рамане «Птушкі і гнёзды». Ён успамінаў, што раман яго прымушалі перапрацоўваць: недастаткова варожымі былі паказаныя ў ім простыя цывільныя немцы, якіх «грос Ханс» сустракаў падчас сваіх прыгод на нямецкай зямлі.

У палоне Янка сустрэў верасень 1939-га. Тады не разумелася, чаму брат Міша настойліва раіў з палону дахаты не ўцякаць, а дзейнічаць афіцыйна, праз савецкае прадстаўніцтва. Уцекача дома маглі палічыць засланым шпіёнам.

**Пад уплывам Талстога Брыль адышоў і ад веры.** Святаром быў яго брат Ігнат, святаром стаў унук яго брата Уладзіміра, але сям'я самога Янкі Брыля не была рэлігійнай. Дзяцей не хрысцілі, рэлігійных святаў не адзначалі. Хоць адной з нешматлікіх асабістых рэчаў Янкі ў польскім войску было падоранае маці Евангелле. Яго пасля ўкралі ў нямецкім палоне.

## Партызан

«Ці мы калі-небудзь будзем пісаць пра партызаншчыну ўсё?..» — такім пытаннем Брыль скончыў абразок пра «лясную» сяброўку партызанскага камандзіра, якая проста з яго зямлянкі выпраўлялася рабіць трэці аборт.

У лес будучы пісьменнік сышоў у 1944-м, пасля таго, як партызаны разбілі ў Загоры падраздзяленне мясцовай антыпартызанскай самааховы. Перад тым Брыль нейкі час быў партызанскім сувязным. Сувязным быў і яго брат Мікалай, які для прыкрыцця выконваў у Загоры функцыю кіраўніка той самааховы.

Брыль трапіў у партызанскую разведку. Ён ганарыўся тым, што ўзяў удзел у выгнанні нацыстаў з Беларусі. Але пісьменнік быў далёкі ад шаблоннага хваласпеву, які пачаўся ў літаратуры, калі партызаны Кірыла Мазураў і Пятро Машэраў узялі ўладу ў БССР.

Брыль не ездзіў на партызанскія гадавіны ў родны раён. Меркаваў, што яго запрашаюць як «селебрыці», а як шараговага партызана і не паклікалі б. Слухаць выхвалянне камандзіраў аднаго перад адным не хацелася.

Былі сярод іх шчырыя сумленныя людзі, як «дзядзя Валодзя» Царук, упаўнаважаны ЦК і штаба партызанскага руху, былы заходнебеларускі палітвязень, ці літаратуразнаўца Фёдар Янкоўскі, які ў вайну курыраваў цэлую партызанскую зону ад ГРУ Генштаба. Але былі і «раскормленыя расхваленыя пачвары». Адзін такі хваліўся перад школьнікамі, як у атрадзе прыдумалі выпрабаванне дванаццацігадоваму хлопчыку: забіць роднага дзядзьку, якога падазравалі ў сувязі з паліцыяй. Калі малы адмовіўся, яго «шлёпнулі разам з тым дзядзькам»...

Пабачанае на вайне часам адгукалася кашмарамі: Брылю снілася, што яму загадалі расстраляць сям'ю паліцая з малымі дзецьмі. Здараліся і кашмары іншага кшталту: «Сон. Даў згоду быць намеснікам Лынькова, старшыні Саюза пісьменнікаў адразу пасля вайны. ...як жа ад гэтага прыстойна выкруціцца?..»



**У нямецкім палоне,** 1939–1940 гады.

З СЯМЕЙНАГА АРХІВА

## «Ваня, ты што, звар'яцеў?»

Той «дзядзя Валодзя» Царук стаў «хрышчоным» Брыля ў беларускай савецкай літаратуры. Яго рука была за тым, што Янку паклікалі з разведкі ў рэдакцыю партызанскай газеты, што штабной машыністцы было загадана перадрукаваць яго рукапісы для адсылкі ў Маскву з пазнакай «Саюз беларускіх пісьменнікаў. Максіму Танку». Следам Брыля ўзялі ў рэдакцыю баявога лістка «Раздавім фашысцкую гадзіну», пераўтворанага пасля ў часопіс «Вожык». Каб не гэта, партызанскага разведчыка маглі б мабілізаваць у войска — вайна ж працягвалася.

Царук заікаўся. Пасля вайны ён, намеснік старшыні абласнога савета, ездзіў па вёсках, арганізоўваючы калгасы, і так агітаваў сялян: «М-мужчыны, п-пішыцеся ў к-калхоз. К-калі ўжо такі ў нас п-парадак, што яны п-павінны быць, як і ўсюды, то н-нікуды в-вы ўсё роўна не дзенецеся. Б-бальшавікі як н-намогуцца, т-то і зробяць. Лепш ужо, хлопцы, раней запісацца, чым п-потым, у свіныя галасы!..*»

Самым цяжкім перыядам Брыль называў тое пісанне «ў ваенным друку, спачатку ў партызанах, потым у Мінску, калі трэба было выцiскаць з самога сябе, як з пустога цюбіка, патрэбнае «для барацьбы, для перамогі»... Заходнебеларускі літаратар мусіў «перабудоўвацца», «засвойваць», «здаганяць». Пісьменнік шукаў баланс паміж тым, што хацелася сказаць на самай справе, і тым, што можна было выдаць. Машыністка іх лясной партызанскай газеты, у якой слова СТАЛІН пісалася толькі вялікімі літарамі, набіраючы першыя творы Брыля, часам казала: «Ваня, ты што, звар'яцеў? Такога нельга пісаць!»

Савецкі рэжым меў спосабы паказаць беларусам з Заходняй, што можна, а чаго нельга. Капэзэбовец Сяменікаў, выпіўшы ў Танка чарку, расказваў, як яго выклікалі ў Маскву і там у турме «ўсю сцяну галавой абабілі». Як асудзілі на дзесяць год і пасля «дадавалі», аж пакуль яго не вызваліў хрушчоўскі XX з'езд. ▶

* **Рабіць нешта ў свіныя галасы** = рабіць нешта позна, запозна, у апошні момант. Раней свіней білі перад Калядамі. Сеяць у свіныя галасы — сеяць запозна, калі ўжо свіней колюць, так рабілі толькі самыя нядбайныя гаспадары.

▶ У адной камеры з ім сядзеў перад расстрэлам Браніслаў Тарашкевіч, які «ўсё падпісаў». Бачыў ён на Валадарцы і Веру Харужую, якая хадзіла па турме і заклікала арыштаваных камуністаў пагаджацца з несусветнымі абвінавачваннямі следчых, бо гэта «патрэба партыі». Танк выказаў тады здагадку, што Харужая і пайшла ў партызаны, пакінуўшы малое дзіця, бо адчувала віну.

### Спалены архіў

Скора разабраўшыся, што можна, а што не, Брыль у 1949-м амаль цалкам знішчыў свой архіў. Тыя паперы 1930–1940-х былі закапаныя ў бочцы на гумне ў стрыечнага брата. Брыль спаліў «са страху» ўсё, што магло быць небяспечным, трапіўшы ў рукі спецслужбам. Што ж там магло быць?

Літаратуразнаўца-ўзвышэнец Антон Адамовіч, які займаўся арганізацыяй легальнага беларускага друку ў акупаваным Менску пры немцах, адзначаў, што друкавацца Брыль пачаў не пасля вайны, а ў паднямецкай «Беларускай газэце»: «Усё гэта добра ведама тым, хто тады тамака быў».

Нейкі час Янка Брыль нават працаваў у Менску пад акупацыяй, у Гістарычным музеі, які загадваў яшчэ адзін у далейшым беларускі эмігрант — Антон Шукелойць. Ніколі ніводным словам пісьменнік не абмовіўся пра гэты перыяд свайго жыцця нават дзецям.

Так рабілі многія, хто пажыў пры Сталіне. Таварыш Брыля па нямецкім палоне, заходнебеларускі літаратар Міхась Васілёк, за сам факт публікацыі пры немцах у газеце «Раніца» загрымеў у ГУЛАГ пасля вайны. Дзякуючы хадайніцтву Максіма Танка яго ўдалося ўратаваць. Брыль на той час не меў і такога літаратурнага імені.

«...які шчаслівы лёс вызмейваў і цябе паміж небяспекамі, які касталом трэба было прайсці, якія страты перажыць, як, — можа, і на здзіўленне — штосьці ўсё-такі зрабіць!..» — так, азіраючыся назад, рэфлексаваў народны пісьменнік Янка Брыль. У беларусаў яго пакалення тыповых лёсаў не было: калізіі і стратэгіі змагання за выжыванне з вялікай гісторыяй былі асабістыя і ўнікальныя.



З СЯМЕЙНАГА АРХІВА

**З братамі і пляменнікамі.** Ад левага боку: Міхась, Мікалай, Янка, сын Віліты Шура Брылевіч і сын Ігната Шура Лейка.

### Ніколі не позна правіць

Індульгенцыяй для пісьменніка стала Сталінская прэмія. Ён атрымаў яе ў 1952 годзе за аповесць «У Забалоцці днее». Да лаўрэатаў меней чапляліся, а з пачаткам адлігі іх нават пускалі на Захад.

Хоць Брыль успамінаў, як якісьці начальнік дапытваўся ў яго перад паездкай у ГДР: *«А почему именно должен ехать Брыль, почему не Шемякин?»* Вось так, у трэцяй асобе. Аргумент, што ў ГДР быў выдадзены раман Брыля і ёсць запрашэнне выдавецтва, на таварыша начальніка не дзейнічаў.

А пра «Забалоцце», у якім апісаныя перавагі калгаснага ладу, Брыль не раз успамінаў з сорамам. «Міжвольна стала балюча ад той ілжы дзеля *racji stanu**, якую я гарадзіў, браў штурмам, заплюшчыўшы вочы, дабіваўся газетнай праўды і лірычнай лёгкасці». Пісьменнік усё жыццё працаваў над сабой, кіруючыся словамі Талстога, што правіць сябе ніколі не позна.

### Уменне адмовіцца

Са Сталінскай прэміяй дапамог тагачасны старшыня Саюза пісьменнікаў Пятрусь Броўка. Пятро Усцінавіч меў намер вывесці Брыля «ў людзі», ашчаслівіўшы адміністратыўнай пасадай: у канцы 1956-га прапаноўваў узначаліць «Літаратуру і мастацтва», праз год — выдавецтва «Беларусь», яшчэ пазней — стаць яго намеснікам у СП. Янка Брыль

* дзяржаўны інтарэс (пол.).

у першым выпадку проста адмовіўся, у другім — узяў два дні на роздум, і больш гэта тэма не падымалася. У трэцім выпадку Брыль намякнуў дзейнаму намесніку Івану Шамякіну, што Броўка лічыць яго «распанелым» і збіраецца яго пазбавіцца. Спалоханы Шамякін пабег каяцца і ўлагодзіў пытанне.

### Уменне не ўступіць

Для адпаведнасці высокім пасадам трэба была партыйнасць. І Броўка рабіў намёкі. Але ў камуністычную партыю Брыля пасля вайны не бралі з-за рэпрэсаванага брата, а пасля ён і сам не хацеў.

«Няўжо гэта такая вялікая, недазволеная раскоша — самому думаць, што правільна, а што не, самому вырашаць, звяраючы правільнасць сваіх рашэнняў з самым найвышэйшым, цераз галовы інструктараў і сакратароў?..» — разважаў ён і пакепліваў з палымянага камуніста Максіма Танка: «Для Максіма і прыбіральшчыца ў ЦК — вялікі аўтарытэт».

І ўсё ж цалкам адміністратыўных пасад пазбегнуць было немагчыма. Беспартыйны Брыль быў нават дэпутатам Вярхоўнага Савета БССР. У яго акрузе спачатку разгубіліся, а пасля вырашылі, што пісьменніку партыя загадала заставацца беспартыйным, «паколькі трэба ж нам блок» — і супакоена прагаласавалі «за». Ясная справа, што кандыдата за савецкім часам выбаршчыкам прапаноўвалі толькі аднаго.

Падчас сустрэч з выбаршчыкамі Брыль адчуў, які страх пасяліла ў людзях савецкая сістэма: «Шмат людзей думае добра, цвяроза, але гавораць толькі “нізам-понізам”, адкрыта, гучна — галасуючы за ўсё, што ідзе па загадзе, зверху». Дый сам ён на першай сесіі

### За пасаду не трымаўся

У Саюзе пісьменнікаў Янка Брыль нейкі час быў сакратаром. Але калі яму загадалі выступаць на пісьменніцкім мітынгу ў падтрымку савецкага ўварвання ў Чэхаславакію ў 1968-м, ён напісаў заяву на звальненне з пасады і павёз яе на подпіс да старшыні СП Максіма Танка — на Нарач. Так і не змог на тым мітынгу прысутнічаць.

адчуваў сябе «ў ролі апарата для паднімання рукі і пляскання далонямі». А на пасяджэнні камісіі па культуры «нейкая фіфа-настаўніца выскачыла з першым пытаннем: “А что же будем делать с белорусским языком”»...

### «Як жа ўсё-такі лёгка асімілюецца беларус!..»

Адзін зямляк пабыў без году тыдзень на цаліне і ўжо качак называе «уцямі», другі, пажыўшы ў Польшчы, на родную мову не пераходзіць ужо нават сам-насам, пісаў Брыль.

Асабліва многа запісаў на гэтую тэму датавана брэжнеўскім часам. У 1970-я пісьменнік сам сабе і ў размове з блізкім сябрам Уладзімірам Караткевічам прызнаваўся, што мае мала надзей на выжыванне беларускай культуры. Яны пагаджаліся, што «ўсе нашы капітальныя выданні — тамы фальклорнай серыі, энцыклапедычныя шмат- і аднатомнікі — як быццам падбіванне вынікаў, баланс перад закрыццём...» Няма каму напісаць у серыю «Жыццё знакамітых людзей» кніжку пра Купалу, Коласа, Скарыну, затое грувасціцца «шматпуддзе помнікаў». А ўлада паводзіць сябе як той цэкоўскі бонза, што стукае алоўкам па стале на класікаў літаратуры, якія асмеліліся загаманіць на сходзе.

Русіфікацыя грамадства адбівалася нават на адносінах з сынам-падлеткам. «Гора наша! — і паміж намі расце ўжо моўны бар’ер: яму ўсё цяжэй гаварыць са мной па-беларуску, — пісаў Брыль. — А што дасі яму побач з Талстым, Дастаеўскім, Чэхавым, у свет якіх ён акунаецца, і як паставіш яго супраць магутнай плыні асіміляцыі?.. Унучка кажа “тата”, але і “тату” гэтага забяруць у яе ў яслях, куды яна днямі пайшла... Гаўнюкі мы — а як жа сваё захоўваюць іншыя?»

**У 1970-я Брыль і Караткевіч лічылі беларускую справу безнадзейнай. Але працягвалі рабіць яе насуперак усяму**

Сваё самурайскае стаўленне да русіфікацыі Брыль сфармуляваў, ідучы са свайго лецішча ў Крынічным Карэліцкага раёна ў вёску па малако: «Я так нічога іншага і не прыдумаю для сябе, як жыць з чыстым сумленнем сына свайго народа, як старацца добра пісаць на роднай мове». ▶

**«Калі б беларуса прымусіць быць беларусам, які б атрымаўся выдатны беларус!»**

Гэты знакаміты афарызм Брыля — пра надзвычайную законапаслухмянасць беларусаў і, адначасова, пра наш унікальны сярод еўрапейскіх народаў нацыянальны нігілізм.

### Наша Феня — Галоўліт

Сумленнаму пісьменніку ў СССР, які хацеў да таго ж друкавацца, даводзілася ўвесь час балансаваць паміж праўдзівасцю і ідэалагічнай адпаведнасцю.

Брыль успамінаў, як у 1978-м яго распякалі ў прэзідыуме Саюза пісьменнікаў за тое, што ў запісах дазволіў сабе засумнявацца: як гэта Максім Горкі пагадзіўся на перайменаванне яго роднага Ніжняга Ноўгарада? Асабліва «празрыста прынцыповым» быў Шамякін: яго раман «Вазьму твой боль» прэтэндаваў на Дзяржпрэмію СССР разам з «Я з вогненнай вёскі». А падчас размеркавання дзяржпрэмій ідэалагічная беззаганнасць іграла вялікую ролю.

Успамінаў Брыль цэнзарку Феню Дадзіёмаву, якая бракавала запар усё, што ён прыносіў, аж пакуль з ёй не пагутарыў Лынькоў. Пра тую Феню, жонку вялікага начальніка, Кандрат Крапіва напісаў эпіграму:

Напісаўшы добры твор,<br>
мы здаём яго ў набор.<br>
Калі ж ёсць у нас сумненні —<br>
адсылаем проста к Фені.<br>
Наша Феня — Галоўліт,<br>
знает, что в ему болит.

Апошні радок — намёк на ўзровень валодання рускай мовай у цэнзаркі. Не кажучы пра беларускую.



**Янка Брыль (справа)** і беларускі пісьменнік з эміграцыі Масей Сяднёў у Доме літаратара.

ФОТА АНАТОЛЯ КЛЕШЧУКА

### «І я ж так пачынаў пісаць!»

Цэнзары правілі не толькі змест, правілі і мову. У рукапісе першага зборніка натуральную беларускую гаворку Навагрудчыны перарабляў Кандрат Крапіва і асабліва Міхась Клімковіч, галоўны рэдактар выдавецтва — яшчэ і з прыгаворкай: *«властью, данной мне от Бога»*. Прачытаўшы ўжо ў 1990-я творы вернутага з сталінскай няпамяці Язэпа Лёсіка, Брыль усклікнуў: «І я ж так пачынаў пісаць!»

Дзяцей у сям'і аберагалі ад «палітыкі». «Калі яны з маці гаварылі пра штосьці "такое", дык пераходзілі на польскую мову. Калі мы пачалі разумець польскую — "партызаны" пераходзілі на нямецкую», — расказвае дачка Брыля Наталля. Яны не мелі ўяўлення пра цэнзурныя праблемы бацькі-пісьменніка, які «ўсё ў сабе трымаў». Як вынік, у лютым 1957-га Брыля падкасіла блакада сэрца — ён пасля таго кінуў курыць. Тады сама Брыль узяў за звычку штовечаровыя праходкі — з Васілём Віткам, Алесем Бачылам, Янам Скрыганом. Колькі ўсяго непадцэнзурнага было тады перагаворана!

### Сапраўды вялікі

На пытанне чытача «Ці лічыце вы сябе вялікім пісьменнікам?» Брыль адказаў: так — рост метр восемдзесят сем, вага сто пяць кіло ў сярэднім. Пастаянныя праблемы падабраць вопратку.

### Працяг «класавай барацьбы»

Янка Брыль пакрытыкоўваў ваенную прозу Быкава: яму не хапала дэталяў па-за магістральным канфліктам і выбарам герояў. Многае ён сам бачыў у партызанах, іншае даведаўся ў пачатку 1970-х, калі разам з Алесем Адамовічам і Уладзімірам Калеснікам складаў кнігу пра зверствы нацыстаў

у Беларусі. І прыйшоў да высновы, што для беларусаў Другая сусветная была грамадзянскай вайной.

Яны тады апыталі больш за трыста сведак. І трэба ж было перапрацаваць у душы пачутае і пабачанае: расказы бабуль, што жывуць з прабітымі галовамі (няправільна трапілі ў патыліцу падчас расстрэлу), дзяцей ваеннага часу, што «без адзінай драпінкі» засталіся жывыя ў брацкай магіле пад целам маці або старэйшай сястры.

«Вогненныя вёскі» паказалі страшны бок грамадзянскай вайны: расчалавечванне суседа, якога ты нібыта ўсё жыццё ведаў. Калі «немцы ідуць, кураць, а б'юць людзей паліцэйскія, нашы...»

«Тут, на Лагойшчыне, — адзначаў ён у палявых нататках, — яшчэ раз моцнае, агіднае пацвярджэнне таго, чаго мы "не хочам падкрэсліваць" — вайна па сутнасці грамадзянская. Процьма паліцыі, падзел вёсак на тых і тых, жорсткасць жахлівая, ажно пытаешся: адкуль яна такая? І думаецца, што тут і быў якраз працяг "класавай барацьбы"».

«Я з вогненнай вёскі» выйшла ў 1975-м. Міхась Стральцоў назваў яе «хаджэннем па чалавечых пакутах, па вогненных кручах зямнога пекла». З гэтай кнігі вырас у беларускай літаратуры дакументальны жанр, у якім знайшла сябе будучая лаўрэатка Нобелеўскай прэміі Святлана Алексіевіч.

Скончыўшы кнігу пра нацысцкі генацыд, Брыль піша «Ніжнія Байдуны». Гэтая адчайна вясёлая, поўная народнага гумару «карнавальная аповесць» была нібы кампенсацыйная тэрапія пасля вогненных вёсак, адзначаў крытык Міхась Тычына. Ісак Бабель пісаў так пра Адэсу.

## Я аптымістка толькі ў лесе

«...Хутараначка, польская гімназістка-выдатніца, потым савецкая студэнтка з найвышэйшымі адзнакамі, універсітэцкая выкладчыца з пяццю еўрапейскімі мовамі — лацінскай, англійскай, нямецкай, польскай і рускай, не лічачы шостай, сваёй, — яна нармальна ведала свой узровень, аднак зусім не задавалася, любіла здаровы смех, магла ўздымацца да самаіроніі».

Так Брыль апісваў сваю жонку. Яны пазнаёміліся ў 1937-м, калі Ніне Клаўсуць было 16, і сябравалі ўсё жыццё. Яна была з суседняй вёскі, а яе бацька Міхаіл Клаўсуць у рэвалюцыю 1905-га ўзначальваў мясцовую ячэйку РСДРП, пасля сядзеў.

«Іх вёскі — два кіламетры адна ад адной. Ён некага шукаў і зайшоў на хутар, дзе жыла маці, а бліжэй яны пазнаёміліся, калі брат Міхась ажаніўся з яе сястрой Марыяй. Бацькі яшчэ перапісваліся і ў 1945 годзе ажаніліся», — расказала дачка.

У мірскім загсе замест добрага слова-віншавання іх папярэдзілі, што развод будзе каштаваць тры тысячы рублёў. Пасляваеннае вяселле: на стале быў вінегрэт і самагонка, у пасагу — коўдра і падушка.

«Наш бацька аптыміст, а я песімістка. Я аптымістка толькі ў лесе, калі я зусім адна», — казала яна дзецям. Меліся на ўвазе лясы вакол Крынічнага, над Нёманам, на мяжы Міншчыны і Гродзеншчыны, дзе Брылі мелі дамок.

«Строгай» у сям'і была яна, мужу адводзілася роля «добрага паліцэйскага». Дочкі ўспамінаюць, як бацька ляцеў праз усю кватэру, звярнуўшы па дарозе на падлогу тэлефон, каб разняць іх адзіную за ўсё жыццё дзіцячую бойку. Самі бацькі дзяцей ніколі не білі. Найгоршым пакараннем было, калі з імі не размаўлялі. За што маглі зладзіць абструкцыю? ▶

### Пячочачны паштэт

Улюбёная страва Брыля. Рэцэпт спісаны з кулінарнага сшытка яго жонкі.

- 750 г свініны (шыя)
- 500 г печані
- 200 г сала
- 100 г цыбулі
- 10 г сухіх грыбоў
- 3 яйкі
- 200 г булкі чэрствай (калі свежай, то больш трэба браць)
- 20 г свінога тлушчу-шмальцу (або алею, калі шмальцу няма — але то горш), каб змазаць бляху
- паніровачныя сухары для абсыпкі

Мяса парэзаць на кавалкі, абсмажыць на патэльні, дадаць трохі вады, сала, цыбулю, грыбы ды іншыя прыправы і пратушыць пад накрыўкай амаль да поўнай гатоўнасці (хвілін 20). Калі мяса амаль гатова, дадаць парэзаную на кавалкі пячонку і пасмажыць. Калі гатова, мяса і пячонку закладаем у мясарубку ці камбайн, а ў соусе размочваем чэрствую булку. Пасля мяса, пячонку, булку, размочаную з соусам, прапусціць тры разы праз мясарубку або пасячы ў камбайне. Дадаць тры яйкі і добра вымешаць. Бляху змазаць шмальцам, масу сфарміраваць у паштэт і абсыпаць сухарамі. Прыгожа выраўняць на блясе. Пячы каля 1 гадзіны. Калі тлушч убярэцца ў паштэт і паштэт пачне адставаць ад берагоў бляхі, ён гатовы. Ахаладзіць.



## Адрасы

У пасляваенным Мінску Брыль спачатку жыў з братам у гасцініцы, пасля ў пакоі, які яму пакінуў «у спадчыну» Пятрусь Броўка. Тут Брыль асяліўся з маладой жонкай. Пасля вярнулася гаспадыня з сынам і праз пару месяцаў, памеркаваўшы, што ў пары можа быць «папаўненне», папрасіла з'ехаць. З 1947-га Брылі жылі ў камунальнай кватэры на Незалежнасці, 43, поруч з жонкай і дачкой Валянціна Таўлая. Калі ў 1953 годзе здалі «пісьменніцкі дом» на Маркса, 36, пераехалі туды, дзялілі пляцоўку 5-га паверха спачатку з Усеваладам Краўчанкам, пасля з Янам Скрыганом, а потым з Уладзімірам Караткевічам. Калі ў канцы 1970-х Янку Брыля пачаў дапякаць тромбафлебіт і яму стала цяжка падымацца пехатою на 5 паверх, ён пераехаў на Пуліхава ў кватэру на 3-м паверсе з ліфтам. А з пачатку 90-х Іван Антонавіч з Нінай Міхайлаўнай жылі ў кватэры на цяперашнім праспекце Пераможцаў, 78. Цяпер туды, пакінуўшы дзецям кватэры, з'ехаліся дочкі Наталля і Галіна з коткай Басяй.

▸ За выпраўленне школьных адзнак у дзённіку, напрыклад.

Бывала, што і з бацькам маці не гаварыла тыдзень. Хоць адносіны яны мелі сяброўскія і не сварыліся.

«Нікому з нас нічога не навязвалі, кожны выбіраў свой шлях — мы з сястрой гуманітарыі, а брат наш — кандыдат фізіка-матэматычных навук. Адносіны ў сям'і былі роўныя і спакойныя, мы маглі падысці да бацькоў з любым пытаннем», — кажуць Галіна і Наталля.



ФОТА НАДЗЕІ БУЖАН

**Загора, дзе вырас Брыль.** Хата ягонага брата, намаляваная як *United Colors of Benetton*, пазначаная стрэлачкай. Цяпер там гаспадараць нашчадкі аднаго з братоў Брыля.

«Мама была чалавекам старога гарту: яна ўмела шыць, вышываць, калі абед, то павінна быць першае і другое. Яна яшчэ шафёрскія курсы скончыла. Бацька рагатаў: “Табе не хапае толькі краўцоўскіх”. Сам ён вельмі хацеў кіраваць, але правы яму не давалі з-за зроку».

## «Першая нармальная»

Пісьменніца Вольга Іпатава, Брылёва зямлячка з Міра, якой, сіраце, давялося пакаштаваць дзіцячага дому, успамінала Брылёву сям'ю як «першую нармальную», якую ёй давялося пабачыць.

Хоць дзяцінства пісьменніцкіх нашчадкаў з дома №36 не было нейкім выбітным. «У некага бацька быў рабочы, у некага настаўнік, у нас — пісьменнік. Мы ўспрымалі гэта звычайна», — кажа дачка. Успамінае, як малыя набіваліся ў кватэру Янкі Маўра — глядзець першы ў доме тэлевізар. Дзіцячы пісьменнік мусіў трываць. Мусіла трываць дзіцячыя набегі на музей Янкі Купалы (ён месціўся тады побач са старым Домам літаратара, насупраць кінатэатра «Піянер») і ўдава класіка Уладзіслава Францаўна.

Вучыліся дзеці з 36-га дома ў мінскай школе №2, якая стаяла на месцы цяперашняга шпіталя на спуску па вуліцы Энгельса. Туды сама хадзілі дзеці партыйнага начальства: Пятра Машэрава, Сяргея Прытыцкага, Васіля Шавуры. Але дырэктар Уладзімір Ляпёшкін ставіўся да ўсіх «роўна».

## «Не ўсё сказалася...»

Маці вучылася, пасля працавала, бацька пісаў — і Брылі наймалі для дачок нянек. Недахопу ў кадрах не было: вясковыя дзяўчаты тады як маглі ўцякалі з калгаса ў горад. Калі на падыходзе быў сын, іх нянька звольнілася, бо, як казала, не любіла зусім малых дзяцей. І — карма — не змагла знайсці працы і вымушаная ўрэшце была глядзець блізнюкоў-немаўлят. З малым Андрэем любіў займацца пляменнік, братаў сын, што якраз жыў тады ў Брылёў. «Брылі нанялі сыну гувернёра!» — шапталіся суседзі.

Ніна Міхайлаўна папракала мужа паўжартам: хіба ты дзяцей гадаваў? Ездзіў усё недзе. Але яе роля ў сям'і не абмяжоўвалася парадкаваннем дзяцей і ўнукаў. Яна была сярод першых, хто чытаў — і правіў — рукапісы новых твораў. Асабліва бязлітасна Ніна Міхайлаўна ставілася да Брылёвых мініяцюр і лірычных замалёвак — «толькі кожная дзясятая цікавая». Яны пражылі разам больш як паўстагоддзя.

У 2003-м на лецішчы ў Крынічным жонку раптоўна разбіў інсульт. Пасля яшчэ 80 дзён яна змагалася за жыццё.

«Яшчэ яна сказала дочкам у бальніцы, што са мною ў яе будзе гутарка. І я чакаў той гутаркі, часам нават і з рэўнасцю да дзяцей і ўнукаў, разважаючыся тым, што гэта, відаць, нармальна ў параўнанні з шасцю дзясяткамі гадоў нашай з ёю сумеснай долі, калі, вядома ж, як і ў кожнай чалавечай пары, здаралася і па-рознаму. Нейкай выключнай гутаркі, пра якую яна намякала, на жаль, не адбылося. Быў моцны поціск правай, не спаралізаванай рукі, было маўчанне і мой нястрымны, страшны і шчаслівы плач... Не ўсё сказалася...»

## Свой самурайскі кодэкс

Янка і Ніна Брылі пахаваныя на могілках у Калодзішчах. Штогод у жніўні нашчадкі Янкі Брыля таксама выпраўляюцца ў Загора і Маласельцы, каб спарадкаваць магілы продкаў.

Як народнаму пісьменніку, Брылю «палагалася» месца на прэстыжных Усходніх могілках. Але першай памерла жонка. Калегі па Саюзе пісьменнікаў звярнуліся да высокага чыноўніка гарвыканкама з просьбай ▸



**Кнігі Янкі Брыля ў бясплатнай анлайн-бібліятэцы.**

▶ выдзеліць ёй месца для пахавання, тлумачачы, што Іван Антонавіч захоча быць пахаваным разам з ёю, гэта яго правіла. *«А кто она такая, чтобы лежать на Восточном?»* — адфутболіў іх чыноўнік. Не далі пахаваць жонку народнага пісьменніка і на Кальварыйскіх могілках. А Брыль быў не з тых, хто будзе дабівацца лепшага месца. У Калодзішчах — дык у Калодзішчах: «І *там* таксама *беларуская зямля*».

Брыль да апошняга заставаўся верны свайму самурайскаму кодэксу гонару.

Янка Брыль перажыў жонку на тры гады, трохі не дажыў да 89-ці. Пісьменнік пад канец жыцця слаба бачыў і чуў. Кантакты са знешнім светам абмежаваліся. Сяброў у такім веку амаль не застаецца, інтэрв'ю даваць ён адмаўляўся, горка перажываючы дзяржаўны курс на русіфікацыю.

Яго радасцю было чытанне, Талстой і традыцыйныя суботнія сустрэчы з сям'ёй. Гэта быў рытуал: збіраліся дзеці, унукі, дзядуля дазваляў сабе чарачку віна...

«Калі мама памерла і ён застаўся адзін, дома было прачытана ўсё», — сведчыць дачка. Родныя шукалі па Мінску кнігі, якія ён патрабаваў.

Калі Брыль аўдавеў, дочкі па чарзе, праз дзень, прыязджалі гатаваць яму абед і абедалі з ім. Так усе тры гады, кожны дзень.

Ці лічыў Брыль сам пражытае жыццё шчаслівым? Ніхто не скажа. ◆

У матэрыяле выкарыстаныя інтэрв'ю Ірэны Кацяловіч з дочкамі Янкі Брыля Наталляй Семашкевіч і Галінай Брыль.



**Фота Янкі Брыля аўтарства Анатоля Клешчука, якое стала класічным.**




**У Калодзішчах на галоўнай алеі вісіць драўляная шыльда** з указальнікам на магілу народнага пісьменніка.

Расказваюць дочкі Янкі Брыля Наталля Семашкевіч і Галіна Брыль.

«**Ён рэдка бываў дома, часта ездзіў у камандзіроўкі.** Ён любіў ездзіць, і наша маці любіла падарожжы. Помню, калі мы трохі падраслі, бацькі павезлі нас у Маскву і Ленінград, каб паказаць музеі: за дзень нацягаешся, а вечарам бацька — у яго была такая кніжка «Музеі Масквы» — браў кніжку і ставіў птушачкі, куды мы пойдзем заўтра. Мы казалі: «Можа, менш?», а ён казаў «Не», бо хацеў паказаць нам як мага больш».

«**Бацька расказваў, што самае страшнае для яго было, калі маці прымушала цалаваць руку праваслаўнаму папу** — ён вырываўся і не хацеў гэтага рабіць. Маўляў, чаму ён павінен некаму руку цалаваць — у гэтым увесь яго характар».

«**На святочным стале заўсёды быў паштэт** — маці рабіла яго адмысловым спосабам. Яго любімыя стравы — усё, што звязана з фасоляй, а таксама рыба па-грэчаску пад марынадам. А яшчэ маці шмат выпякала».

«**Мама працавала ўвесь час.** Я чытала нечыя ўспаміны, дзе пісалі, што пісьменніцкія жонкі сядзелі ў двары, як у вёсцы. Наша маці ніколі там не сядзела: ёй не было калі. Яна выкладала англійскую мову на фізфаку БДУ, да таго ж сям'я — мала таго, што трое сваіх дзяцей, але часта ў нас жылі і пляменнікі, якія вучыліся ў Мінску».

**У завяшчанні Брыль па тамах распісаў, як павінен выглядаць пасмяротны збор яго твораў**, як зрабіў адзін з любімых пісьменнікаў Іван Бунін.

# калянДар 2021

АНДРЭЙ ГОРВАТ: 365 СЛОЎ НА КОЖНЫ ДЗЕНЬ

ФОТА: СЯРГЕЙ ГАПОН










Пытайцеся ў кіёсках Мінска, Гродна, Віцебска, Магілёва, Бабруйска, Полацка, Оршы, Глыбокага, Браслава, Ліды, Ваўкавыска, Смаргоні, Дзятлава, іншых гарадоў.

А таксама ў кнігарнях і крамах, дзе прадаецца «Наша гісторыя».
У тым ліку ў інтэрнэт-кнігарнях Kniganosha.by, Halijafy.by, Knihi.by, Kniger.by, Akademkniga.by, Ragna.by, Kniaz.by.




На месца гібелі дэманстрантаў у Афінскім нацыянальным тэхнічным універсітэце **і праз 47 гадоў прыносяць кветкі і плакаты**.

# Чорныя палкоўнікі і іх крах

**У 1974-м у Грэцыі дыктатура пала за два дні. Але яе ідэалагічны калапс адбыўся за дзевяць месяцаў да таго, піша Андрэй Акушка.**

Грэцыя стала адзінай краінай Усходняй Еўропы, якая не ўвайшла ў савецкую зону ўплыву ў 1945-м. «Англічанка нагадзіла»: брытанскі прэм'ер Уінстан Чэрчыль з лёгкасцю аддаў Сталіну Цэнтральную Еўропу, але за Грэцыю ўстаў сцяной. Грэцыя была варотамі да Суэца, а Суэц варотамі ў Індыю. Ад Грэцыі залежала захаванне імперыі.

Нават такі стратэг, як Чэрчыль, не прадбачыў, што імперыю не ўтрымаць. Індыя і Егіпет сыдуць амаль адразу пасля вайны, а рэшткі рассыплюцца як пясок. І сам Суэц застанецца пад брытанскім кантролем усяго 9 гадоў, да 1954-га. Тым не менш Чэрчылева бачанне геапалітыкі абумовіла мяжу заходняга і камуністычнага свету на чатыры дзесяцігоддзі. Балгарыю занялі саветы, у Грэцыі перамаглі празаходнія сілы. Сталін проста не ўвёў туды войскі. Але грэчаскім камуністам

пра падзел Еўропы не паведамілі. Яны паклалі 200 тысяч жыццяў у грамадзянскай вайне, што цягнулася з 1943 да 1949 года. СССР падтрымліваў камуністычны партызанскі рух у Грэцыі з тэрыторыі занятых савецкай арміяй Балгарыі і Югаславіі — роўна настолькі, каб партызаны працягвалі барацьбу, але не настолькі, каб яны здолелі захапіць уладу. Вайна была крывавай, але безнадзейнай.

Вось гэтыя падзеі і вызначылі палітычны курс Грэцыі на наступныя 30 гадоў.

Захад утрымаў Грэцыю, але знякроўленую грамадзянскай вайной, і быў вымушаны моцна ўкласціся ў яе разбудову. Захад быў схільны мірыцца тут нават з дыктатурай, абы краіна не перайшла на бок праціўніка ў халоднай вайне.

Грамадзянская вайна ў Грэцыі, як у 1936–1939 гадах у Іспаніі (чытай артыкул Аляксея Ластоўскага ў № 6 за 2019 год) ці ў 1917–1920 у СССР, стварыла сілавыя структуры, павязаныя крывёю. «Чорныя палкоўнікі» ўсе прайшлі грамадзянскую вайну.

І радыкальна левыя апазіцыя таксама ставілася да ліберальных сіл непрымірыма, бо паміж імі пралягла кроў грамадзянскай вайны.

Непрымірыма ставіліся да манархістаў і грэчаскія лібералы.

Такім расколатым грэчаскае грамадства выйшла з грамадзянскай. Левыя прагнулі рэваншу і верылі ў яго. А сілавікі гатовыя былі забіваць тых, хто яшчэ нядаўна забіваў іх.

### З мемуараў Чэрчыля

Стварылася дзелавая атмасфера, і я заявіў: «Давайце ўрэгулюем нашы справы на Балканах. Вашы арміі знаходзяцца ў Румыніі і Балгарыі. У нас ёсць там інтарэсы, місіі і агенты. Не будзем сварыцца з-за драбніцы. Што тычыцца Англіі і Расіі, ці згодныя вы на тое, каб займаць пераважнае становішча на 90 працэнтаў у Румыніі, на тое, каб мы займалі таксама пераважнае становішча на 90 працэнтаў у Грэцыі і напалову — у Югаславіі?» Пакуль гэта перакладалася, я ўзяў паўаркуша паперы і напісаў:

Румынія:
Расія — 90 %
Іншыя — 10 %
Грэцыя:
Вялікабрытанія
(у згодзе з ЗША) — 90 %
Расія — 10 %
Югаславія — 50/50 %
Венгрыя — 50/50 %
Балгарыя:
Расія — 75 %
Іншыя — 25 %.

Я перадаў гэты лісток Сталіну, які да гэтага часу ўжо выслухаў пераклад. Наступіла невялікая паўза. Затым ён узяў сіні аловак і, паставіўшы на аркушы вялікую птушачку, вярнуў яго мне. <...> Спісаны алоўкам лісток паперы ляжаў у цэнтры стала. Нарэшце я сказаў:

«Ці не падасца трохі цынічным, што мы вырашылі гэтыя пытанні, якія маюць жыццёва важнае значэнне для мільёнаў людзей, як бы экспромтам? Давайце спалім гэтую паперку».

«Не, пакіньце яе сабе», — сказаў Сталін.


Roumania
Russia 90%
The others 10%
Greece
Russia 10%
Yugoslavia 50/50%
Hungary 50/50%
Bulgaria
Russia 75%
The others 25%

**Копія сакрэтнага пратакола з перамоў Чэрчыля і Сталіна ў Маскве** з архіва Чэрчыля. Працэнты напісаў сваёй рукой Чэрчыль, птушку паставіў Сталін.

### Няўдалы кароль

Кароль Павел І, які сеў на трон у 1947-м, быў добрым перамоўшчыкам. Ён умела лавіраваў паміж рознымі палітычнымі сіламі, і пад канец 1950-х здавалася, што хутка Грэцыя стане тыповай еўрапейскай дэмакратыяй.

Але ў 1964 годзе гэты манарх памёр, і на трон узышоў яго 23-гадовы сын Канстанцін ІІ. Ён быў выдатны спартовец, у 20 гадоў узяў алімпійскае золата ў парусным спорце, меў чорны пояс па каратэ і выступаў у плаванні таксама.

Аднак як палітык ён быў ніякушчы. Пры гэтым, у адрозненне ад бацькі, малады кароль яшчэ і марыў атрымаць рэальную ўладу ў краіне і для гэтага інтрыгаваў, мяняў стаўкі.

3 красавіка 1967 года чарговы прэм’ер-міністр Іааніс Параскевопулас сышоў у адстаўку. На яго месца кароль прапанаваў Панаёціса Канелопуласа, кандыдатуру якога адхілілі дэпутаты. Тады Канстанцін ІІ распусціў парламент і прызначыў новыя выбары на 28 мая. На іх яўна мелі перамагчы лібералы-рэспубліканцы. Адначасова манарх рыхтаваў пераварот, які даручыў генералу Грыгорыасу Спандзідакісу. Але той нечакана падтрымаў не караля, а групу палкоўнікаў на чале з Георгіасам Пападопуласам.

Афіцэры дзейнічалі па даўно распрацаваным плане ▶

▸ «Праметэй». Ён прадугледжваў захоп улады вайскоўцамі ў выпадку замежнай ці ўнутранай пагрозы. Раніцай 21 красавіка 1967 года жыхары Афінаў прачнуліся пад грукат танкаў. Па радыё перадалі зварот Пападопуласа, які абвясціў пра рэвалюцыю (прапаганда гэтыя падзеі пазней так і называла — «Рэвалюцыя 21 красавіка»).

Краінай стала кіраваць хунта «чорных палкоўнікаў» («чорных», бо такім быў колер




Залатым векам грэчаскага турызму лічыцца дзесяцігоддзе ад 1955 да 1965 года — час кіравання караля Паўла I. Дзякуючы абдуманай дзяржаўнай падтрымцы турыстычнай галіны, Грэцыя ў тыя гады стала галоўным кірункам адпачынку для турыстаў з Еўропы і ЗША. **На фота: першая лэдзі ЗША Жаклін Кенэдзі на Акропалі. 1961 год.**

## Канстанцін II

нарадзіўся ў 1940 годзе, у красавіку 1941-га з'ехаў з бацькамі ў выгнанне пасля таго, як краіну акупавалі нацысты. Пасля перамогі вярнуўся дамоў, а ў 1947-м бацька Канстанціна стаў каралём. Сам прынц атрымаў добрую адукацыю, паслужыў у арміі і нават стаў залатым медалістам у парусным спорце на Алімпіядзе ў Рыме ў 1960 годзе.

У сакавіку 1964-га Канстанціна II каранавалі. Першы год ён ішоў па шляху бацькі і супрацоўнічаў з прэм'ерам-цэнтрыстам Георгіасам Папандрэу. Але з пачатку 1965-га адносіны двух людзей з амбіцыямі пагоршалі. Папандрэу пажадаў прызначыць «свайго» міністра абароны — кароль адмовіўся, бо хацеў сам кантраляваць вайскоўцаў.

Гэта прывяло да крызісу: розныя групы пачалі змагацца за ўплыў на краіну, за 21 месяц змяніліся пяць урадаў. Пасля Канстанціна чакалі вайсковы пераварот і выгнанне. У 1973-м пасля рэферэндуму краіна стала рэспублікай. А яшчэ адно галасаванне, пасля адхілення ад улады «чорных палкоўнікаў», паказала, што грэкі больш не жадаюць жыць у манархіі. Канстанцін II стаў персонай нон грата і з'яўляўся дома толькі на кароткія тэрміны. Толькі ў 2013-м яму дазволілі вярнуцца і пасяліцца на радзіме, дзе ён жыве і зараз.

іх параднай формы). Грамадзяне не аказалі супраціўлення. Па-першае, яны стаміліся ад перманентнага палітычнага крызісу. Па-другое, за XX стагоддзе вайскоўцы ў Грэцыі ўжо не раз захоплівалі ўладу, але звычайна вярталі яе, калі сітуацыя стабілізавалася.




**Прынц Канстанцін** — будучы кароль Грэцыі Канстанцін II — атрымлівае залаты медаль на Алімпійскіх гульнях у Рыме. 1960 год.

Па-трэцяе, арміі тут традыцыйна давяралі. Адзіны, хто паспрабаваў змяніць сітуацыю сілай, — кароль Канстанцін II, які ўсё марыў аб асабістай уладзе. Ён зрабіў другую няўдалую спробу перавароту і ўцёк за мяжу.

Пападопулас і іншыя «чорныя палкоўнікі» адразу распачалі рэпрэсіі супраць сваіх палітычных праціўнікаў. Выбары былі адмененыя, партыі забароненыя, нават тэатрамі кіравалі сілавікі. У сваім імкненні да «аднаўлення парадку» не забылі ўлады і аб прыватным жыцці. Жанчынам забаранілі міні-спадніцы, а мужчынам — доўгія валасы.

Важныя пытанні лёсу краіны, кшталту ліквідацыі манархіі, вырашаліся на рэферэндумах. Яўка на іх была абавязковай, а тых, хто байкатаваў плебісцыт, маглі пазбавіць працы, грамадзянства, нават адправіць у турму. Афіцыйнай ідэалогіяй стала праваслаўе ў спалучэнні з нацыяналізмам і агрэсіўным антыкамунізмам: «Грэцыя для грэкаў-хрысціян» і «Анархакамунізм не пройдзе».

Адначасова Пападопулас і яго паплечнікі распачалі курс на развіццё прамысловасці.

**Георгіас Пападопулас** (1919–1999) нарадзіўся ў сям'і настаўніка на паўвостраве Пелапанэс. Скончыў вайсковую акадэмію, у вайну служыў у артылерыі. У 1944-м з дапамогай брытанскіх агентаў збег у Егіпет, дзе гуртаваліся афіцэры-манархісты. У Грэцыю вярнуўся разам з брытанскай арміяй. Падчас грамадзянскай вайны актыўна змагаўся супраць камуністаў.

Пры канцы 1950-х гадоў працаваў у спецслужбах, быў сувязным з рэзідэнтам ЦРУ ў Грэцыі. У 1967 атрымаў званне палкоўніка, тады ж узначаліў пераварот. Хутка сканцэнтраваў уладу ў сваіх руках.

Адзін смешны момант. У Грэцыі была вельмі кансерватыўная дыктатура, развод быў магчымы толькі са згоды жонкі, а жонка дыктатара згоды на развод не давала. Тады дыктатар-прэм'ер Пападопулас у 1970 годзе на некалькі гадзін выдаў сакрэтны дэкрэт аб разводах, аформіў уласны развод, пасля чаго час дзеяння дэкрэта скончыўся. Цяпер палкоўнік Пападопулас мог з чыстым сумленнем аформіць афіцыйныя адносіны са сваёй даўняй каханкай. Гэтая гісторыя не фэйк.

Пасля аднаўлення дэмакратыі Пападопулас быў арыштаваны. За былыя злачынствы яго прысудзілі да смяротнага пакарання, якое замянілі пажыццёвым зняволеннем. На свабоду не выйшаў, апошнія тры гады жыцця правёў у анкалагічным шпіталі.




**Аперацыя «Праметэй». Арол у вобразе «чорнага палкоўніка» клюе печань міфічнага Праметэя, які сімвалізуе народ Грэцыі.** Карыкатура на вокладцы савецкага сатырычнага часопіса «Крокодил», 1967 год.

За перыяд дыктатуры доля прамысловасці ў валавым унутраным прадукце паднялася з 10% да 32%.

### Эканоміка, эканоміка

Першы непрыемны званочак для вайскоўцаў прагучаў у красавіку 1971 года — на чацвёртую гадавіну «рэвалюцыі». Некалькі соцень студэнтаў выйшлі на дэманстрацыю з патрабаваннем адстаўкі «палкоўнікаў». Сітуацыя пагоршала ў канцы 1972-га — пачатку 1973-га. Урад адпусціў цэны на 150 тавараў. Інфляцыя пайшла ўгору, але закупачныя цэны для сялян не змяніліся, што выклікала іх абядненне. Грэкі рынуліся за мяжу ў пошуках працы.

Да гэтага дадалася праблема непрызнання дыктатуры заходнімі дэмакратыямі. Рэжым «чорных палкоўнікаў» быў ізгоем, як і дыктатарскія Партугалія і Іспанія. Пападопулас вырашыў легітымізаваць сваю ўладу. Гэтая ідэя па-грэчаску называлася «метапалітэфсі» («палітычны паварот»). У ліпені 1973 года Пападопулас арганізаваў рэферэндум, на якім была прынята новая канстытуцыя. Яна зацвярджала пераход да рэспублікі, кіраўніком якой станавіўся прэзідэнт. Зразумела, што ім стаў Пападопулас.

### Забастоўка ў Афінскім політэхнічным

Дыктатар паабяцаў свабодныя выбары з удзелам усіх палітычных сіл — але толькі праз год пасля прыняцця канстытуцыі. А народ не хацеў чакаць. 14 лістапада 1973 года ў Афінах палыхнула. Калі рэвалюцыю гваздзікоў у Партугаліі ў 1974-м арганізавалі маладыя афіцэры, то ў Грэцыі ў авангардзе аказаліся студэнты. ▶




**21 красавіка 1967 года. Танкі на вуліцах Афін.** На ўзбраенні Грэцыі ў той час стаяла амерыканская тэхніка — танкі мадэлі *M48 Patton III*.

Іскрай стаў прызыў у армію «дэструктыўных элементаў з ліку студэнтаў». Палітрэкрутаў бралі і раней, і пратэсты здараліся раней, але тут шчоўкнуў нейкі тумблер. Раней папратэстуюць і разыдуцца, а ў гэтым выпадку 15 лістапада студэнты Афінскага політэхнічнага ўніверсітэта вырашылі ў знак пратэсту заняць будынкі сваёй ВНУ. Моладзь забарыкадавала ўваходы ва ўніверсітэцкі гарадок. Ва ўніверсітэт сцякаліся людзі, нечакана шмат, 16 лістапада з'явілася новае палітычнае патрабаванне — «адстаўка хунты».

Пападопулас спачатку вагаўся, але 16-га — пятніца, 17-га, у суботу, у Палітэхніцы магло сабрацца яшчэ больш людзей... І Пападопулас заявіў, што «пратэстуноў» падбухторвае СССР (насамрэч, прасавецкія студэнцкія арганізацыі не падтрымалі пратэст, у палітыку Леаніда Брэжнева такое не ўпісвалася), антыкамунізмам хунта апраўдвала ўсе свае дзеянні.

У ноч на 17 лістапада пачаўся разгон. Адзін танк пратараніў чыгунныя вароты ўніверсітэта, на якіх жывым шчытом стаялі людзі... Загінулі 24 чалавекі, студэнтаў сярод іх не было, ахвярамі сталі жыхары Афін, якія сабраліся, каб абараніць моладзь. Яшчэ 1103 чалавекі былі параненыя, 2100 было затрымана.

Грэцыя перажыла шок. «Ястрабы» ў генералітэце абвінавацілі ва ўсім Пападопуласа і яго лібералізацыю. Яны аднавілі ваеннае становішча. 25 лістапада фактычным кіраўніком краіны стаў самы рэакцыйны з генералаў Дзімітрыяс Іаанідзіс.



SHUTTERSTOCK.COM, BY AERIAL-MOTION

**Афінская Палітэхніка** — Нацыянальны тэхнічны ўніверсітэт — знаходзіцца ў цэнтры Афін. Менавіта сярод гэтых будынкаў у стылі класіцызму адбыліся драматычныя падзеі 1973-га.



GREEKCITYTIMES.COM

17 лістапада 1973 года. **Праз хвіліну танк пратараніць агароджу Афінскага політэхнічнага ўніверсітэта.**

### Памылка генерала

Наступіў перыяд паліцэйскай дыктатуры.

Іаанідзіс зрабіў стаўку на вайсковую паліцыю, якая атрымала дадатковыя паўнамоцтвы. Яе супрацоўнікі маглі арыштаваць любога грамадзяніна ў любы час. Дастатковай падставай было падазрэнне ў «здрадзе». Пасля арышту чалавек трапляў у спецыяльную турму ў Афінах. Здзекі і катаванні там лічыліся звычайнай з'явай. Збіццё, пазбаўленне сну, шантаж, забарона ліставання, паўторныя тэрміны.

**Паліцыя мела права арыштаваць любога грамадзяніна ў любы час**

Вырашыць эканамічныя праблемы гэта не дапамагло. Новы ўрад вырашыў адцягнуць увагу ▶



SHUTTERSTOCK.COM, BY JOSE HERNANDEZ CAMERA 51

**Салдаты ганаровай варты** каля Магілы невядомага салдата ў Афінах.

## Грэцыя

**Насельніцтва** 10,7 мільёна чалавек.

**Тэрыторыя** 132 тыс. кв. км (на траціну меней, чым у Беларусі).

**Грэцыя** вядзе сваю гісторыю са старадаўніх часоў. Першыя дзяржавы, населеныя грэкамі, з'явіліся яшчэ ў II тысячагоддзі да н.э. Пазней грэчаскія (элінскія) гарады-дзяржавы засялілі шматлікія прыбярэжныя тэрыторыі — ад Іспаніі да Азоўскага мора. Эліны былі адной з асноў арміі Аляксандра Македонскага і заснавалі шмат краін у Азіі пасля яго паходаў. У канцы I тысячагоддзя да н. э. падпарадкаваліся рымлянам, пасля гібелі Рымскай імперыі сталі асноўным этнасам яе нашчадка — Візантыі. Апошняя была знішчаная ў 1453 годзе, і грэкі надоўга патрапілі пад уладу турак. Вызваліліся з-пад яе толькі ў 1821 годзе, калі і з'явілася сучасная Грэцыя — спачатку каралеўства, а цяпер рэспубліка..

**Сярэдні месячны заробак** перавышае 1100 еўра — амаль у тры разы вышэйшы, чым у Беларусі.

Асноўная тэрыторыя **Грэцыі** размяшчаецца на Балканскім паўвостраве. Але ў яе складзе ёсць больш за тысячу астравоў, з якіх населеныя не больш за 227. У краіны міжземнаморскі клімат і вялізная даўжыня ўзбярэжжа, таму адной з крыніц даходаў грэкаў з'яўляецца турызм. Яшчэ ў краіне шмат гор, самая вялікая з якіх — Алімп, дзе, згодна з міфамі, жылі багі.

### «Кафарэ́вуса» і «дыматыка́»

Пасля таго, як Грэцыя ў 1821 годзе вызвалілася ад турэцкага панавання, у грамадстве наноў паўсталай краіны пачалася дыскусія, якая доўжылася паўтара стагоддзя, — які варыянт грэчаскай мовы мусіць быць у ёй дзяржаўнай? Былі прыхільнікі аднаўлення старажытнагрэчаскай традыцыі, якім пярэчылі прыхільнікі развіцця навагрэчаскай літаратурнай мовы на аснове народных гаворак.

Духоўным лідарам першых быў вядомы элініст Адамантыяс Караіс (1748–1833), які стаў аўтарам моўнай рэформы. Сутнасць рэформы была ў знаходжанні своеасаблівага «сярэдняга шляху» — спалучэнні двух варыянтаў мовы. У выніку была створаная т. зв. «чыстая» грэчаская мова, ці «кафарэвуса», якая захоўвала асновы граматыкі і слоўны запас старажытнагрэчаскай мовы ў спалучэнні з сучасным вымаўленнем. Апаненты ж прапанавалі альтэрнатыву ў выглядзе сістэматызаванай і выпраўленай народнай мовы — «дыматыка́».

У XIX стагоддзі перавагу ў афіцыйнай сферы мела «кафарэвуса», але ў XX-м моўнае пытанне стала палітычным: сацыялісты, як правіла, выступалі за «дыматыку», нацыяналісты — за «кафарэвусу». Канчаткова пытанне вырашылася толькі ў 1976 годзе, калі «дыматыка» была афіцыйна зацверджана ў якасці адзінай мовы адукацыі і адміністрацыі. Паспрыяла такому радыкальнаму вырашэнню пытання тое, што абрыдлая ўсім хунта «чорных палкоўнікаў» узняла «кафарэвусу» на сваіх штандарах і нават забараніла выкладанне «дыматыкі» ў школах, хоць яна прысутнічала там з 1917 года.

ад унутраных праблем з дапамогай «маленькай пераможнай вайны». Было вырашана далучыць Кіпр з яго пераважна грэчаскім насельніцтвам.

Але каля пятай часткі грамадзян вострава складалі этнічныя туркі-мусульмане. Адносіны між грэкамі і туркамі на востраве былі варожыя здаўна, прыкладна як між армянамі і азербайджанцамі.

15 ліпеня 1974 года па сігнале з Афін на Кіпры адбыўся пераварот. Путчысты скінулі прэзідэнта краіны — ім быў архіепіскап Макарыяс, кіраўнік Праваслаўнай царквы вострава, тонкі палітык-рэаліст, які балансаваў між Афінамі і Лонданам, нацыяналістамі і нават камуністамі. Новыя ж улады вострава былі цесна звязаныя з грэчаскімі сілавікамі і павінны былі абвесціць пра ўз'яднанне з Грэцыяй адразу пасля чысткі прыхільнікаў Макарыяса і камуністаў.

Але палкоўнікі не былі гатовыя да таго, што праз пяць дзён на востраве высадзяцца туркі — пад прэтэкстам абароны турэцкай меншасці. Грэчаскія сілавікі, якія нядаўна так бязлітасна разагналі


NYTIMES.COM

**Турэцкі танк на вуліцах турэцкага квартала Нікасіі** — сталіцы Кіпра. 1974 год.

студэнтаў у Афінах, аказаліся няздольныя процістаяць турэцкай арміі. 20 ліпеня турэцкі дэсант высадзіўся на адным з пляжаў Кіпра, 22 ліпеня туркі здолелі захапіць порт Кірэнея і прабіцца да турэцкага анклава ў сталіцы Нікасіі. А грэчаскія самалёты з падмацаваннем не змаглі нават сесці на востраве, у бязладдзі іх падбілі свае ж.

Турэцкія войскі рушылі да межаў Грэцыі. Узнікла рэальная пагроза поўнамаштабнай вайны.

У той жа дзень, 22 ліпеня, генерал Федан Гізікіс па рашэнні калег-афіцэраў запрасіў на сустрэчу шэраг дзяржаўных дзеячаў і грамадскіх лідараў.

На сустрэчы было вырашана адправіць у адстаўку кіраўніка хунты Іаанідзіса — яго зрабілі ахвярным казлом — і прапанаваць пост прэм'ер-міністра



BYGONELY.COM

Хунта хунтай, але жыццё працягвалася: **конкурс прыгажосці «Міс сусвет» у 1973 годзе прайшоў у Грэцыі.**

## Мары пра новую Візантыю

У 20-я гады XIX стагоддзя Грэцыя дабілася незалежнасці ад Асманскай імперыі, хоць і на невялікай тэрыторыі. А ў 1844-м прэм'ер-міністр, Іааніс Калеціс, высунуў **«Вялікую ідэю»**. Яе мэтай была рэстаўрацыя Візантыйскай імперыі ў межах часткі Балканскага паўвострава і Малой Азіі. Падчас войнаў з асманамі і балгарамі краіна здолела пашырыць свае землі. Пасля Першай сусветнай вайны Грэцыя атрымала частку Балгарскай Фракіі, а згодна з Сеўрскай дамовай 1920 года — амаль усю Турэцкую Фракію і акругу Ізміра ў Малой Азіі — так званую «Іанійскую Грэцыю». Палітыкам у Афінах гэтага было замала. Яны марылі пра «Новую Візантыю» са сталіцай у Канстанцінопалі (Стамбуле) і распачалі вайну з Турцыяй (1919–1922). Здавалася, што грэкі перамогуць — яны ўжо стаялі пад Анкарой. Але турак выратаваў Мустафа Кемаль (Атацюрк), які стварыў новую армію і з ёй перамог акупантаў. У выніку Афіны засталіся не толькі без «Новай Візантыі», але і без таго, што атрымалі ў Сеўры, Фракію і Іонію давялося саступіць. А 2 мільёны грэкаў, чые продкі жылі на турэцкіх землях тысячагоддзямі, былі выгнаныя на Балканы. Апошняй спробай рэалізаваць «Вялікую ідэю» стала вайна за Кіпр. Але пасля паразы ў Грэцыі не зніклі рэваншысцкія настроі. Яшчэ нядаўна ў краіне існавала неанацысцкая партыя «Залаты золак», якая нават праходзіла ў мясцовы і еўрапейскі парламенты. У кастрычніку 2020-га яе прызналі крымінальнай структурай, а лідараў адправілі за краты.

Канстанціну Караманлісу — палітыку, які ўжо 11 гадоў як знаходзіўся ў эміграцыі ў Францыі. Ён тройчы кіраваў краінай пры каралю Паўле I — правацэнтрыст, хрысціянскі дэмакрат, чалавек празаходні.

Згодна з планам Гізікіса, генералы захавалі б кантроль над сілавымі структурамі, але адмаўляліся ад палітычнай улады. Генерал Гізікіс набраў тэлефон Караманліса.

Караманліс выслухаў прапановы генерала. І сказаў «не»: «Хочаце, каб я ўзначаліў урад — сілавікі павінны падпарадкавацца мне».

Генерал узяў час на абдумванне.

Пакуль генералы шукалі выйсце, на наступны дзень, 23 ліпеня, Караманліс вылецеў у Грэцыю на самалёце французскага прэзідэнта Валеры Жыскара д'Эстэна. Гэта было пасланне Захаду генералам, кіпрская авантура якіх перапоўніла чашу цярпення не толькі ўнутры Грэцыі, але і ў сталіцах заходніх саюзнікаў. Гізікіс пасланне зразумеў: Караманліс быў прызначаны прэм'ерам на ягоных умовах. А Гізікіс застаўся прэзідэнтам да моманту правядзення свабодных выбараў.

У той жа дзень было заключана першае перамір'е на Кіпры.

У краіне знялі ўсе ранейшыя забароны — ад доўгіх валасоў да музыкаў з чорнага спісу.

У лістападзе ў Грэцыі прайшлі першыя за 11 гадоў свабодныя выбары, на якіх перамаглі правацэнтрысты Караманліса. Другое месца занялі левыя ліберала-рэспубліканцы (тыя самыя, якіх хунта на дапусціла да ўлады ў 1967-м), трэцяе — сацыялісты, чацвёртае — камуністы. Прыхільнікі хунты нават не прайшлі ў парламент, настолькі яны дыскрэдытавалі сябе.

А ў 1975 годзе кіраўнікі хунты паўсталі перад судом.

Караманліс за 6 гадоў прывёў краіну ў Еўрасаюз (тады гэта была яшчэ Еўрапейская эканамічная супольнасць), а праз 5 гадоў вярнуў і ў НАТО, адкуль краіна была выйшла на хвалі падзей 1974-га. Караманліс яшчэ будзе выйграваць і прайграваць выбары (сацыяліст Андрэас Папандрэу доўгі час будзе яго візаві). І толькі ў 1995 годзе 88-гадовы Караманліс нарэшце пакіне палітычную арэну. З пасады прэзідэнта.

## Дзевяць месяцаў і два дні

У выніку правалу авантуры на Кіпры дыктатура «чорных палкоўнікаў» абрынулася за два дні. Але гісторыкі сыходзяцца на тым, што гэта быў толькі фінал працэсу, а сапраўдны ідэалагічны калапс рэжыму здарыўся за дзевяць месяцаў да таго, у выніку пратэстаў у Афінскім політэхнічным універсітэце. Жорсткае падаўленне выступу студэнтаў прывяло да такой хвалі грамадскага абурэння, якая цалкам разбурыла міф пра «ўсенародную падтрымку хунты», а рэакцыя ўладаў паказала, што хунта далёка не маналітная. Жорсткасць генералаў тады прывяла да іх дэлегітымізацыі ўнутры краіны і за мяжою. А ў ліпені 1974-га проста супалі памылка і чалавек: памылка кіраўніка хунты Іаанідзіса, які пралічыўся з Кіпрам, і генерал Гізікіс, які знайшоў у сабе смеласць змяніць сістэму.

Цяпер 17 лістапада — гэта выхадны дзень ва ўсіх універсітэтах Грэцыі, дзень памяці, калі ва ўсіх ВНУ зачытваюць спіс ахвяр 7-гадовай дыктатуры. ◆



**Гарадок Ія на востраве Ціра** прыцягвае турыстаў сваёй незвычайнай архітэктурай.

# СЯРГЕЙ ПАЛУЯН: загадкавая смерць



**Сяргей Палуян у бураковым касцюме** часоў работы ў «Нашай Ніве». Малюнак Лізы Дубінчынай.

**Палуян наклаў на сябе рукі ў 19 гадоў. Чаму? Для сучаснікаў гэта стала шокам. Талент гэта быў каласальны. Так мала пражыў чалавек, а каб не ён, мы сёння не ведалі б, хто такі Максім Багдановіч, піша Паўліна Скурко.**

Супрацоўнікі першай беларускай газеты «Наша Ніва», з якімі Палуян кантактаваў у Вільні ў год перад смерцю, успаміналі яго надзвычайную энергічнасць. Нібы метэор упаў у рэдакцыю, пісаў сакратар «НН» Вацлаў Ластоўскі.

Сярэдняга росту, худатвары, з доўгім носам, з глыбока ўпалымі вачамі, у пенснэ, досыць сутулы, ён быў адзеты ў гарнітур шэра-бурачнага, невыразнага колеру, з-пад якога выглядала чырвоная кашулька. На галаве ў яго быў буланы (відаць, пясочнага колеру, як масць каня) шыракаполы капялюш. Такім упершыню пабачыў Палуяна пісьменнік Цішка Гартны ў рэдакцыі «НН».

### Ніхто не чакаў такога

Летам 1909 года Палуян прыехаў у Вільню, прыйшоў у рэдакцыю «НН» на вуліцы Віленскай і адразу раздаў кожнаму брату па дукату. Пабачыўшы падзел на кіраўнікоў-стратэгаў (Аляксандр Уласаў і браты Іван і Антон Луцкевічы) і рэшту супрацоўнікаў (Ядвігін Ш., Купала, Ластоўскі, Язэп Драздовіч...), ён іранічна ахрысціў іх верхняй і ніжняй палатай. Так і павялося.

Таксама Палуян адшукаў у рэдакцыйным архіве першыя вершы Максіма Багдановіча, якія той даслаў у газету з Яраслаўля, і рашуча настаяў на іх публікацыі. А так бы вершы і згінулі дзесьці між папер, і не мелі б мы сёння літаратурнага класіка. Палуян так палымяна падкрэсліў вартасці паэзіі Багдановіча, што ўсе пагадзіліся. Працягваў упарціцца толькі Ядвігін Ш.: «А ўсё ж гэтыя вершы не для народа». Іронія гісторыі: акурат белетрыстыка Ядвігіна Ш., досыць папулярная ў пачатку XX стагоддзя, праверкі часам не вытрымала.

«Гэта быў самы блізкі друг Янкі Купалы», — успамінала Палуяна жонка класіка, Уладзіслава Францаўна. Сам Купала пісаў пра яго, на восем гадоў маладзейшага, што гэта «чалавек з нештодзённым паглядам». Ён прысвяціў Сяргею паэму «Курган», якую цяпер вывучаюць у школе.

А з будучым першым кіраўніком Савецкай Беларусі Змітром Жылуновічам, а ў той час літаратарам-нашаніўцам Цішкам Гартным, Палуян сышоўся на палітычнай глебе. Яны кожны дзень гулялі па Вільні, пляткарачы пра нашаніўцаў: «усебакова абгаворвалі становішча беларускага нацыянальна-сацыялістычнага руху, палажэнне “Нашай Нівы” і палітычны напрамак ды настрой сяброў рэдакцыйнай калегіі». У калегах ім бракавала радыкальнасці. І Аляксандр Уласаў, і Ядвігін Ш. для іх былі «занадта расплыўчатыя ў поглядах на сацыялістычны рух», гарачых хлопцаў раздражняла іх «інтэлігенцкая адмежаванасць ад рабочых». Гартны і Палуян спрабавалі навярнуць у сваю веру старэйшых таварышаў. Толькі Антон Луцкевіч з усім пагаджаўся (ці ўсур’ёз, ці каб адчапіліся), але і ён застапарыўся на нацыянальным пытанні — не хацеў падзяляць з маладымі «інтэрнацыянальнасць рабочага руху і погляд на пралетарскую базу беларушчыны».

## Пра асабістае жыццё Сяргея Палуяна нічога не вядома

На тры гады старэйшы Цішка Гартны з Палуянам «блізка зжыўся, узлюбіў яго і шкадаваў расстацца». У Вільні Сяргей знайшоў сапраўдных сяброў. Гэты быў вельмі шчаслівы час.

### Гульня «ў хлопчыкі»

Сяргей Палуян быў прадстаўніком першага пакалення беларусаў з нацыянальнай свядомасцю. Гэтыя людзі — феномен, бо большасць з іх свядомасць узгадавалі самі. ▸

### Архіваў не пакінуў

Па Палуяне не засталося архіваў: успамінаў, лістоў, дзённікаў. Яго натуру можам пабачыць хіба ў тым, што паспеў надрукаваць у газетах у свае 18–19 гадоў. А гэта некалькі рэпартажаў для «Нашай Нівы», найбольш — лісты з Украіны (пад іх у газеце завялі спецыяльную рубрыку, якая так і называлася). Колькі тэкстаў для ўкраінскіх газет пра беларускае адраджэнне. А яшчэ — поўныя захаплення артыкулы пра нацыянальнае адраджэнне якутаў і чувашоў. Таксама літаратуразнаўчыя спробы: агляд белліту ад старажытнасці да 1910 года. І дзве замалёўкі, паэзія ў прозе. Адна ўрачыстая — пра тое, што ўваскрос Хрыстос, значыць, уваскрэснуць і беларусы (яна была надрукавана пасмяротна). Другая трагічная, злавесная — пра тое, як памірае вёска, чапляючыся за жыццё, нібы чалавек; смерць з яе спроб смяецца, а лес спачувае, ды маўчыць, бо і яго час настане.

### Павыкручваў ножкі, пасмаліў вочкі

Гісторыя, што характарызуе той жорсткі час, здарылася ў 1909 годзе. Палуян пераказаў яе для чытачоў «Нашай Нівы»:

«У г. Васількаве Кіеўск. губ. нейкая кабеціна дала жабраку, каторы сядзеў на рынку з калекай-дзяўчынкай, ялмужную і прасіла маліцца за душачку яе дачушкі — Насткі, што з год ужо невядома дзе падзелася. Аж тут калечка як крыкне: “Мама, ці гэта ты?!” Матка з радасці і жалю абамлела. Гэты жабрак украў дзяўчынку і, каб болей зарабляць, сумысля акалечыў яе: павыкручваў ножкі, пасмаліў вочкі. Адабралі таксама пакалечанага хлопчыка з другога жабрака. Абодвух жабракоў арыштавалі, а дзетак адабралі».



WIKIMEDIA COMMONS

**А вось так выглядала вуліца Віленская, па якой у 1909 годзе гулялі Сяргей і Цішка Гартны.** Выходзілі з рэдакцыі — і ішлі куды вочы павядуць. Здымак Яна Булгака.

▶ Школа, сям'я, палітыка Расійскай імперыі — нішто гэтаму не спрыяла, наадварот.

Пра дзяцінства Сяргея мы ведаем ад яго сясцёр.

Усім сёстрам запомнілася гульня «ў хлопчыкі». Сяргей рабіў цацкі з палачак і ануч — хусткі, спадніцы павязвалі «жанчынам», штаны і кашулі «мужчынам». З гародніны рабілі гаспадарку, жывёл. Кожны з дзяцей меў сваю вёску з некалькіх сем'яў лялек. Сяргей прыдумваў для іх усялякія заданні: прыбраць хату, скасіць поле, схадзіць у грыбы, па дровы. І патрабаваў, каб у гульні гэты занятак абавязкова заняў столькі ж часу, колькі ў рэальнасці. Дзяўчаты, відаць, трохі нудзіліся, брат настойваў.

Выхавацелем Сяргей быў строгім, нават суровым. Тата даручыў яму навучыць дзяўчат чытаць і пісаць. І сёстры яго пабойваліся: «Мы стараліся збегчы ў сад, але гэта нам не заўсёды ўдавалася. Сяргей не даваў нам спуску, патрабаваў вучыць розныя заданні. Бывала, на дзвярах свайго пакоя тлуста выведзе літару «Ф» і тых, хто не выканаў заданне, прымушаў,


«След. Вечна жывы. Творы. Успаміны. Прысвячэнні. Даследаванні»

**Гімназіст Сяргейка** (крайні справа ў апошнім радзе) з сям'ёй.

як ён казаў, «лізаць ферта». Гэта для нас было вялікае пакаранне. Без слёз не абыходзілася. Нават умяшанне маці не памагала».

Але таксама ён, маючы прыгожы барытон, вучыў сясцёр і братоў рэвалюцыйным песням. Малодшым запомнілася «Отречёмся от старого мира» і «Варшавянка» («Вихри враждебные веют над нами») — гімн рэвалюцыі 1905 года.

## З фота праблемы

Вельмі крыўдна выйшла з фотамі Палуяна. Захавалася сямейнае фота, дзе Сяргею 13 гадоў, і два здымкі ў труне. А дарослыя партрэты зніклі ў вайну: «Да мяне прыйшлі нейкія два беларускія пісьменнікі, папрасілі адзняць», — кажа адна з сясцёр. Больш ні пра фота, ні пра пісьменнікаў яна нічога не чула. Уявіць сабе дарослага Сяргея можна па здымках яго братоў.

## У нашага Сярожанькі явар на двары

Палуян нарадзіўся ў Брагіне, дзе жылі яго дзяды. Дом знаходзіўся недзе на сучаснай вуліцы Кірава (жыхары называюць тую мясцовасць Загароддзе).

А дзяцінства і юнацтва Сяргей Палуян правёў непадалёк ад Калінкавіч (Каленкавіч па-мясцоваму). Сям'я набыла маёнтак у Крышычах і пераехала, калі Сяргейку было тры. Тысяча дзесяцін, у асноўным лес. Маёнтак найбліжэй суседзіў з Прудком — вёскай, якую ўжо ў нашы дні праславіў Андрусь Горват у дакументальна-мастацкім бестселеры «Радзіва Прудок».

Прадавец маёнтка падмануў Сяргеевага бацьку. Ён прадаў зямлю не толькі з доўгам (зямля была закладзена ў банк), але і з вялікім кавалкам у сервітутным, супольным


«След. Вечна жывы. Творы. Успаміны. Прысвячэнні. Даследаванні»

## Брат загінуў у Аргенціне

У Сяргея Палуяна былі дзве старэйшыя сястры і тры малодшыя, а яшчэ двое меншых братоў. Сёстры скончылі гімназію ў Мітаве (цяпер гэта Елгава ў Латвіі), павыходзілі замуж і раз'ехаліся хто куды. Дажылі да старасці. А братоў лёс закінуў далёка. У 1918 годзе яны далучыліся да Белага руху і з Добраахвотніцкай арміяй адступілі ў Югаславію. Рыгор вывучыўся на інжынера, а на тры гады старэйшы Дзмітрый скончыў нафтахімічны інстытут у Заграбе. У 1920-я браты выехалі ў Аргенціну працаваць на нафтавых промыслах. Неўзабаве Дзмітрый памёр ад сухотаў. А Рыгор вярнуўся ў Еўропу ды, паводле сямейнай легенды, жыў у Галандыі. Не так даўно выявілася, што ў канцы вайны Рыгор Палуян вярнуўся ў Аргенціну, дзе ў 1952 годзе трагічна загінуў ад уцечкі газу на рудніку. Разам з ім загінулі жонка і яе брат.



WIKIMEDIA COMMONS, BLAZEJ PIECZYNSKI

**Адна з сямейных страў Палуянаў — хрушчы** (па-руску *хворост*).

Гэту грэчаскую страву на Беларусі гатуюць прынамсі з XIX стагоддзя. Вось рэцэпт са стагадовай гісторыяй з цэнтральнай Беларусі.

*Інгрэдыенты*: мука — 500 г, смятана — 1 шклянка, 4 жаўткі, 2 г солі, 2 г соды. Алей або тлушч для смажання.

З усіх інгрэдыентаў трэба замяшаць цеста і раскачаць. Нарэзаць з цеста палосачкі, падзяліць на невялікія прастакутнікі альбо ромбы, пасярэдзіне кожнага прарэзаць адтуліну ўздоўж і адзін канец прасунуць у яе, а затым пацягнуць за краі па дыяганалі.
У глыбокую патэльню з шырокім дном або ў невялікую каструльку наліць свінога тлушчу ці алею слоем у 4–5 см. Як пачынае смажыцца, хрушч надзімаецца, робіцца аб'ёмным і ўсплывае. Гатоўнасць вызначаем па колеры: ад залацістага да мядовага. Хто любіць моцна хрумсткія — можна патрымаць даўжэй. Трэба толькі сачыць, каб алей не дымеў.
Хрушчы вымаем шумоўкай. Ужо на талерцы іх трэба абавязкова пасыпаць цукровай пудрай. Можна таксама макам, карыцай, какавай і ўсім, чым вы любіце.

карыстанні. Гэта высветлілася, калі сяляне прыйшлі туды пасвіць каровы, а Палуян-старэйшы паспрабаваў іх пагнаць. Сяляне падалі ў суд, і Епіфан Іванавіч з ганьбай прайграў.

Гэта, зрэшты, была не першая няўдача. Яшчэ раней, у Брагіне, Епіфан Палуян займаўся аптовым гандлем прадуктамі. Але бізнэсу прыйшоў канец: Палуяна абакралі цыганы. Зладзеяў не знайшлі. Пасля таго разам з жончынымі братамі ён узяў у арэнду маёнтак, але сумеснае гаспадаранне — сумнеўная радасць, і ўрэшце Епіфан Іванавіч купіў Крышычы.

Веранда з вітражом, абвітая лісіным вінаградам. Сад з жоўтымі слівамі і грушай-сапяжанкай. Агарод. Поплаў, сажалка з гусямі. Бацьку прыйшлося разбудаваць хату, каб усе мелі свае пакоі. Квадратны пакойчык Сяргея з адным акном якраз знаходзіўся ў прыбудоўцы: ложак, стол, этажэрка для кніг (што гэта былі за кнігі, сёстры не ведаюць, Сяргей не дазваляў глядзець: «Вам яшчэ ранавата такое чытаць»). У акне вішня.

Смакі Сяргеевага дзяцінства — калдуны, бабкі, верашчакі, аладкі, дранікі, хрушчы, коржыкі, тарты… Маці гатавала з талентам. Каронная страва — гусь, вэнджаная на зіму, а таксама кілбаскі з гусіных шыек.



KOMANDIROVKA.RU

Крышычы сёння.

Сябрамі Сяргея былі мясцовыя сяляне (тату гэта моцна раздражняла). Асабліва сябраваў ён з нейкім Нічыпарам — нічога, апроч імя, гісторыя не захавала. Сяляне, відавочна, адказвалі хлопцу той жа любоўю. Адна з сясцёр запомніла песню, якой калядоўшчыкі аднойчы прывіталі яго асабіста. Песня яўна старадаўняя, аж чутно, як праз радкі прамаўляюць продкі:

У нашага Сярожанькі явар на двары,
Явар на дварах — тонкі, высокі,
Тонкі, высокі, лістом шырокі.
На тым явары сівы сокал сядзіць, ▸

▶ Сівы сокал сядзіць, далёка глядзіць.
А як далёка? На сінь мора.
На сінім моры ды сем караблёў,
Сем караблёў, усе на парусах.
Прыйшла да Сярожанькі мамачка яго:
— Уставай, Сярожа, уставай, сыночак,
Усе твае караблі туркі забралі,
Сястрычку Анютку з сабой павязлі.



Мужчынская гімназія ў Елгаве (Латвія), былой Мітаве. **У ёй вучыўся Сяргей Палуян.**

### Фатальны сямейны раскол

Палуян падкрэслена, з усімі гаварыў толькі па-беларуску, успамінаюць сёстры. Канечне, гэта была родная мова яго бацькоў. Але для таты, вольнага ад прыгону ў першым пакаленні, такая пазіцыя і мова былі абясцэньваннем усіх асабістых дасягненняў. Беларуская культура, якую так прагна вывучаў Сяргей, у таты асацыявалася з паднявольнай вёскай, якую ён хацеў хутчэй забыць і жыць як вольныя, заможныя, паважаныя члены «российского общества». Гэта як нашы бацькі і дзяды, што столькі сіл паклалі, каб вырвацца з калгасаў, часта не могуць зразумець цікавасць моладзі да зямлі і ўсяго вясковага.

Што ці хто даў штуршок Сяргею да беларускай культуры? Мазырская прагімназія, куды паступіў у 9 гадоў? Своечасова прачытаны «Тарас на Парнасе», які стаў адкрыццём?.. Ці, можа, справа ў натуры Палуяна, якая шукала каранёў і гістарычнай справядлівасці?

Што б ні было каталізатарам, але вынікам стаў фатальны сямейны разлад.

Сяргей спачатку вучыўся ў Мазыры ў прагімназіі, але вылецеў за рэвалюцыйныя погляды. З Мазыра да іх у маёнтак нават прыязджаў валасны прыстаў, які доўга размаўляў з бацькам, пасля чаго 14-гадовага хлопца чакала лупцоўка. Сяргея выправілі вучыцца ў латвійскую Мітаву. Там выкладалі двое матчыных братоў, адзін з якіх быў суворым манархістам. Чакалася, што дзядзькі паўплываюць. Аднак эфект выйшаў адваротны: выступы на мітынгах, улёткі ў асабістых рэчах і — чырвоная кашуля. Такой адзежай у час рэвалюцыі 1905–1907 гадоў абазначалі сябе пратэстоўцы.

З Мітавы 15-гадовы Сяргей вяртаўся пад канвоем жаніха сваёй сястры Ганны. Юнак паспрабаваў уцячы з цягніка і перасесці на іншы, але «канваір» забіў трывогу і хлопца адшукала паліцыя.

Бацька быў у шаленстве і пастанавіў, што сын мае заставацца ў Крышычах на гаспадарцы. Але сёстры ўспамінаюць, што характарам



**Маміны браты, дзядзькі Сяргея**, якія мусілі апекавацца ім у Мітаве. У цэнтры — Вікенцій, ярасны манархіст, з якім у хлопца былі баталіі.

**Чытайце больш:**
Палуян, Сяргей. След, вечна жывы: творы. Успаміны. Прысвячэнні. Даследаванні / укладанне, падрыхтоўка тэксту, аглядныя аналітычныя артыкулы, каментар Таццяны Кабржыцкай і Вячаслава Рагойшы. Мінск: Кнігазбор, 2018. 334 с.



**Парадокс:** у сваіх пошуках беларушчыны Палуян-падлетак натхняўся, сярод іншага, этнаграфічнымі апавяданнямі «заходнерусіста» Аляксандра Пшчолкі.

Сяргей быў у бацьку, таму наскочыла каса на камень. Пасля сваркі сын пайшоў з дому і ўжо не вярнуўся.

## «Белорусский беллетристъ»

Выгнаны з дому, Сяргей праляцеў яркім метэорам па нашаніўскім небасхіле, потым пераехаў у Кіеў. Тут працаваў яшчэ адзін дзядзька, мамін брат Акім, які дапамог уладкавацца ва ўпраўленне Паўднёва-Заходняй чыгункі. З нейкіх прычын юнак там не затрымаўся.

У Кіеве Сяргей піша ў газеты, падпрацоўвае карэктарам (відавочная яго здольнасць да моў — ён хутка засвоіў украінскую), дае прыватныя ўрокі, піша сачыненні гімназістам і рыхтуецца здаваць іспыты за гімназію экстэрнам, каб паступіць у Кіеўскі ўніверсітэт.

Украінскі пісьменнік Мікіта Шапавал, які рэдагаваў артыкулы Палуяна для часопіса «Українська хата», пісаў, што Сяргей заўсёды насіў пры сабе нумары «Нашай Нівы», зборнічкі вершаў і расказваў пра беларускае адраджэнне. Высокі, русавалосы, дужы, чырванатвары юнак, ён усміхаўся, як дзіця, пабачыўшы беларускія кніжкі ў кіеўскай кнігарні, успамінае Шапавал.

Менавіта Шапавалу — свайму сябру, аднагодку Купалы — юнак адрасуе перадсмяротнае пасланне.

Уначы 8 красавіка (па новым стылі 21-га) 1910 года Сяргей вешаецца. Адбылося гэта па адрасе Гогалеўская, 37, дзе хлопец здымаў пакой. Дом знеслі ў 1980-я, на яго месцы цяпер №37/2. Затое суседні, 39-ты, дзе ў часы Палуяна быў прытулак для бедных і сірот, захаваўся.

На пахаванне паехалі бацькі, сясцёр ды братоў не было, ім і не паведамлялі.

Бацьку страшэнна мучыла сумленне. У ноч пасля пахавання ён усхапіўся і хацеў бегчы на могілкі: яму здалося, што Сяргей жывы, што заснуў летаргічным сном.

Рана была такая, што бацька забараніў успамінаць сына ў хатніх размовах. Жонка не пярэчыла, але ўсё жыццё спала на сынавай падушцы (цяпер яна ў фондах музея Багдановіча). А пад падушку клала чырвоную рэвалюцыйную кашулю — каб Сяргейка прысніўся. Яна перажыла сына на 11 гадоў, памерла ад сухотаў.

Сяргея пахавалі на кіеўскіх Байкавых могілках, бацька паставіў на магіле мармуровы крыж, а на гранітнай пліце выбілі: «Белорусский беллетристъ Сергей Полуянъ». Усё ж прызнаў заслугі сына.

Дзіўная сітуацыя з Сяргеевым пахаваннем. Адна з сясцёр кажа, ▶



WIKIMEDIA COMMONS, VI KO

**Многія дамы на Гогалеўскай у Кіеве яшчэ памятаюць Палуяна.** Напрыклад, дом №23 («Дом з катамі») будаваўся ў апошні год жыцця Сяргея. Гэта тыповы мадэрн, стыль той эпохі: дом асіметрычны, аздоблены загадкавымі маскамі, выявамі соў і катоў.

WIKIMEDIA COMMONS, ILYA

што яшчэ да вайны, прыехаўшы ў Кіеў, не знайшлі магілы, а пасля даведалася, што ўчастак адышоў пад знос і там пабудавалі школу міліцыі. Кіеўскі гісторык Дмытро Лукін, аднак, параўнаўшы планы могілак за розныя гады, вызначыў, што плошча цвінтара ніколі не абразалася, толькі расла. А школа міліцыі сапраўды з'явілася ў 1920-я, але аж за кіламетр ад могілак. Таму: або на месцы Сяргеевай магілы ў савецкія часы з'явілася іншае пахаванне, або яго магіла была знішчана падчас будаўніцтва крэматорыя ў 1975-м. Або ён так і ляжыць недзе, забыты.

**У ноч пасля пахавання бацька ўсхапіўся і хацеў бегчы на могілкі: яму здалося, што Сяргей заснуў летаргічным сном**


«СЛЕД. ВЕЧНА ЖЫВЫ: ТВОРЫ. УСПАМІНЫ. ПРЫСВЯЧЭННІ. ДАСЛЕДАВАННІ»

Сяргеева мама, Аляксандра Бахонка, была не з беднякоў і не з прыгонных. Яе бацькі валодалі маёнткам пад Брагінам і мелі некалькі млыноў.
**На фота: Сяргеевы мама і тата неўзабаве пасля яго нараджэння.**

### Самотна жыў, самотна ўмёр

Няясна, што стала апошняй кропляй, пасля якой Палуян учыніў самагубства.

Сучаснікі гадалі. Змітрок Бядуля: «Сяргей быў завельмі гарачы. Не мог мірыцца, што беларуская культура развіваецца вельмі марудна». Пятро Бузук, першы дырэктар Інстытута мовазнаўства беларускай Акадэміі навук: «Апавядаюць, быццам у Палуяна з'явіўся намер парваць з жыццём, калі ён пабачыў, што Беларусь не мае тых спрыяючых умоў для свайго культурнага развіцця, якія ёсць ва Украіне...»

«Няма прынцыпаў нідзе, — гаварыў Сяргей нібыта сабе, зайшоўшы напярэдадні смерці ў рэдакцыю газеты «Рада». — У крыхах жыцця звініць адна няпраўда. Людзі — нешта такое жорсткае, чаго нідзе не пабачыш. Усё сусветнае зло сабралася ў чалавеку, знайшло сваю форму ў гэтай загадкавай злой істоце...»

У перадсмяротнай запісцы — сляды глыбокай дэпрэсіі. Відавочна, жыццё прыносіла яму такі моцны боль, што ён рашыўся перарваць жыццё, каб той боль спыніць.


OLDKIEV.TOP

**Дом, у якім жыў і загінуў Сяргей Палуян.** Будынак прытулку (на фота справа) захаваўся.

### Дэпрэсія

Гэта не проста кепскі настрой, яна не лечыцца салодкім і шпацырамі. Гэта складанае комплекснае захворванне, звязанае і з псіхічнымі, і з фізічнымі працэсамі. Паніжаны настрой, няздольнасць кіраваць пачуццямі, моцнае пачуцце віны, фізічныя болі і сімптомы, што ўплываюць на ежу, сон, сэкс...

У наш час чалавеку ў такім кепскім унутраным стане абавязкова патрэбная псіхатэрапія і медыкаментозная падтрымка. Хоць дэпрэсіўны стан бывае няпроста распазнаць, асабліва калі чалавек адкрыта не сігналізуе пра яго (так і кіеўскія знаёмыя Палуяна ўспамінаюць, што ён хадзіў ціхі і з выгляду радасны). Але калі чалавек хоць нешта ўпамінае пра самагубства, гэта важна пачуць, праясніць, распытаць, ці не думае ён пра гэта.

У яго словах многа самапрыніжэння, хваравітага самаасуджэння: «Сказаць сваё апошняе слова — можа, гэта і “пошло”, але мне ўсё роўна пасля смерці» — так піша пра рашэнне пакінуць запіску. Гневаецца на сябе: «Перадайце шчыры прывет беларусам. Багата я думаў зрабіць, ды не зрабіў нічога». А ў канцы зноў: «І яшчэ адна драбніца: я ўміраю “пошло”, павесіўшыся, бо не было змогі купіць рэвальвера...» То-бок ён асуджае сябе нават за тое, якім чынам памірае.

## «Няма пякнейшага* прызначэння, як набліжэнне праўды і святла»

* пякнейшага = прыгажэйшага. Пекны = прыгожы, харошы, гожы (старое слова).

Відавочна, ён адчуваў сябе глыбока самотным, незразуметым, непабачаным. «Я ніколі не меў больш блізкага чалавека, чым вы, але і вы былі далёка ад мяне. Не зналі вы мяне. Век сам. Я нікога не меў блізкага», — звяртаецца

### «Мода» на самагубства?

Праз чатыры гады пасля Сяргея ў Марыінскім парку Кіева звёў рахубу з жыццём куляй у сэрца яго стрыечны брат і блізкі сябар Іван Бахонка. *«Івасик-Телесик»*, як называлі яго ва ўкраінскім адраджэнні. Бацькі Івана казалі пра «кепскі Сяргееў уплыў». У адукаваным асяроддзі ў пачатку ХХ стагоддзя самагубства магло разглядацца як маркер ідэнтычнасці і як прывілей мыслячага чалавека.

### Дык хоць гэты партрэт хай гавора

Палуян — чалавек, пра якога можна меркаваць па тым, што зрабілі іншыя пад яго ўплывам, і гэта, канечне, дзіўная, але цікавая оптыка.

Багдановіч напісаў тры вершы, прысвечаныя Сяргею.

Першы — кранальны, у адказ на ліст Палуяна ў Яраслаўль. Зместу ліста мы не ведаем, але, відавочна, гэтае пасланне Максіма акрыліла. У адказ ён даслаў сваё фота з подпісам:

Я, нядужы бясскрыдлы паэт,
Помню, раз пазабыў сваё гора,
Бо ў той час атрымаў Ваш прывет.
Я — нядужы, бясскрыдлы паэт.
Мо не выскажа Вам трыялет,
Дык хоць гэты партрэт хай гавора,
Як нядужы бясскрыдлы паэт
На гадзіну забыў сваё гора.

Другі верш Багдановіч напісаў яшчэ пры жыцці Палуяна, але ён да дрыжыкаў прарочы:

Глянь, як зорка у цемні ляціць,
Ўсіх чаруючы светлам сваім,
Быццам змей залаты зіхаціць
І стухае у небе глухім.

Але ўспомніць яшчэ зорку свет,
Бо у сэрцах гарыць яе след.
Так свабодна, так ярка пражыць –
Лепшай долі няма на зямлі.

Ўсё кругом на мамэнт асвяціць
І пагаснуць у цёмнай імглі.
Усё знікае, праходзіць, як дым,
Светлы ж след будзе вечна жывым.

Зорка, знічка — гэта нібы сам Сяргейка Палуян, які праляцеў па Беларусі, асвяціў навакольных і прапаў. Але светлы след пакінуў.




Трэці верш з прысвячэннем Палуяну Багдановіч напісаў аж праз тры гады пасля смерці Сяргея:

Ты быў, як месяц, адзінокі:
Самотна жыў, самотна ўмёр.
Хоць свет і людны, і шырокі, —
Ты быў, як месяц, адзінокі.
Красу і светласць, і прастор
Шукаў — і, ад усіх далёкі,
Ты быў як месяц, адзінокі:
Самотна жыў, самотна ўмёр.

А што галоўнае — «Вянок», адзіная Максімава кніжка, — выйшла з прысвячэннем Палуяну. Зрабіў гэтае прысвячэнне выдавец Вацлаў Ластоўскі на свой страх, без ведама аўтара. Але Багдановіч потым радаваўся такому рашэнню. Першапачаткова зборнік называўся «Кніжка выбраных вершаў», але да яе дадалі выдавецкі загаловак — «Вянок», маючы на ўвазе вянок памяці на магілу сябру.

ён да ўкраінца Шапавала. Яго страшэнна раніла, што ніхто не бачыць яго сапраўднага. А між тым блізкасць — адна з базавых патрэб чалавека.

Палуян піша, што не бачыць сэнсу жыць. І ў яго ўжо няма надзеі на тое, што сэнс жыцця для яго праявіцца: «Жыццё не вартае таго, каб жыць. У марах жыццё — казка, а спраўдзі — гніццё раба і вечная незабяспечанасць. Але не думайце, што я дзеля незабяспечанасці ўміраю. Не. Жыць так, як жыву я, няма ніякай рацыі. Шкода паміраць так марна, але трэба». ◆

Вельмі дзякуем за дапамогу гісторыку **Дмытру Лукіну** (Кіеў), псіхатэрапеўту **Настассі Багранцавай** (Мінск) і **Ганне Паўлаўне Супрон** за рэцэпт хрушчоў.

## Улада народа ў беларускім Сярэднявеччы



# Як палачане князёў выганялі

**У якіх выпадках вольныя палачане «паказвалі князям дарогу» і чаму ім гэта паспяхова ўдавалася, піша Сяргей Емяльянаў.**

У рэгіёне Усходняй Еўропы IX–XIII стагоддзяў, які мы сёння называем Старажытнай Руссю, былі досыць складаныя адносіны між рознымі групамі грамадства: князямі, знатнымі людзьмі, прафесійнымі ваярамі-дружыннікамі, а таксама масамі свабоднага ды залежнага насельніцтва. Неаднаразова, асабліва ў паўночных землях гэтага рэгіёна, грамады і эліты «паказвалі князям дарогу», выганялі іх з пасадаў. У шэрагу такіх выпадкаў досыць выразна адзначаецца і Полацкая зямля, чые межы ахоплівалі тады тэрыторыі сучаснай паўночна-ўсходняй і цэнтральнай Беларусі, а ўплыў распаўсюджваўся на балцкія і фінскія плямёны Падзвіння аж да Балтыйскага мора.

### Чаму гэта было магчыма?

Падаецца, што прычына такога «разгулу дэмакратыі» ў мясцовых краях крыецца ў асаблівасцях сацыяльнага ладу. Нашыя продкі воляй гістарычных лёсаў апынуліся ў даволі шырокай паласе Еўропы, дзе захавалася вялікая частка архаічных рысаў арганізацыі грамадства. Гэтая паласа ахоплівала поўнач ды ўсход кантынента: скандынаўскія, фінскія, балцкія ды часткова славянскія землі.


WIKIMEDIA COMMONS

**Полацк у 1912 годзе** на каляровым фота Сяргея Пракудзіна-Горскага.

У IX–XI стагоддзях, калі адбывалася станаўленне ранняй дзяржаўнасці ў Скандынавіі і на Русі, тут яшчэ не было аформленага сацыяльнага расслаення на замкнёныя групы — карпарацыі, характэрныя для сярэднявечнай Еўропы. Вядома, і тут былі людзі бедныя ды заможныя, былі свабодныя і рабы. Але калі чалавек захоўваў сваю свабоду, то фармальна ён быў роўны любому іншаму свабоднаму чалавеку. Эліты — князі ды баяры — існавалі, але не маглі прэтэндаваць на выключнасць сваёй улады.

Галоўная прычына гэтага ў тым, што ў руках гарадскіх і вясковых грамадаў мелася значная збройная і фінансавая сіла. Гэта прадугледжвала сама пабудова тагачаснай дзяржавы, асабліва арганізацыя войска.

## Са зброяй і сваім меркаваннем

Вайна была адным з галоўных абавязкаў князя, разам з судом і палітычным адміністраваннем. Сам ён узначальваў прафесійнае войска зямлі — дружыну. Гэта такая сабе гвардыя або спецназ тых часоў — група байцоў, добра ўзброеных, падрыхтаваных да вайны як фізічна, так і псіхалагічна.

Але група гэтая была адносна нешматлікай. Як лічыцца, яна складала некалькі сотняў чалавек на цэлую зямлю. Акрамя таго, яна яшчэ была і неаднароднай. Князь непасрэдна кіраваў толькі ваярамі свайго персанальнага атрада, а астатнімі камандавалі іншыя знатныя людзі — баяры ды меншыя князі. Каб яны верна змагаліся за галоўнага князя, той мусіў улічваць іх інтарэсы.

Пастаянна ўтрымліваць вялікае войска было цяжка, яно з'ядала б шмат рэсурсаў, таму ў паўночна-ўсходняй Еўропе гэтага, як правіла, не рабілі. У выпадку ж вайны дапаўнялі збройную сілу з дзвюх крыніц — апалчэння ды наймітаў.

**Полацкія князі мусілі прыслухоўвацца не толькі да знаці, але ўлічваць і волю простага народа**

Апалчэнне набіралася з ліку свабодных людзей, якія былі гаспадарамі на сваіх гарадскіх або вясковых сядзібах. Яны ж бралі ўдзел у народным сходзе — вечы. У выпадку вайны выходзілі ў выправу баяздольныя мужчыны, як мінімум адзін ад гаспадаркі, але магло быць і болей.

Гэта давала князю вялікую масу ваяроў, але гэта ж стварала для яго і небяспеку. Бо свабоднае насельніцтва было, па-першае, узброенае, а па-другое, умела і не баялася гэтай зброяй карыстацца. У баі адзін на адзін прафесійны дружыннік, хутчэй за ўсё, пераможа сялянскага ці купецкага сына. Але які можа быць бой адзін на адзін, калі з аднаго боку — пару сотняў княскай дружыны, а з другога — грамада вечнікаў разам з сынамі ды ўзброенымі нявольнікамі, памерам у некалькі тысяч?

Вось і вымушаны былі князі прыслухоўвацца не толькі да знаці, але ўлічваць і волю простага народа.

## Вікінгі таксама за дэмакратыю

І яшчэ адзін момант. Працэс станаўлення ранняй дзяржаўнасці на нашых землях храналагічна супадае з так званай «эпохай вікінгаў». Магчыма, менавіта выбух знешняй экспансіі ў Скандынавіі быў каталізатарам ▶

### Полацкі вікінг

Мабыць, самы вядомы са скандынаўскіх наймітаў, што пакінулі след у нашай гісторыі, — Эймунд Хрынгсан, які ў пачатку XI стагоддзя са сваёй дружынай увязаўся ў вайну за спадчыну кіеўскага князя Уладзіміра Святога. Калі верыць сагам, то спачатку ён служыў сыну Уладзіміра Яраславу Мудраму (як наўгародскаму, а пазней — кіеўскаму князю), а потым перайшоў на бок Брачыслава Ізяславіча, князя полацкага, ды нават пабыў намеснікам у Полацку.

▶ для сацыяльнай і палітычнай эвалюцыі ва Усходняй Еўропе.

Акрамя гэтага, для ваеннай сістэмы рускіх земляў вікінгі давалі адзін вельмі важны ўнёсак — наймітаў. Удзельнікі вікінгаў (так, «вікінг» — першапачаткова не чалавек, а працэс — марская выправа з мэтай атрымання здабычы, можна было «пайсці ў вікінг») імкнуліся зарабіць любым чынам: не толькі рабункам ці гандлем, але і наёмнай службай.

Найманне варажскіх дружынаў дазваляла князям у выпадку вайны хутка папоўніць войска прафесійным кантынгентам. У той жа час, калі патрэба ў наймітах адпадала, іх можна было выправіць назад на радзіму або яшчэ далей у адваротны бок — у Візантыю.

Але адкуль князь браў рэсурсы на найманне вояроў? У тым ліку з таго, што давалі яму грамады. У выніку свабоднае насельніцтва мела яшчэ адзін інструмент ціску на князя і магло апасродкавана ўплываць на колькасць наймітаў.

**Толькі на паўночным захадзе Старажытнай Русі ўтвараецца такая мадэль, дзе на першым месцы стаяць грамады вольнага насельніцтва — «людзей», а не князь і яго дружына**

Аднак у XI стагоддзі прыток скандынаўскіх вояроў паступова


WIKIMEDIA COMMONS

**Герб Полацкага княства з гербоўніка 1586 года.** Як вам такі варыянт «Пагоні»?

канчаецца. Іх недахоп трэба было неяк кампенсаваць. На поўдні, у Рускай зямлі (так называлі рэгіён, што складаўся з цэнтральных уладанняў дому Рурыкавічаў: Кіеўскай, Чарнігаўскай і Пераяслаўскай земляў) яшчэ з часоў Уладзіміра Святаславіча павялічваецца колькасць залежных ад князя прафесійных дружыннікаў. Зразумела, што вага народных грамадаў і вечавых сходаў зніжаецца. У выніку ў паўднёвых землях складваецца цікавая сітуацыя парытэту паміж трыма групамі інтарэсаў: князем і ягоным атачэннем, грамадамі і магутным земскім баярствам. Асабліва яскрава гэтая сістэма ўзаемаадносін праявіцца ў XII–XIII стагоддзях.

У яшчэ адным рэгіёне Старажытнай Русі, на паўночным усходзе, цэнтральнае месца зойме князь. Тамтэйшыя князі, пачынаючы ад вялікага князя ўладзімірскага Андрэя Багалюбскага (1157–1174), імкнуліся абапірацца на свой двор — слугаў ды залежных людзей. І грамады, і баярства там трапляюць пад уплыў князя.

А вось на поўначы і паўночным захадзе старажытнарускага рэгіёна, наадварот, утвараецца такая мадэль, дзе на першым месцы стаяць грамады вольнага насельніцтва — «людзей». Князі па-ранейшаму маюць абмежаваную ўладу і невялікія збройныя сілы пад рукой, а замест вікінгаў, калі казаць пра Полацкую зямлю, у ролі наймітаў пачынаюць выкарыстоўвацца літоўцы ды іншыя прадстаўнікі суседніх з Полаччынай плямёнаў.

### Не цярпелі чужых

Полацкая зямля вылучаецца сярод астатніх дзяржаў Старажытнай Русі перш за ўсё наяўнасцю сваёй асобнай дынастыі. Калі паўсюль у рэгіёне на сталах сядзелі князі, што выводзілі свой радавод ад легендарнага Рурыка, то полацкія ўладары паходзілі ад не менш знакамітага Рагвалода, хоць з Рурыкавічамі і былі ў блізкім сваяцтве: унук Рагвалода Ізяслаў быў сынам кіеўскага князя Уладзіміра Святаславіча. Кіеўскі летапісец, апісаўшы жахлівую для Полацка вайну канца 1120-х гадоў, а таксама некаторыя наступныя падзеі, робіць устаўку ў свой тэкст, распавядаючы знакамітае паданне пра Рагвалода, яго дачку Рагнеду ды сына Рагнеды Ізяслава, з якім адраджаецца самастойны полацкі княскі дом. Завяршае гэты расповед летапісец такімі словамі: «І з таго часу Рагвалодавы ўнукі ўздымаюць меч на Яраслававых унукаў».

Падпарадкаваць Полацкую зямлю Рурыкавічы хацелі неаднаразова. Яшчэ бацька Яраслава Мудрага, слынны Уладзімір, спаліў Полацк, забіў ▶

ВЯЛІКІ ГІСТАРЫЧНЫ АТЛАС БЕЛАРУСІ. Т. 1. МІНСК 2009. АЎТАР — ВІКТАР ЦЕМУШАЎ.

# Полацкая зямля і яе палітычная актыўнасць у XII стагоддзі.




◉ ПОЛАЦК — Цэнтры княстваў-зямель

⊙ Менск — Цэнтры ўдзельных княстваў

○ Орша — Іншыя населеныя пункты

⊙ Строжаў? — Верагоднае месцазнаходжанне населеных пунктаў

**УМОЎНЫЯ МЕЖЫ**

- дзяржаў і княстваў-зямель у пачатку XII ст.
- далучаных тэрыторый, валасцей, удзельных княстваў
- тэрыторыі, падуладнай менскаму князю Глебу Усяславічу
- Сучасная граніца Рэспублікі Беларусь

**ТЭРЫТОРЫІ**

- якія папераменна знаходзіліся ў валоданні Полацка і Смаленска
- захопленыя смаленскімі князямі ў 1116 г.
- далучаныя да Смаленска каля 1127 г.
- якія ў сярэдзіне XII ст. перайшлі пад уладу чарнігаўскіх князёў
- якія каля 1180 г. адышлі да Польшчы

**ВАЕННЫЯ ДЗЕЯННІ**

- Паход князя Барыса Усяславіча на яцвягаў у 1102 г.
- Барысаў 1102 — Заснаванне г.Барысава і засяленне яго палоннымі яцвягамі
- Безвыніковая аблога Менска паўднёварускімі князямі і полацкім князем Давыдам Усяславічам у 1104 г.
- Няўдалы паход князёў Усяславічаў на земгалаў у 1106 г.
- Паходы менскага князя Глеба Усяславіча на Случаск у 1116 г. і, разам з палачанамі, на Смаленскую і Наўгародскую землі ў 1117 г.
- Паход войскаў Уладзіміра Усевaладавіча Манамаха і іншых князёў на менскага князя Глеба Усяславіча ў 1116 г.
- Паход войскаў князя Мсціслава Уладзіміравіча на Менск у 1117 г.
- # — Месца паланення менскага князя Глеба Усяславіча ў 1117 г.
- Жэлань? — Спецыяльна пабудаваны горад, у які было сагнана насельніцтва абрабаванага ў 1117 г. Друцка
- Паход кааліцыйнага войска на Полацкую зямлю ў 1127 г.
- Вячаслаў Яраславіч — Подпісы ўдзельнікаў паходу
- 1129-1132 — Час княжання ў Полацку кіеўскіх князёў
- Напрамкі паходаў полацкіх князёў на літву і яцвягаў на працягу XII ст.
- Паходы ў час міжусобнай барацьбы паміж менскім князем Валадарам Глебавічам і полацкімі князямі ў 1157, 1162 і 1167 гг.
- Паход кааліцыі рускіх князёў разам з палачанамі супраць тураўскага князя Юрыя Яраславіча ў 1158 г.
- Безвыніковыя аблогі Турава кааліцыйным войскам (кіеўская, смаленская, галіцкая, луцкая раці і палачане) у 1158 г., валынскім войскам у 1160 г.; Пінска беранзеямі ў 1158 г.
- 1160 — Прызнанне Кіевам незалежнасці Тураўскага княства
- Сумесная аблога князямі Мсціславам Полацкім і Расціславам Смаленскім горада Лукі ў 1167 г.
- Паход наўгародцаў і пскавічоў на Полацк у 1169 г.
- Паход на Друцк кааліцыі князёў (Ігар Святаславіч, Яраслаў Усевaладавіч, Усяслаў Полацкі і іншыя полацкіякнязі) у 1180 г.
- Паход палачан разам з літвой на Лукі ў 1198 г.
- Паход у адказ наўгародцаў. Заключэнне міру на р. Каспля
- ПОЛАЦКАЯ ЗЯМЛЯ — Назвы дзяржаў і княстваў-зямель
- селы — Назвы плямён, якія плацілі даніну полацкім князям

## Знакаміты Усяслаў Брачыславіч (Чарадзей) двойчы губляў пасад

У 1067 годзе гэта было вынікам захопу князя ў палон падчас перамоваў з кіеўскімі Яраславічамі. А вось у 1069-м кіеўскі князь Ізяслаў «прагнаў Усяслава з Полацка… а Усяслаў збег». Імаверна, гэта было вынікам таго, што Ізяслаў ішоў на Полацк пры падтрымцы саюзнага польскага войска — занадта вялікая сіла, каб ёй можна было супраціўляцца.



Язэп Драздовіч. **Князь Усяслаў Чарадзей пад Гародняй.** 1944 год.

Рагвалода ды на нейкі час паставіў гэтую дзяржаву ў залежнасць ад сябе. Аднак ужо з яговым сынам Ізяславам нашчадкі Рагвалода вяртаюць сабе полацкі стол. Толькі параза на Нямізе ды кіеўскі палон вырвалі з гэтага стала ўнука Ізяслава, Усяслава Брачыславіча. Усяслаў двойчы губляў пасад — у 1067 і ў 1069 гадах, абодва разы ў выніку дзеянняў кіеўскага князя. Аднак урэшце ён заўсёды вяртаўся. У 1071 годзе Усяслаў выгнаў з Полацка Святаполка Ізяславіча, сына і намесніка кіеўскага князя, ды канчаткова вярнуў сабе ўладу ў сваёй зямлі. Наўрад ці гэта было б магчыма, калі б ён не меў падтрымкі з боку *«людзья»* сваёй дзяржавы.

### І сваім даставалася

У 1120—1130-х крыніцы раскрываюць для нас яскравы сюжэт барацьбы за вярхоўную ўладу ў Полацкай зямлі паміж нашчадкамі Усяслава. У гэтай барацьбе як найлепей бачная роля гарадскіх грамадаў, ад падтрымкі якіх залежаў палітычны поспех таго ці іншага князя.

Крыніцы паіменна прыгадваюць шасцярых сыноў Усяслава. Адзін з іх, Давыд, быў па нейкіх прычынах пазбаўлены ўдзела і знаходзіўся ў Чарнігаўскай зямлі. Адтуль ён браў удзел і ў выправе на полаўцаў, і ў паходзе на свайго брата Глеба Менскага. Пазней жа Давыд нейкім чынам здолеў стаць полацкім князем. Аднак у выніку яго палітычнай кар'еры было наканавана пасці ахвярай знішчальнага паходу на Полацкую зямлю, які зладзіў кіеўскі князь Мсціслаў Вялікі.

Калі войскі паўднёварускіх князёў дасягнулі стратэгічнага



Заір Азгур. **Князь Васілёк Мінскі.** 1943 год. Васілёк — сын менскага князя Валадара Глебавіча, якому полацкі князь Расціслаў раз за разам прайграваў бітвы за Менск.

поспеху на полацкіх памежжах ды, магчыма, накіроўваліся на сталіцу зямлі, веча вырашыла ўзяць справу ў свае рукі. Палачане пагадзіліся са сваёй паразай, але прасілі кіеўскага князя прызначыць ім кіраўніком замест Давыда іншага нашчадка Усяслава — Рагвалода. Магчыма, гэта быў сын знакамітага князя, Барыс-Рагвалод Усяславіч, але выказвалася і думка, што той ужо да таго часу памёр, а згаданы тут Рагвалод — унук Усяслава, сын Барыса-Рагвалода.

Нам жа больш цікавы прынцып палітычнага жыцця старажытнарускай зямлі, які можна назіраць у гэтых падзеях. **Пакуль князь выконвае свае абавязкі і не ставіць краіну пад пагрозу, яму дазваляецца быць кіраўніком. Калі ж ягоныя дзеянні не выгадныя грамадам, веча ўступае ў свае правы і самастойна імкнецца ўрэгуляваць сітуацыю.**

Яшчэ больш яскравае пацвярджэнне гэтаму мы знаходзім у наступных падзеях. Згодна з тагачасным правам, Мсціслаў Вялікі, прызначыўшы сваёй воляй (хай і па просьбе

полацкага веча) князя, меў права лічыць прызначэнца залежным ад сябе кіраўніком ды загадваць яму. Неўзабаве, збіраючыся ў паход на полаўцаў, кіеўскі князь загадаў палачанам падтрымаць выправу. Аднак тыя не толькі не падпарадкаваліся, але і пажадалі палавецкаму князю Баняку здароўя.

Пасля вяртання з выправы Мсціслаў заняўся непакорнымі палачанамі, што скончылася высылкай полацкіх князёў у Візантыю. Баявыя дзеянні летапіс не прыгадвае. Імаверна, што полацкім грамадам быў выстаўлены ўльтыматум, з якім «людзі» зямлі пагадзіліся. З гледзішча мужоў-вечнікаў, рамеснікаў, купцоў ды сялянаў, іх князі, нахабна адмовіўшы Мсціславу, паставілі Полацкую зямлю пад пагрозу паўтору нядаўніх трагічных падзей. Таму абараняць Рагвалодавічаў грамады не сталі, а выдалі іх кіеўскаму князю.

Але самы яскравы сюжэт мы назіраем на мяжы 1150-х – 1160-х гадоў. Тады за ўладу ў Полацкай зямлі змагаліся нашчадкі Глеба Менскага і Барыса-Рагвалода. Першыя абапіраліся на Менск, другія – на Друцк, у Полацку ж кожны з прэтэндэнтаў меў сваю «партыю». Літаральна за некалькі гадоў адбываецца захоп у палон полацкімі вечнікамі князя Рагвалода Барысавіча ды выдача яго менскім князям, выгнанне з Полацка Расціслава Глебавіча ды замена яго на ўсё таго ж Рагвалода, няўдалыя спробы Рагвалода замацаваць перамогу ды, як вынік, ягоныя ўцёкі з Полацка пасля шэрагу ваенных паразаў...

### Не эпізод, а традыцыя

Спецыфіка летапісных тэкстаў такая, што адлюстраванне ў іх дзейнасці грамадаў мае рэдкі і непастаянны характар. На старонках летапісаў фігуруюць у асноўным князі ды іх войскі. Да таго ж уласны полацкі летапіс не захаваўся, мы глядзім на падзеі тых часоў вачыма праціўнікаў Полацка.

Таму і здаецца, што дзейнасць *«людзья»*, «палачанаў», вечаў Полацкай зямлі — толькі маленькія эпізоды ў шматгадовай гісторыі. Але гэта не так. Ужо тыя эпізоды паказваюць, што палачане (як і грамадзяне іншых земляў Старажытнай Русі) ведалі пра свае палітычныя правы і карысталіся імі.

Яны мелі досвед хуткай арганізацыі, маглі калектыўна прымаць рашэнні, таксама калектыўна іх рэалізоўваць. У выпадку патрэбы яны маглі аказаць ціск на князя, нават зняволіць яго, збройна выступіць супраць княскай дружыны. Гэта былі людзі, што прывыклі рэалізоўваць свае калектыўныя мэты, не падмяняючы інтарэсамі князёў інтарэсы сваёй супольнасці і сваёй краіны — Полацкай зямлі. ◆



**Полацк — калыска беларускай дзяржаўнасці.** Памятны знак, які нагадвае адначасова і калыску, і ладдзю. На шчытах абапал падпісаныя гістарычныя постаці і падзеі, важныя для станаўлення беларускай дзяржавы.

SHUTTERSTOCK®.COM, BY SERGEI AFANASEV

**ЮНЕСКА аб'явіла 2020 год годам Фердынанда Рушчыца (1870–1936).** 10 снежня святкавалася 150-годдзе з дня яго нараджэння.

# Рушчыц

## Геній з Багданава, геній у Багданаве

**Усе яго прызнаныя шэдэўры напісаныя ў ваколіцах роднага дома, піша доктар гісторыі Алесь Белы. Пейзажы Рушчыца здолелі перадаць дух гэтага месца — і ў гэтым аказалася геніяльная непаўторнасць. А пісаў Рушчыц усяго 11 гадоў. У 38 гадоў яго як перамкнула.**

На паўночным захадзе Валожынскага раёна месціцца былое мястэчка (цяпер аграгарадок) Багданаў. Гэта радзіма і месца сілы прызнанага майстра сімвалічнага пейзажу Фердынанда Рушчыца. Але пра яго тут сёння мала што нагадвае, акрамя цудам ацалелай магілы на мясцовых могілках. Нягледзячы на тое, што большасць карцін Рушчыца, у тым ліку ўсе яго шэдэўры, напісаныя на кавалачку зямлі ў ваколіцах Багданава і недалёка размешчанага іншага вядомага мястэчка Вішнева. З мясцовай натуры. Мастак маляваў і Крым, і суровую Балтыку, але толькі родныя мясціны далі ягоным творам неверагодныя экспрэсію і глыбіню.

Напэўна, гэтыя мясціны заслугоўваюць таго, каб мастацтвазнаўцы і гісторыкі зноў прачасалі іх, квадрат за квадратам, апазнаўшы і пазначыўшы на мясцовасці кожны схіл і выгін ручая. Але пакуль на месцы былой сядзібы запусценне... Абодва дамы Рушчыцаў, як стары драўляны, так і пабудаваны бацькам мастака каменны «мур», разам з гаспадарчымі пабудовамі згарэлі ў ліпені 1944 года, а бібліятэка і архіў былі разрабаваныя і вывезеныя на ўсход яшчэ раней, пасля першага прыходу саветаў у 1939-м.

### Багданаў і Мінск

10 снежня 1870 года ў Багданаве ў сям'і Эдварда і Альвіны Рушчыцаў у іхным старым, амаль 200-гадовым драўляным шляхецкім доме з лістоўніцы (гл. пра гэта дрэва ў Беларусі артыкул у № 8/2020 «Нашай гісторыі») нарадзіўся сын, якога назвалі Фердынандам. Імёны Эдвард і Фердынанд нязменна чаргаваліся сярод мужчын гэтага роду — так звалі дзеда нованароджанага, а Эдвардам ён пазней назваў уласнага сына.

Увогуле, род Рушчыцаў выводзіў свае карані з-пад Брэста, але да пачатку XIX стагоддзя перабраўся пад Вільню, у тагачасны Ашмянскі павет. Спачатку Рушчыцы атрымалі тут у пасаг маёнтак Войгяны, а затым адсудзілі ў суседзяў Багданаў. Абодва гэтыя маёнткі заставаліся ў сямейным валоданні да пачатку Другой сусветнай вайны.

Эдвард Рушчыц, як і двое яго братоў, скончыў брэсцкі Пажаскі корпус, атрымаўшы чын капітана, і служыў у Лібаве (цяперашняй Ліепаі), дзе пазнаёміўся з дачкой дацкага шкіпера Альвінай Мунк, з якой у 1858 годзе ажаніўся.

Пасля звальнення з арміі бацька будучага мастака служыў чыноўнікам ва ўправе Лібава-Роменскай чыгункі, якая тады актыўна будавалася. У багданаўскае радавое гняздо сям'я вярталася нядоўгімі «дачнымі» наездамі, а пастаянна жыць даводзілася пераважна ў Мінску, дзе працаваў галава сям'і. Ад яго, зрэшты, да Багданава было не так ужо і далёка. Менавіта ў будучай сталіцы Беларусі, а тады простым губернскім цэнтры Фердынанд правёў гімназічныя гады (1883–1890). Мужчынскую класічную гімназію ён скончыў з залатым медалём, а паралельна браў урокі жывапісу ў мясцовага мастака Кузьмы Ермакова. ▶

### Бутля з мінулага

Цікавую гісторыю расказала Ала Макарэвіч, валожынская краязнаўца і актывістка адраджэння багданаўскай сядзібы Рушчыцаў.

У 1995 годзе вернікі Багданава на свае сродкі на старым падмурку пачалі будаўніцтва новага касцёла з сілікатнай цэглы, захаваўшы ў мадэрнізаваным выглядзе некаторыя дэталі старога касцёла.

Аднойчы будаўнікі знайшлі ў старым падмурку закаркаваную бутлю, у сярэдзіне якой быў стары, спісаны з двух бакоў пергамент. Бутлю перадалі на захоўванне ў багданаўскую школу. Ніхто не мог расчытаць рукапісны тэкст, і калі ў 1998 годзе на Дзяды сын мастака Эдвард Рушчыц з Варшавы наведваў магілы продкаў, рэліквію перадалі яму. Аказалася, што на пергаменце 1846 года па-польску пераказвалася кароткая гісторыя касцёла.

Прычым такое рамантычнае пасланне нашчадкам даслала бабуля Фердынанда Рушчыца Ганна (1800–1874), каб адзначыць ролю сваёй сям'і ў адраджэнні касцёла. Бутля праляжала ў зямлі 150 гадоў і дайшла да Ганнінага праўнука.

Ганна Рушчыц занатавала, што касцёл быў пабудаваны яшчэ ў 1690 годзе Пацамі, папярэднімі гаспадарамі маёнтка. У 1836 годзе Багданаў набылі з малатка маладыя Фердынанд і Ганна Рушчыц. Праз некалькі гадоў яны вырашылі аднавіць касцёл, моцна пашкоджаны пасля вайны 1812 года. Рушчыцы пакрылі яго дахам, умацавалі сцены, пафарбавалі і адрэстаўравалі інтэр'ер. Ганна згадала галоўнага будаўніка, селяніна Адама Бурака, які добра выканаў сваю справу, а таксама прапісала ўсіх тагачасных членаў сваёй сям'і: Леанілу, Марыю, Станіславу, Канстанцыю, Эмануэля, Максіміляна і Эдварда (бацьку мастака). Касцёл быў асвечаны ў 1846 годзе.

▶ Памятным месцам Рушчыца ў Мінску пашанцавала значна менш, чым спадчыне іншага нядаўняга юбіляра, кампазітара Станіслава Манюшкі (гл. пра яго артыкул у № 4/2019 «Нашай гісторыі»). Будынак гімназіі, дзе вучылася шмат іншых славутых людзей, да нашых часоў не захаваўся. Не захаваўся і бацькоўскі дом Рушчыца, які суседзіў з тым домам на рагу сённяшніх вуліц Карла Маркса і Леніна, дзе цяпер месціцца музей Петруся Броўкі. Маляваў Рушчыц у Мінску, паводле ўласнага ягонага дзённіка, на закінутых габрэйскіх могілках (цяпер на іх месцы стадыён «Дынама») і ў садзе Свянціцкіх недалёка ад бацькоўскага дома. А выстаўляўся ў 1911 годзе ў доме Ляхоўскага, што месціўся на Саборнай плошчы (цяперашняя плошча Свабоды) на месцы сучаснай Акадэміі музыкі.

Падрабязней пра мінскія мясціны Фердынанда Рушчыца можна прачытаць у артыкуле **Сяргея Харэўскага «Квітнеючы май Рушчыца»** ў часопісе «Мастацтва» (5/2015, с. 46–47).




**Сядзіба Рушчыцаў у Багданаве** і яе інтэр'ер. Фоты Яна Булгака.



### Сімвалічны пейзаж

Пасля заканчэння гімназіі 20-гадовы Фердынанд паступіў на факультэт права Пецярбургскага ўніверсітэта, адначасова наведваючы заняткі ў Акадэміі мастацтваў як вольны слухач. Але кар’ера юрыста, абраная па рэкамендацыі бацькоў, мала яго вабіла. Таму ў 1892-м ён пакінуў універсітэт, пераканаўшыся, што не зможа пражыць без пэндзля і мальберта. І наступныя 5 гадоў вучыўся ў Акадэміі мастацтваў у знакамітых пейзажыстаў Івана Шышкіна і Архіпа Куінджы.

**Рушчыца цікавіў выключна пейзаж, і прытым сімвалічны, поўны намёкаў на ўнутраны свет назіральніка**




За плугам, у поце твару свайго, Чалавек не заўважае, што **Неба так блізка**. Фердынанд Рушчыц. Зямля. 1898 год.

Выбар настаўнікаў быў невыпадковы: Рушчыца цікавіў амаль выключна пейзаж, і прытым сімвалічны. Амаль заўсёды бязлюдны, але поўны намёкаў на ўнутраны свет назіральніка. Людзі, калі яны і прысутнічаюць на карцінах Рушчыца, ніколі не знаходзяцца ў цэнтры ўвагі, яны размытыя і падкрэслена безаблічныя.

4 лістапада 1897 года Фердынанд Рушчыц скончыў акадэмію і атрымаў званне мастака. Трохі раней малады мастак з поспехам дэбютаваў на дыпломнай выставе, прадставіўшы тры вялікія карціны — «Вечаровая зорка», «Трытоны» і «Вясна». І адразу прыйшлі поспехі. «Вясну» набыў для сваёй славутай галерэі вядомы маскоўскі мецэнат Павел Траццякоў. А ў 1898-м пейзаж мастака «Млын на заходзе сонца» набыў іншы вядомы філантроп таго часу Сава Марозаў. Атрыманыя грошы дазволілі мастаку адправіцца ў падарожжа: ён наведаў Германію, Аўстрыю, Францыю, Бельгію, Швейцарыю, Італію. Але праз некалькі месяцаў вярнуўся ў родны Багданаў.

## Зямля і неба

У бабіна лета 1898 года Рушчыц даволі лёгка і хутка напісаў адну з найвядомейшых сваіх карцін, шматзначна названую «Зямля».

16 верасня ў сваім дзённіку мастак так апісаў пачатак працы: «Накідаў вугалем “Зямлю”. Скарыстаўшыся выдатным надвор’ем, ідзём з мамай і татам на поле, дзе капаюць бульбу. Павуцінне. Цёплы і ясны дзень, бязветраны. Жоўтая лістота дрэў на фоне блакітнага неба».

Аднак пры ўсім тым «Зямля» не мае нічога супольнага з ідылічнай карцінай збору ўраджаю. На карціне пара велічэзных, панурых, чорных, як быццам з апраметнай, валоў, якія меланхалічна цягнуць за сабой запрэжку з плугам, і араты, што іх паганяе, павольна прасоўваецца па адным з незлічоных пагоркаў Ашмянскага ўзвышша. Пахмурнае, няветлівае неба з трывожнымі палымянымі аблокамі навісла і быццам націснула на тройцу катаржнікаў, каб зрабіць іх працу яшчэ ►

## «Пейзаж ёсць, але не пахне зайцам»

Сярод студэнтаў, якія вучыліся на мастацкім факультэце Віленскага ўніверсітэта ў той час, як дэканам там быў Фердынанд Рушчыц, былі і вядомыя пазней беларускія мастакі. Пётра Сергіевіч (гл. пра яго артыкул Надзеі Вусавай у № 12/2019 «Нашай гісторыі») успамінаў: «У 1919 годзе адкрыўся ў Вільні ўніверсітэт, а ў ім — мастацкі факультэт. Я пачаў інтэнсіўна рыхтаваць малюнкі... Сабраў усе свае малюнкі і пайшоў да прафесара Рушчыца, дэкана факультэта. Прыняў ён мяне ветліва, паглядзеў добрымі вачыма, сказаў: “Малюйце далей і паказвайце мне”. Мала таго, ён купіў у мяне малюнак — выяву ўніверсітэцкага будынка. Выскачыў я ад Рушчыца без памяці. Так цешыўся! Ён мяне духоўна падтрымаў, заахвоціў, яшчэ і купіў малюнак... каб не Рушчыц, не атрымаў бы я мастацкай адукацыі...»
Добрае ўражанне ад кантактаў з Рушчыцам засталося і ў іншага беларускага мастака з Заходняй Беларусі, сябра Сергіевіча Міхася Сеўрука: «Калі я прывёз з канікулаў досыць шмат эцюдаў, пейзажнага характару, то зрабілі выставу маіх прац на калідоры. Глядзеў яе Рушчыц і зрабіў заўвагі адносна аднаго пейзажа, на якім былі намаляваныя пералескі. Ён сказаў: “Пейзаж ёсць, але не пахне зайцам. Вы мяне разумееце?” І тады паціснуў мне руку і сказаў, што спадзяецца, што з мяне будзе добры пейзажыст».

▸ цяжэйшай, яшчэ больш невыноснай.

Нахіліўшыся над плугам, у поце твару свайго, Чалавек як быццам дэманстратыўна адвярнуўся ад Неба, каб не заўважаць яго насмешлівай блізкасці. Зямля і Неба — у сваім адвечным канфлікце, і паміж імі Чалавек на пупе Зямлі: ці то гераічны Сізіф, прысуджаны Небам да бестэрміновай катаргі, ці то бяссільны Іоў, які чакае вынікаў закладу паміж Богам і Сатаной.

На маю думку, «Зямля» перагукаецца з «Падзеннем Ікара» Пітэра Брэйгеля: там таксама ў цэнтры ўвагі запрэжка аратага, а зусім не ганарысты Ікар, які валіцца з неба. Адно толькі Рушчыц, вядомы схільнасцю да мінімалізму, прыбраў з карціны ўсе неістотныя дэталі. Магчыма, хочучы падкрэсліць гэтым асаблівасць гэтага краю, несувымерна бяднейшага за густа населеную людзьмі і прадметамі Брейгелеву Фландрыю. Тут абсалютны мінімум формаў і фарбаў.

Праз год Рушчыц працягнуў развіццё ідэі «Зямлі» ў карціне «Нядзеля. Ля касцёла», якая прадстаўляе сціплы драўляны касцёл у Багданаве, прысутны і на некалькіх іншых карцінах мастака. Гэта таксама пэўная мадэль узаемаадносін Неба і Зямлі.

### Яблыні, поўныя трывогі і эратызму

Цяжэй за ўсё далася Рушчыцу праца над карцінай «Старыя яблыні». У Багданаве быў велізарны сад, часткова здзічэлы, з лабірынтамі зараснікаў і напаўзакінутых сцяжынак. Увесну 1900-га мастак загарэўся амбіцыйнай ідэяй намаляваць адну і тую ж групу старых яблыняў гэтага саду ў розныя поры года, пры розным асвятленні. Квітнеючыя яблыні на фоне вясновага заходу сонца; яблыні, пакрытыя цёмна-зялёнай лістотай, абсыпаныя спелымі пладамі, у пахмурны ліпеньскі дзень; нарэшце, голыя яблыні на снезе, на фоне яркага сонечнага святла. Алегорыя не толькі гадавога вегетатыўнага цыклу, але чалавечага жыцця і нават гісторыі цывілізацыі.

«З часу маёй “Зямлі”, — пісаў Рушчыц у сваім дзённіку годам пазней, — ніводзін матыў так мяне не пераследаваў, як гэтыя яблыні. Паўсюль яны мне мрояцца, усё, што бачу, прымае выгляд яблыкаў, нават літары, калі спрабую чытаць. Усюды гэтыя буйныя, саспелыя, сакавітыя плады, падобныя да грудзей маладой жанчыны». Эцюды і накіды ліхаманкава маляваліся адзін за адным, ідэі ўспыхвалі і з расчараваннем адкідаліся.


WIKIMEDIA COMMONS

## Рушчыца называлі «мастацкім дыктатарам Літвы»

Па-сапраўднаму праца прасоўвалася толькі над адной з карцін задуманага шэдэўра. У кастрычніку 1900-га Рушчыц, зусім зануранцы пагоняй за недасяжным ідэалам, амаль праз сілу яе адну толькі і скончыў, назаўжды развітаўшыся з першапачатковай задумай трыпціха. Паўгода катаржнай працы — і такі сціплы вынік. Асабліва калі зыходзіць з рынкавых крытэрыяў.

Аднак як мастацкі твор «Старыя яблыні» сапраўды ўдаліся — поўныя схаванай эротыкі і нейкай згусцелай трывогі, «саспэнсу», прадчування катастрофы, якая павольна насоўваецца. Яны, напэўна, маглі б служыць і алегарычнай дэкарацыяй да «Вішнёвага саду» Антона Чэхава, напісанага праз некалькі гадоў. У 1929 годзе карціну набудзе польскі Сенат для параднай залы, а сёння яна экспануецца ў варшаўскім Нацыянальным музеі.

### «Эстэтычнае сумленне Літвы»

Пейзажы з багданаўскіх ваколіц прыносяць Рушчыцу прызнанне: у 1904 годзе яго запрашаюць на пасаду прафесара ў Школу

### Першы беларускамоўны плакат

Адна з афіш Рушчыца, выпушчаная да 1-й Віленскай выставы саматужнага промыслу і народнага мастацтва ў верасні 1913 года, лічыцца першым беларускамоўным плакатам, бо яе кароткі тэкст-анонс пададзены адразу на чатырох мовах: рускай, польскай, літоўскай і беларускай. Сімвалічна, што цэнтральны элемент гэтай афішы — экспрэсіўная выява «Пагоні» ў суправаджэнні тканых народных паясоў з традыцыйнымі літоўска-беларускімі арнаментамі і віленскіх велікодных «пальмаў». Папулярызацыі і ўдасканальванню апошніх Фердынанд Рушчыц прысвяціць шмат гадоў.




прыгожых мастацтваў у Варшаве, а ў 1907-м — у Акадэмію майстэрстваў у тады аўстрыйскі Кракаў. Ён акружаны ўвагай, актыўна ўдзельнічае ў грамадскім жыцці, сумленна выкладае.

Але ўсё ж мастака-ліцвіна нястрымна цягне на радзіму. І ў 1908 годзе адбываецца нечаканы для многіх перalom: Рушчыц, стомлены ад інтрыг у мастацкім асяроддзі і ад балючай настальгіі, адмаўляецца ад паспяховай кар'еры ў Кракаве і вяртаецца дахаты, закінуўшы пры гэтым пэндзлі і мальберт!

«Чаму Рушчыц перастаў пісаць алеем?» — дзівяцца прыхільнікі ягонага таленту ў Варшаве, Кракаве і Вільні. Сапраўды феномен: усе ягоныя знакамітыя карціны былі напісаныя за вельмі кароткі прамежак часу, прыкладна за дзесяцігоддзе з 1898 па 1908 год. А ў апошнія амаль 30 гадоў жыцця творца чым толькі не займаўся: сцэнаграфіяй, плакатам, кніжнай графікай, дэкаратыўна-прыкладным мастацтвам і дызайнам, педагогікай, прадзюсарствам. Жывапіс жа закінуў.

«Індывідуальнае самавыяўленне — гэта занадта эгаістычна і непрадуктыўна», — прыкладна такі прысуд ён вынес уласнай мастацкай творчасці. Перфекцыянізм, часам маніякальны, прымушаў яго занадта доўга працаваць амаль над кожным жывапісным творам. З эканамічнага пункту гледжання гэта бессэнсоўна, а да таго ж забірае каштоўны час, які можна аддаць грамадскай, асветніцкай дзейнасці.

Рушчыц жа імкнуўся змагацца за змяненне эстэтычнай атмасферы ў родным краі ў цэлым, за сімвалічнае асэнсаванне навакольнай візуальнай прасторы ў адпаведнасці з яе гістарычным культурным кодам. Мастак горача верыў сам і хацеў прымусіць паверыць іншых, што гэты край, з яго выпрасаванымі ледавіком пагоркамі, з усеянымі камянямі палямі, з хмурным, вечна дажджыстым небам — не нейкая забытая Богам правінцыя, а паўнавартасная краіна са сваёй эстэтыкай, сваёй мастацкай мовай.

Пра патрабавальнасць мастацкага густу Рушчыца хадзілі легенды. Казалі, напрыклад, што, сустрэўшы даму, якая гуляла па Вільні са стужачкай, што недастаткова пасавала да яе капелюша, ён не мог прайсці міма і абавязкова ладзіў для неспрактыкаванай модніцы «сеанс эстэтычнага лікбезу». Робячы тое з бездакорнай галантнасцю і прыязнай усмешкай на твары. За гэтую патрабавальнасць яго называлі то «мастацкім дыктатарам Літвы», то яе «эстэтычным сумленнем».

**Рушчыц проста на вуліцы мог зладзіць «сеанс эстэтычнага лікбезу» для модніцы**

### Стаў менеджарам

З пункту гледжання мастацкай крытыкі — і, магчыма, нашага сённяшняга, — Рушчыц тады марнаваў талент, малюючы розныя афішкі патрыятычных імпрэзаў, што мог бы зрабіць любы студэнт. Але яму самому здавалася, што без ягонай ахвярнасці гэтыя імпрэзы папросту не адбудуцца, і ў кожную дробную афішку або нават марку для збору сяброўскіх складак ён укладаў усю душу.

На радзіме Рушчыц нарэшце ўладкаваў і сямейнае жыццё. У 1913 годзе 42-гадовы мастак нарэшце ажаніўся з маладзейшай за яго на 22 гады Рэгінай Рук (*Rouck*), якую ласкава зваў Гінай. І традыцыя з пакалення ў пакаленне чаргаваць ►

у сыноў-першынцаў імёны Фердынанд і Эдвард на ім не перапынілася. Дарэчы, вянчаліся Фердынанд з Рэгінай у касцёле Святога Барталамея на віленскім Зарэччы — адзіным, у якім сёння ў літоўскай сталіцы праводзяцца беларускамоўныя імшы.

З 1919 года ён быў дэканам факультэта мастацтваў у адроджаным Віленскім універсітэце. А акрамя выкладання, у апошнія 15 гадоў жыцця Рушчыц добра праявіў сябе і як актыўны культурны менеджар. Ён у той ці іншай ступені ўдзельнічаў у рэалізацыі многіх грамадска значных культурна-мастацкіх праектаў, што рэалізоўваліся ў той час у Вільні і краі. Сярод іх можна прыгадаць стварэнне срэбнага саркафага святога Казіміра ў 1922 годзе і рэстаўрацыю цудоўнага абраза Маці Божай Вастрабрамскай у 1927-м.

У 1932 годзе мастака разбіў параліч. І хоць дзякуючы самаадданай апецы жонкі і дачкі ён часткова яшчэ ачуняў і нават навучыўся збольшага пісаць левай рукой, пажыў пасля таго нядоўга. 30 кастрычніка 1936 года Фердынанд Рушчыц адышоў на той свет у тым самым Багданаве, дзе амаль 66 гадоў да таго з'явіўся на гэты свет.

Магчыма, гэта была ласка Божая: мастаку не давялося ўбачыць ні жахлівай вайны, ні спусташэння роднага Багданава, ні поўнага краху той культуры, якая была яму дарагая.

Апошнія гады пры ўдзеле ўнука мастака, таксама Фердынанда, актыўна ідзе падрыхтоўка да аднаўлення багданаўскай сядзібы. Але наколькі хутка стартуе гэты праект цяпер, пасля надзвычай цяжкага юбілейнага года, — пытанне. ◆


STREFA.SE

## Пальмы-«рушчыцоўкі»

Шмат намаганняў Рушчыц аддаваў арганізацыі кірмашоў народнага мастацтва — перш за ўсё рэарганізацыі штогадовага свята ў гонар дня святога Казіміра, нябеснага апекуна Літвы, у поўнамаштабны фестываль еўрапейскага ўзроўню. Складанне «віленскіх пальмаў», дэкаратыўных кампазіцый да Вербнай (Пальмавай) нядзелі з вясновых галінак вярбы, сухіх кветак, каляровых стужачак дзякуючы патранажу Рушчыца набывае рысы высокага мастацтва, становіцца прэстыжным, пачынае ўспрымацца як неад'емная частка самай душы Літвы.

Для вырабу такіх пальмаў выкарыстоўваецца да 50 відаў сухіх зёлак, якія збіраюць увесь вегетатыўны сезон, бо кожная мае свой пік выразнасці. Сённяшнія пальмы, вырабленыя ў закладзеных мастаком традыцыях, нярэдка называюць «рушчыцоўкамі». Часам яны дасягаюць вышыні ў 2 метры.

Выйшлі з друку два абсалютна новыя для Беларусі часопісы. Адзін называецца «Дуду», а другі — «Асцярожна: дзеці!». Купіце сваім малым два: яны самі разбяруцца, каторы ім цікавейшы. Часопісы прадаюцца ва ўсіх шапіках, кнігарнях, а таксама гіпермаркетах. «Асцярожна: дзеці!». Тут галоўныя героі — Цім, Мара, сабака Газ, кот Тормаз і Занадта Разумны Смартфон — разблытваюць розныя дэтэктыўныя гісторыі. І заадно разам з чытачамі спазнаюць свет. У часопісе — і карысная інфармацыя, і захапляльныя прыгоды, і заданні, якія трэба выканаць, і конкурсы, у якіх можна перамагчы, і QR-коды, па якіх можна будзе выйсці на старонкі ў інтэрнэце з цікавай інфармацыяй. У кожным выпуску Цім, Мара, Газ і Тормаз будуць шукаць скарбы, апынуцца ў надзвычайных сітуацыях і пры гэтым будуць карыстацца самымі сучаснымі тэхналогіямі. Купляйце і чытайце! А найлепш — выпісвайце! Гэта самы выгадны варыянт.

**Падпісны індэкс**
**«Асцярожна: дзеці!» — 75080**
(ведамасны 750802)




# Найлепшы падарунак дзецям «Дуду» і «Асцярожна: дзеці!»




Часопіс «Дуду» разлічаны на дзяцей да сямі гадоў, але чытаць яго могуць дзеці ад 1 да 101 года. Казкі, вершы і нават музыка ды песні (іх можна прайграць па QR-кодах), інтэрактыўныя гульні, коміксы, конкурсы, дзівосы, сюрпрызы — усё гэта будзе ў кожным нумары часопіса. А таксама заданні на развіццё логікі, увагі і памяці, дробнай маторыкі, для папаўнення слоўнікавага запасу і падрыхтоўкі да школы. Яшчэ мы будзем дапамагаць дзецям вучыцца чытаць, пісаць і лічыць. Нумары часопіса будуць тэматычнымі. Тэмы нумароў: каты і іх жыццё, метро і іншы транспарт, булачкі і цукеркі, зоркі і касмічныя караблі, сонца і хмары, любімыя святы, небяспечныя драпежнікі і пеўчыя птушкі і іншае… Героі часопіса — хлопчык Зор, дзяўчынка Лёля і падушка Дуду — стануць надзейнымі сябрамі чытачоў. Купляйце і чытайце! А найлепш — выпісвайце! Гэта самы выгадны варыянт.

**Падпісны індэкс «Дуду» — 75081** (ведамасны 750812)

# НЯДЗЕЛЯ *ля касцёла*

**Піша мастацтвазнаўца Надзея Вусава.**

«Ля касцёла» (1899) Рушчыц напісаў яшчэ зусім маладым чалавекам, у 29 гадоў, усяго праз два гады пасля заканчэння Імператарскай Акадэміі мастацтваў у Санкт-Пецярбургу і пасля трохмесячнага еўрапейскага падарожжа.

У Парыжы ён за паўгадзіны да закрыцця музея заскочыў на выставу Клода Манэ і прастаяў, зачараваны яго святлом і сонцам. Гэта і засталося галоўным уражаннем ад усёй Еўропы і паўплывала на творчасць маладога Фердынанда.

Хоць дыпломная карціна «Вясна» і пазнейшая «Ля касцёла» (паміж імі — два гады) напісаныя ў адной манеры пленэрнага эцюда *a la prima*, як вучыў у акадэміі прафесар Архіп Куінджы, у апошнім творы бачны ўжо іншы Рушчыц — той, які адчуў сваё прызначэнне ў мастацтве як песняра **свайго краю**.

### Багданаўская ізаляцыя

Пасля заканчэння акадэміі Рушчыц планаваў вярнуцца ў Мінск, дзе прайшлі яго гімназічныя гады. Але яго бацьку, рахункавода Лібава-Роменскай чыгункі, адпраўляюць заўчасна на пенсію. Сям'я пераязджае ў радавы маёнтак Багданаў.

Там Рушчыц наноў адкрывае сваю вясковую радзіму і зачытваецца паэмамі Адама Міцкевіча.

Гэта былі гады, калі акурат мода на паўднёвую экзотыку

Нягледзячы на дынаміку руху аблокаў і галін дрэў пад ветрам, карціна працятая адчуваннем ціхамірнасці рэальнай жыццёвай сцэнкі, малітоўнага стану і філасофскага асэнсавання духоўнага і рэальнага быцця чалавека. Здаецца, сам вось-вось пачуеш, як б'юць касцельныя званы.

**Нізкая лінія гарызонту** дае адчуванне манументальнасці пейзажу, хоць карціна больш настраёвая.

**Храм у нядзелю перапоўнены.** Вернікі, якія сабраліся на імшу, стаяць на каленях у чаканні святых сакрамэнтаў ля касцёла. Яны напісаныя некалькімі раздзельнымі мазкамі, як у імпрэсіяністаў. Смелы прыём: спінай да гледача на пярэднім плане — постаць старога, які панура сядзіць на валуне, грэючыся на сонцы.

Рушчыц надае асаблівую ўвагу **сонечнаму святлу і рэфлексам**. Сонца адчуваецца ў тым ліку праз доўгія каляровыя цені, якія адкідаюць дрэвы на зямлю і сцены касцёла ды званіцы.



**Фірмовыя Рушчыцавы аблокі** — шчыльныя і цяжкія, як падушкі, — з'явяцца пазней. Тут аблокі яшчэ іншыя, кучавыя.

**Касцёл Міхала Арханёла** — выдатны прыклад беларускага драўлянага дойлідства. Але на карціне Рушчыца — не помнік архітэктуры. Кампазіцыя карціны – мастацкая інтэрпрэтацыя рэчаіснасці. Рушчыц робіць будынак касцёла значна вышэйшым за званіцу, кадруе выяву такім чынам, што ў яе трапляюць толькі частка званіцы і невялікі фрагмент фасада касцёла.

**Аўтарскі «асаблівы шэры»** — тон дрэва, высушанага вятрамі і абмытага дажджамі, які так любіў Рушчыц у сялянскіх пабудовах беларускіх вёсак. Той самы шэры, які Міхал Анемпадыстаў лічыў адным з «колераў Беларусі».

Крыма і Маларосіі саступіла месца цікавасці да паўночных пейзажаў: шмат хто з мастакоў ездзіў у паўночныя вобласці Расіі, каб пісаць прыгажосць зімовай прыроды. А Фердынанд пры бацькоўскай сядзібе амаль інтуітыўна адкрывае *terra incognita* — беларускую вёску, яе каларыт.

«Адкуль гэтыя матывы? — пытаюць усе мяне. Дарэмна ▸




**Касцёл быў велічны ў сваёй прастасці.**

▸ шукаць той край. Але адказваю, што з Віленскай губерні».

Менавіта там, у Багданаве, сярод шляхецкіх сядзібаў і беларускіх палёў, нараджаецца не пераймальнік Архіпа Куінджы, не паслядоўнік Івана Шышкіна, а сапраўдны нацыянальны мастак.

## «Наш сціплы касцёлік»

У сядзібе часта бывалі госці: сябры, сваякі, калегі. Усім Рушчыц з гонарам паказваў і фамільны збор карцін, і бібліятэку з 5 000 тамоў, і алеі старажытнага парку, і сажалку з востравам, дзе ён любіў у адзіноце сядзець і назіраць за прыродай, каб маляваць «штосьці зусім іншае».

І абавязкова — касцёл. Свайго сябра-фатографа Яна Булгака Рушчыц павёў глядзець старажытны алтар позна ўвечары, са свечкамі ў руках. Касцёл быў велічны ў сваёй беднасці, прастасці архітэктурнай формы, сялянскасці. Булгак параўнаў яго тады з народным прыдарожным крыжам, які стаяў перад ім са страчанай фігурай Хрыста.

Багданаўскі касцёл Міхала Арханёла — выдатны прыклад беларускага драўлянага дойлідства канца XVII–XIX стагоддзяў. У ім мастак быў ахрышчаны. Але на карціне Рушчыца — не помнік архітэктуры, а мастацкае асэнсаванне рэчаіснасці. Гэты твор — нешта сярэдняе паміж жанравай карцінай і пейзажам настрою. Невыпадкова Рушчыц даў яму аўтарскую назву «Нядзеля. Ля касцёла». У карціне можна адчуць настрой святочнага дня, яднанне зямлі, святла, людзей, нябёсаў, з гулкімі гукамі званоў, якія паўстаюць ва ўяўленні гледача.


**Новы касцёл у Багданаве —** фантазія на тэму віленскага барока.

STAYDREAMERBRO.COM

## Клопат пра новы касцёл

Рушчыц пісаў вельмі кароткі перыяд — толькі да 1908 года. Пасля перамкнула.

Яго моцна турбавалі грамадскія справы. Напрыклад, ён марыў пра пабудову ў Багданаве новага касцёла побач са старым.

Ён любіў стары драўляны касцёл — сведку ўсіх сямейных падзей, разумеў яго гістарычную значнасць. Але храм ужо не змяшчаў усіх вернікаў, што бачна нават на карціне мастака. Католікі Багданава марылі пабудаваць новы касцёл і прасілі ўплывовага земляка, дэкана факультэта жывапісу Віленскага ўніверсітэта, у гэтым паспрыяць.

Рушчыц запрашаў у Багданава буйных каталіцкіх іерархаў у надзеі на іх падтрымку, у тым ліку фінансавую. Так, у 1924 годзе ён даў званы абед на 24 персоны ў гонар візіту ў Багданава віленскага біскупа Юрыя Матулевіча. Але праз год Матулевіч пакінуў біскупскую кафедру, і справа спынілася.





У чэрвені 1932-га Рушчыц зноў прыняў у сябе ўплывовага клірыка — віленскага арцыбіскупа Рамуальда Ялбжыкоўскага. Парафіяне прымалі біскупа хлебам-соллю, нават пабудавалі дзве аркі, упрыгожаныя кветкавымі гірляндамі.

Але не атрымалася і на гэты раз. У 1932 годзе рухавіка справы, Фердынанда Рушчыца, разбіў параліч, які вымусіў яго пакінуць Вільню і апошнія 2 гады жыцця правесці ў Багданаве пад апекай жонкі і дачкі. Ян Булгак зноў зробіць падрабязную фотафіксацыю сядзібы, у тым ліку і некалькі мастацкіх здымкаў багданаўскага касцёла, ужо схаванага ў густым цені вялікіх дрэў.

У сваім касцёле Рушчыц і быў пахаваны 2 лістапада 1936 года пры вялікай колькасці народу, у тым ліку ўніверсітэцкай прафесуры, калег і вучняў. Захавалася жалобная фатаграфія Яна Булгака, інтэр'ер касцёла з труной Рушчыца. Жыхары Багданава пранеслі труну на руках па старадаўняй бярозавай алеі, якую ён рамантычна апісаў у сваёй «Баладзе».

## Касцёл пасля Рушчыца

Стары касцёл з палатна Рушчыца не захаваўся. Ён разам са значнай часткай вёскі згарэў у ліпені 1944-га, калі тут праходзіў фронт.

Падрабязней пра мінулае і сучаснасць касцёла Святога Міхала Арханёла ў Багданаве глядзі ў відэаматэрыяле Беларускага дзяржаўнага музея народнай архітэктуры:



Пасля вызвалення парафіяне на працягу двух месяцаў аднавілі касцёл, адбудаваўшы яго з дрэва ў ранейшым выглядзе. Але ў савецкай дзяржаве будынак пабыў храмам нядоўга — неўзабаве стаў складам лёну, а ў 1977 годзе ўвогуле згарэў.

У 1990-х вернікі пабудавалі мураваны касцёл — практычны, але далёкі ад прыгажосці будынак. А зусім нядаўна, у 2015 годзе, касцёл быў узноўлены ў стылістыцы «фантазія на тэму віленскага барока» ксяндзом Ігарам Лашуком. Ён ужо ніяк не нагадвае стары драўляны.

### Вяртанне карціны

Больш чым праз паўстагоддзя пасля напісання карціна «Нядзеля. Ля касцёла» высілкамі Алены Аладавай, шматгадовай легендарнай дырэктаркі Мастацкага музея, вярнулася туды, дзе была створана, — у Беларусь. Аладава знайшла карціну ў калекцыі ленінградскага архітэктара, члена Акадэміі навук Абрама Шустэра.

Карціна Рушчыца знікла з мастацкіх даляглядаў пасля венскай выставы 1902 года. Верагодна, тады карціну і набыў купец першай гільдыі, філантроп Ігнат Шустэр (1863–1913), які збіраў карціны рускай акадэмічнай школы. Яго спадчыннік Абрам Ігнатавіч больш любіў старых еўрапейскіх майстроў. А таму ён ахвотна развітаўся з творам Рушчыца, калі Аладава ў 1957 годзе прапанавала прадаць карціну мінскаму музею за 12 000 дарэформенных савецкіх рублёў. Капейкі, па вялікім рахунку, — гадавы заробак службоўца ў той час. Цяпер яе кошт вымяраецца дзясяткамі тысяч даляраў. Гэта была адна з самых выгадных дзяржаўных інвестыцый у гісторыі Беларусі.

Доўгі час яна была адзіным творам Рушчыца ў Беларусі. А ў 2020 годзе з сямейнага збору ўнука мастака Фердынанда Рушчыца ў музей трапілі яшчэ тры невялікія эцюды, на якіх — Мінск пачатку XX стагоддзя.

Творы Рушчыца цяпер ёсць і ў карпаратыўнай калекцыі «Белгазпрамбанка», і ў прыватных калекцыях. ◆

# Забойства эмігранта

## Укол парасонам


WIKIMEDIA COMMONS

«Ну што там у нас?» — спытаў хірург лонданскай бальніцы Сэнт-Джэймс Бернард Райлі ў дзвюх маладзенькіх медсястрычак, выціраючы старанна вымытыя з мылам рукі.

«Хуткая прывезла... Кажа, што яго КГБ застрэліў», — са смехам адказала старэйшая з іх з намёкам, што тут трэба дапамога псіхіятра, а не хірурга.

Доктар Райлі прайшоў у палату. Пацыент ляжаў і стагнаў.

Гэтым пацыентам быў Георгій Маркаў — самы значны з балгарскіх пісьменнікаў XX стагоддзя.

### 16-я рэспубліка СССР

Балгарыя ў 1970-я была самым верным сатэлітам СССР. Венгры бунтавалі ў 1956-м, чэхі — у 1968-м. Берлінскія рабочыя пратэставалі ў 1953-м. Палякі ў розных гарадах падымаліся ў 1956-м, 1970-м і 1976-м, а пасля будзе і «Салідарнасць». У Румыніі Нікалае Чаўшэску вёў двайную гульню. З аднаго боку, ён заставаўся ў Варшаўскай дамове, а з другога — наладжваў сувязі з Кітаем і краінамі Захаду. Румынскі дыктатар баяўся апынуцца на лініі агню ў выпадку пачатку Трэцяй сусветнай, хацеў атрымліваць заходнія тэхналогіі і нават ацэньваў магчымасці паставак заходняга ўзбраення праз Югаславію ў выпадку інтэрвенцыі СССР. Неспакойны ён быў саюзнік.

І толькі Балгарыя дэманстравала абсалютную вернасць «старэйшаму брату» і нават прасілася 16-й рэспублікай у СССР — яе не прымалі, бо як на тое паглядзіць свет?

Кіраўнік Балгарыі Тодар Жыўкаў, балканскі селянін з хітрым прыжмурам вачэй, смактаў з Расіі нафту за балгарскія перац і кетчуп. Свабоды ў Балгарыі было менш, чым у Югаславіі ці Венгрыі, але трохі больш, чым у СССР. Заходнія турысты на Златніх Пясыцах прыносілі цвёрдую валюту.

Жыўкаў быў чалавек, па сутнасці, просты, але з гадамі стаў лічыць сябе богадараваным кіраўніком і вялікім дабрачынцам Балгарыі. Столькі пабудаваў, столькі развіў! Няўдзячнасць некалькіх дысідэнтаў, якія мелі нахабства ўцячы з краіны ды яшчэ і паліваць дасягненні Народнай Рэспублікі брудам з-за мяжы, Жыўкаў успрымаў як асабістую здраду.

Двое выклікалі асаблівы гнеў Жыўкава. Гэта Іван Костаў — былы агент балгарскай дзяржбяспекі ў Францыі, які папрасіў там палітычнага прытулку. І Георгій Маркаў — пісьменнік, які выехаў на Захад, распачаў працу на Бі-бі-сі. «Завочныя справаздачы пра Балгарыю» Маркава чыталі на радыё «Свабодная Еўропа», яны моцна ранілі самалюбства Жыўкава. Гэта была, магчыма, самая моцная балгарская кніга XX стагоддзя. У гэтым творы выкрываліся лжывасць і гніль сацыялістычнай сістэмы — харызматычны Маркаў, любімчык дачкі Жыўкава, Людмілы, апякункі культуры і аматаркі акультызму адначасова, ведаў сістэму як ніхто.

Менавіта Жыўкаў загадаў «вырашыць пытанне з гэтымі двума».

Для балгарскай дзяржбяспекі знішчэнне палітэмігрантаў было складанай задачай, рызыкоўнай. Таму міністр унутраных спраў Балгарыі Дзімітар Стаянаў папрасіў у Маскве «спецсродкі» — а менавіта яды.

Спачатку меркавалася забіць з дапамогай гелю — намазаць ручку машыны Маркава. Але ад такога варыянту адмовіліся, бо мог загінуць хтосьці іншы. Разглядалі ідэю нанясення гелю на цела Маркава падчас яго адпачынку на Сардзініі — таксама адмовіліся: немагчыма было спрагназаваць час з'яўлення на пляжы. Спыніліся на спосабе больш надзейным.


SHUTTERSTOCK.COM, BY 2HAPPY

## Нібы ўкус, нібы ўкол

На працу ў Бі-бі-сі Маркаў дабіраўся заўсёды тым самым спосабам. Аднойчы, калі ён чакаў аўтобуса на мосце Ватэрлоа ў Лондане, ён адчуў нібы ўкус пчалы ззаду ў сцягно ці ўкол, пякучы боль. Ён павярнуўся і пабачыў чалавека, які толькі што ўпусціў на зямлю парасон. Той падхапіў парасон, кінуўся ў таксі, што стаяла побач, і паехаў.

Эпізод з уколам быў дзіўны, і Маркаў расказаў пра яго на працы. І ўжо на працы Маркаву стала нядобра. Дома яму рабілася яшчэ горш. Выклікалі доктара — той распытаў і не прыехаў, па сімптомах гэта спачатку было як грып. Пад вечар наступнага дня стан стаў нясцерпны. Тэрапеўт нарэшце агледзеў Маркава, пісьменнік паказаў яму і рану на назе. Доктар западозрыў слупняк.

Пасля гэтага Маркава вязуць у бальніцу Сэнт-Джэймс. Шанцаў у дысідэнта, папраўдзе, не было. Атруцілі яго рыцынам, на той момант антыдоту ў гэтага яду не было.

Хірург Райлі, у адрозненне ад медсёстраў, словам Маркава паверыў і паведаміў пра дзіўную хваробу Скотланд-Ярду. Але да моманту, калі прыехаў афіцэр паліцыі, пісьменнік ужо страціў прытомнасць. Рэанімаваць і апытаць яго не ўдалося.

Праніклівы патолагаанатам Руфус Кромптан заўважыў, што лімфавузлы на целе Маркава асабліва павялічаныя ў раёне правага сцягна.

Ён не рашыўся ўскрываць цела ў гэтым месцы, каб не знішчыць магчымыя рэчавыя доказы.

## Шарык з плаціны і ірыдыю

Цела адправілі ў лабараторыю Портан-Даўна — спецыялізаванага даследчага цэнтра, які займаецца пытаннямі бактэрыялагічнай і хімічнай зброі. Атручэннем Скрыпалёў у будучыні будзе займацца гэтая ж лабараторыя. І толькі там пад месцам уколу на назе выявілі мікраскапічны, памерам 1,52 мм, шарык з поласцю ў ім.

Праз пару дзён у лабараторыю будзе дастаўленая з Францыі тканка Уладзіміра Костава, супраць якога быў здзейснены такі ж замах, але няўдала. У гэтым узоры тканкі рэнтген выявіць наяўнасць металічнага шарыка ідэнтычнага тыпу. Шарык быў выраблены з 90% плаціны і 10% ірыдыю. У сярэдзіне шара была поласць, ад якой да паверхні вялі два каналы дыяметрам 0,35 мм.

Шарык быў апрацаваны воскападобным рэчывам, ім былі запоўненыя і каналы. Пры трапленні ў арганізм воск растае, і пасля гэтага атрута трапляе ў кроў. Але герметык плавіцца толькі пры пэўных умовах і тэмпературах. Калі стрэл зрабіць з большай адлегласці ці калі куля на шляху да цела прабівае нешта цвёрдае, напрыклад, партманет, то яна не ўваходзіць у арганізм глыбока і яд не вызваляецца ў кроў. Так здарылася з Коставым, куля засела ў самой скуры, ён ацалеў.

Міліметровая куля для замаскіраванага пад парасон мікрапісталета была вяршыняй тэхналогій 1970-х. На сёння, напэўна, магчымае і стварэнне аналагічнай наназброі.

## Прызнанні Калугіна

Святло на справу ў 1992 годзе праліў экс-генерал КГБ Алег Калугін, для гэтага ён спецыяльна наведаў Сафію. Кіраўніцтва КГБ СССР не хацела дзяліцца ядамі з балгарамі, расказаў ён.

Масква ўвогуле ў гэты перыяд неахвотна карысталася такімі сродкамі, бо ў мінулым гэта часта прыводзіла да дыскрэдытацыі савецкага рэжыму, а таксама не хацела свяціць свой патэнцыял спецслужбам краін-сатэлітаў. На канец 1970-х ужо было ясна, што сілавікі з сацлагера бягуць на Захад часцей, чым савецкія, хоць самыя гучныя выпадкі — уцёкі кіраўніка румынскай разведкі Іона Пачэпы і высокапастаўленага афіцэра Генштаба Войска Польскага Рышарда Кукліньскага — будуць яшчэ наперадзе.

Але ўрэшце Масква яды перадала. Чаму? Калугін сцвярджаў, што адмова магла б аслабіць пазіцыю міністра Стаянава, якога ў КГБ лічылі «сваім чалавекам». Яны не хацелі, каб Тодар Жыўкаў замяніў Стаянава на кагосьці больш самастойнага, менш прасавецкага.

Як склаўся лёс арганізатараў і выканаўцаў забойства Георгія Маркава? Намеснік кіраўніка замежнай разведкі Уладзімір Тодараў пасля падзення рэжыму Жыўкава знішчыў дакументы па справе Маркава і схаваўся ў СССР. Аднак пасля распаду Саюза Расія выдала яго Балгарыі, і ён адсядзеў 10 месяцаў за знішчэнне дасье. Намеснік міністра ўнутраных спраў, генерал-лейтэнант Стаян Саваў у 1992 годзе застрэліўся на магіле свайго баявога таварыша ваенных часоў. А на след непасрэдна кілера выйшлі толькі ў 2000-х, ім аказаўся італьянец з дацкім пашпартам Франчэска Гуліна. Ён нават не ведаў, каго забівае — балгарскія спецслужбы яго завербавалі, калі злавілі з кантрабандай на мяжы. ◆

**Андрэй Дынько**

# Як Масква пазбавілася Аміна

**Рэжым Хафізулы Аміна не карыстаўся папулярнасцю, а некантраляваная змена ўлады ў Афганістане магла прывесці да яго выхаду з савецкай сферы ўплыву. Таму 12 снежня 1979 года Палітбюро ЦК КПСС прыняло сакрэтную пастанову «Да становішча ў "А"». Сутнасць яе зводзілася да таго, што Аміна неабходна ліквідаваць, на яго месца паставіць Бабрака Кармаля, даўняга агента КГБ, а для стабілізацыі становішча паслаць у Афганістан войскі.**




**Міністр замежных спраў СССР Андрэй Грамыка (злева)** і афганскі дыктатар Хафізула Амін (справа). 1979 год.

«Я больш савецкі за савецкіх людзей», — любіў паўтараць Хафізула Амін на перамовах з савецкімі гасцямі. Амін быў не проста камуністам. Яго кумірам быў Сталін, на працоўным стале ў яго стаяў партрэт «правадыра народаў», і ён быў бязлітасны як Сталін. Людзей у Кабуле арыштоўвалі тысячамі.

Амін не баяўся Масквы. Ён баяўся звяржэння сваімі ж, афганцамі. Па ягонай просьбе Масква тайна размясціла на базе ў горадзе Баграм за 60 км ад Кабула авіяцыю і спецназ. Амін бамбардзіраваў Маскву просьбамі прыслаць больш войскаў.

Тым часам Палітбюро ацэньвала сітуацыю ў Афганістане як выбуховую і яўна не верыла ў шчырасць Аміна: «У імкненні ўмацавацца ва ўладзе Амін поруч з такімі паказнымі жэстамі, як пачатак распрацоўкі праекта канстытуцыі і вызваленне часткі раней арыштаваных асобаў, на справе пашырае маштабы рэпрэсій у партыі, арміі, дзяржаўным апараце і грамадскіх арганізацыях. Ён яўна вядзе справу да выдалення з палітычнай арэны практычна ўсіх відных дзеячаў партыі і дзяржавы, якіх ён разглядае ў якасці сваіх сапраўдных або патэнцыйных праціўнікаў... Дзеянні Аміна выклікаюць усё большае незадавальненне прагрэсіўных сілаў. Калі раней супраць яго выступалі члены групы "Парчам", то зараз да іх далучаюцца і прыхільнікі "Хальк"*, асобныя прадстаўнікі дзяржаўнага апарату, арміі, інтэлігенцыі, моладзі. Гэта выклікае няўпэўненасць у Аміна, які шукае выхад на шляхах узмацнення рэпрэсій, што ў яшчэ большай ступені звужае сацыяльную базу рэжыму».

Гэты тэкст быў прыняты на Палітбюро 31 кастрычніка. Пройдзе паўтара месяца — і 12 снежня Палітбюро вырашае Аміна ліквідаваць.

Аміна і яго пляменніка Асадулу, які кіраваў Службай бяспекі Арганізацыі рабочай контрразведкі (КАМ), планавалася нейтралізаваць пры дапамозе загадзя ўкаранёнага ў іх асяроддзе агента. Ён павінен быў падмяшаць у іх ежу атруту. Разлічвалі, што калі яна пачне

### Хафізула Амін

афганскі камуніст. Дырэктар школы, ён стаў дэпутатам парламента. Пасля Красавіцкай рэвалюцыі 1978 года стаў спачатку міністрам замежных спраў, а пасля — абароны. Праз два месяцы пасля гэтага ён зверг свайго папярэдніка, Нурмухамеда Таракі. Па яго загадзе Таракі быў задушаны падушкай. Яшчэ праз тры месяцы самога Аміна расстраляюць савецкія камандас. У момант смерці яму было 50 гадоў.

* **«Хальк»** («Народ») і **«Парчам»** («Сцяг») — дзве фракцыі марксісцка-ленінскай Народна-дэмакратычнай партыі Афганістана, якая ў 1978 годзе прыйшла ў гэтай краіне да ўлады. Фракцыя «Хальк» гуртавала больш радыкальных партыйцаў, «Парчам» была больш памяркоўная.

дзейнічаць, то ў прэзідэнцкім палацы пачнецца паніка, савецкія падраздзяленні выйдуць з Баграма і захопяць рэзідэнцыю Аміна.

Апоўдні 13 снежня «мерапрыемства з выкарыстаннем спецсродкаў» — так эўфемістычна называлі атручванне — было праведзена. Падраздзяленням далі каманду на захоп аб'екта «Дуб» (палац Арк у цэнтры Кабула, дзе тады была рэзідэнцыя кіраўніка дзяржавы). Але неўзабаве ўслед прагучала каманда «адбой».

### «Усё гэта, зразумела, чыстай вады выдумкі…»

«У апошні час заходнія, асабліва амерыканскія, сродкі масавай інфармацыі распаўсюджваюць заведама інспіраваныя чуткі пра нейкае “ўмяшанне” Савецкага Саюза ва ўнутраныя справы Афганістана. **Справа даходзіць да сцвярджэнняў, што на афганскую тэрыторыю быццам бы ўведзеныя савецкія “баявыя часці”. Усё гэта, зразумела, чыстай вады выдумкі**… Агульнавядома, што ўзаемаадносіны паміж Савецкім Саюзам і Афганістанам грунтуюцца на трывалым падмурку добрасуседства, неўмяшання ва ўнутраныя справы адзін аднаго... Выступаючы нядаўна ў Кабуле... Генеральны сакратар ЦК НДПА, Старшыня Рэвалюцыйнага савета і прэм'ер-міністр ДРА **Х. Амін заявіў**: «**Савецкі Саюз заўсёды праяўляе глыбокую павагу да нашай незалежнасці і нацыянальнага суверэнітэту, да нашых святыняў. З яго боку ніколі не было, няма і не будзе прыніжэння нашага суверэнітэту і нацыянальнай незалежнасці, нашых нацыянальных традыцый і гонару. Менавіта таму мы па-братэрску зближаемся з Савецкім Саюзам...»**

Газета «Правда».
**23 снежня 1979 года, за 4 дні да забойства Аміна.**

Рэч у тым, што на Аміна яд не падзейнічаў зусім: ці то ён перадаў атруту пляменніку, ці то дозу не разлічылі, ці то дзеянне яе аслабіла кока-кола, якой Амін выпіў за абедам. Ягоны пляменнік адчуў сябе дрэнна толькі на наступную раніцу, Асадулу адправілі на лячэнне ў СССР. (Пасля змены ўлады ён апынецца спачатку ў Лефортаўскай турме, а затым будзе дэпартаваны ў Афганістан і расстраляны.)

14 снежня ў Баграм быў накіраваны батальён 345-га гвардзейскага асобнага парашутна-дэсантнага палка для ўзмацнення батальёна 111-га гвардзейскага парашутна-дэсантнага палка 105-й гвардзейскай паветрана-дэсантнай дывізіі, які з 7 ліпеня 1979 года ахоўваў у Баграме савецкія ваенна-транспартныя самалёты і верталёты. Адначасова Кармаль і некалькі ягоных прыхільнікаў былі таемна прывезеныя ў Афганістан і знаходзіліся ў Баграме сярод савецкіх вайскоўцаў. Пасля адмены аперацыі Кармаля тэрмінова вярнулі ў СССР.

Неўзабаве пасля гэтага 154-ы асобны атрад спецыяльнага прызначэння ГРУ («мусульманскі батальён») атрымаў загад на перадыслакацыю ў Кабул, дзе яго размясцілі паміж 1-м і 2-м батальёнамі афганскай нацыянальнай брыгады з задачай па ўзмацненні аховы палаца Аміна. «Мусульманскі батальён» быў падмацаваны дзвюма спецгрупамі КГБ.

Амін усё яшчэ нічога не падазраваў. Ягоныя структуры былі пранізаныя агентурай. У яго ж самога вушэй ні ў Маскве, ні ў савецкім кантынгенце не было.

Загад зверху па ліквідацыі Аміна быў толькі вусным. У выніку правалу ўсю адказнасць мусілі перакласці на камандзіра — маўляў, самадзейнасць.

Савецкім байцам было цяжка зразумець, чаму трэба забіць кіраўніка суседняй дзяржавы, пра якога савецкія газеты пісалі толькі добрае. Таму перад боем ім сказалі, што Амін — агент ЦРУ. Тлумачыць, што празмерная жорсткасць Аміна, яго дыктатарства пагражае прывесці да выбуху і сыходу Афганістана з савецкай сферы ўплыву, палічылі заскладаным для байцоў.

Байцам прапанавалі для смеласці па сто грам гарэлкі. Для пераважнай большасці гэта была першая ў жыцці баявая аперацыя.

## Байцам прапанавалі для смеласці па сто грам гарэлкі

27 снежня савецкі агент, кухар Аміна, падсыпаў яму атруту другі раз. Цяпер ужо забойна. Амін самлеў. Савецкія лекары — саветы татальна атачылі Аміна сваімі людзьмі — кінуліся вяртаць прэзідэнта да прытомнасці. Яны не ведалі, што яго атруцілі свае ж, бо ўсё рабілася ў строгай таямніцы.

Тым часам па сігнале з палаца каля 700 чалавек, уключаючы байцоў спецгрупаў КГБ «Альфа» і «Зеніт», апранутых у афганскую форму, выехалі на штурм на вайсковых аўтамабілях з афганскімі апазнавальнымі знакамі. Сігналам да пачатку штурму стаў выбух вузла сувязі на цэнтральнай плошчы горада.

Бой у палацы доўжыўся 43 хвіліны. Ахова Аміна, спрэс ▸

### Авантурысты

Рашэнне аб забойстве Аміна і акупацыі Афганістана прымала вузкая група кіраўнікоў СССР. Генеральны сакратар **Леанід Брэжнеў** быў тады ўжо цяжка хворы, рэчаіснасць успрымаў абмежавана. Многае вырашалі дасведчаныя майстры крамлёўскіх кулуарных гульняў: кіраўнік КГБ **Юрый Андропаў**, міністр абароны **Дзмітрый Усцінаў** і міністр замежных спраў, наш зямляк **Андрэй Грамыка** (гл. пра яго артыкул Андрэя Скурко ў № 7/2019 «Нашай гісторыі»). На думку тагачаснага супрацоўніка аддзела міжнароднага камуністычнага руху ЦК КПСС Анатоля Чарняева, у тым, што адбылося, усё ж такі была і роля ледзь жывога Брэжнева, які «не мог, вядома, дараваць Аміну, што той прыкончыў Таракі на другі дзень пасля публікацыі вялікага брацкага камюніке і сустрэчы Брэжнеў — Таракі ў Маскве». Пройдзе 10 гадоў, і тое рашэнне пачнуць называць няйнакш як «авантурай», якая дабіла Савецкі Саюз з яго і так хранічна хворай эканомікай.

ідэйныя камуністы, аказала нечакана жорсткае супраціўленне, і 11 нападнікаў загінулі, у тым ліку камандзір групы палкоўнік Грыгорый Баярынаў, начальнік школы падрыхтоўкі агентаў спецаперацый аддзела КГБ № 8 у Балашысе пад Масквой.

Бліжэй да канца штурму Амін апрытомнеў.

Першым яго загадам ад'ютанту было: звані савецкім і папярэдзь іх аб нападзе на палац. «Савецкія дапамогуць!» — дадаў ён. «Гэта савецкія напалі!» — крыкнуў яму ад'ютант. Ад гэтых слоў Амін раз'юшыўся, схапіў попельніцу і кінуў яе ў ад'ютанта з крыкам: «Ілжэш, не можа быць!»

Ноччу Кабульскае радыё паведаміла, што па рашэнні рэвалюцыйнага суда Амін прысуджаны да смяротнага пакарання і прысуд прыведзены ў выкананне.

Расстралялі не толькі Аміна. Забілі таксама ўсіх яго сваякоў мужчынскага полу. Загінуў і адзін з дактароў Аміна, палкоўнік Віктар Кузнечанкаў. Жывой засталася толькі непаўналетняя дачка Аміна. Ёй прастрэлілі абедзве нагі. Усе жанчыны з сям'і Аміна прасядзяць у турме 13 гадоў.

## Разам з Амінам расстралялі і яго 11-гадовага сына

У ноч з 27 на 28 снежня ў Кабул з Баграма пад аховай супрацоўнікаў КГБ і дэсантнікаў прыбыў «верны сябар савецкага народа» Бабрак Кармаль. Радыё Кабула перадало зварот новага кіраўніка да афганскага народа, у якім быў абвешчаны «другі этап рэвалюцыі».

Маскоўская газета «Праўда» 30 снежня напісала, што «ў выніку ўзнятай хвалі народнага гневу Амін разам са сваімі паслугачамі паўстаў перад справядлівым народным судом і быў пакараны».



**Палац «Тадж-бек»** праз два дзесяцігоддзі пасля штурму. 2007 год.

WIKIMEDIA COMMONS




**Шураві** — так афганцы называлі савецкіх вайскоўцаў.

# Ратаваць сяржанта Коласа

**1979–1989 гады. Ад Беларусі да Афганістана — 3 800 кіламетраў. У беларускія хаты і кватэры рэгулярна прывозяць ацынкаваныя скрыні, хоць СМІ пра ахвяры маўчаць… Ваенны гісторык Віталь Чырвінскі расказвае малавядомы эпізод той вайны: як савецкі разведчык-беларус Уладзімір Гаркавы выцягнуў з палону ў афганскіх маджахедаў сяржанта-беларуса Ігара Коласа. Толькі працяг гэтай гісторыі быў зусім не як у галівудскім фільме.**

### Штурм палаца Аміна

Вечарам 27 снежня 1979 года на паўднёва-заходняй ускраіне Кабула, сталіцы Афганістана, адбылася спецаперацыя «Шторм-333». Спецназаўцы КГБ пры падтрымцы мусульманскага батальёна ГРУ, апранутыя ў афганскую форму без апазнавальных знакаў, але з белымі павязкамі на руках, захапілі палац «Тадж-бек», рэзідэнцыю кіраўніка краіны Хафізулы Аміна за 43 хвіліны.

Падрыў цэнтральнага размеркавальнага вузла падземных камунікацый пакінуў Кабул без тэлефоннай сувязі (машына на вачах афганскага патруля «зламалася» над люкам калодзежа, куды апусцілі заплечнік з выбухоўкай).

Зенітны шквал «шылак» і гранатныя чэргі аўтаматычных гранатамётаў блакавалі ў казармах агаломшаных афганскіх салдат і афіцэраў падраздзяленняў аховы.

Бязлітасны агонь буйнакаліберных кулямётаў бронетранспарцёраў і гармат баявых машын пяхоты, якія імкліва набліжаліся да палаца, расстрэльваючы вокны і аркі галоўнага будынка, не дазволіў найбліжэйшаму атачэнню ▸

**Спецназаўцы КГБ пры падтрымцы мусульманскага батальёна ГРУ**, апранутыя ў афганскую форму без апазнавальных знакаў, але з белымі павязкамі на руках, захапілі палац «Тадж-бек», рэзідэнцыю кіраўніка краіны Хафізулы Аміна за 43 хвіліны.

▸ афганскага правадыра арганізаваць узброеную абарону.

Кіраўнік Афганістана да апошняга не верыў у вераломства «савецкага брата». Яго прабітае кулямі цела засталося ляжаць каля барнай стойкі. Таксама загінула значная частка людзей (да 200 чалавек), якія знаходзіліся ў палацы (ахоўнікі, абслуга, родзічы Аміна, яго 11-гадовы сын і некалькі выпадковых асобаў). Страты савецкіх вайскоўцаў — 12 чалавек забітымі, 50 — параненымі.

**Кіраўнік Афганістана да апошняга не верыў у вераломства «савецкага брата»**

Раніцай 28 снежня Афганістан прачнуўся з новым урадам. З Масквы праз Ташкент быў прывезены «новаабраны» правадыр краіны Бабрак Кармаль. Пасол у Чэхаславакіі, ён быў былым супернікам Аміна ў барацьбе за ўладу і савецкім агентам з вялікім стажам. А Савецкі Саюз на найбліжэйшае дзесяцігоддзе атрымаў таўро агрэсара і трапіў пад шматлікія санкцыі з боку ЗША і іншых капіталістычных дзяржаў.

З гэтага часу вайна прыйшла ў кватэры і хаты дзясяткаў тысяч беларускіх сем'яў.

## «Шцірліц» з вёскі Лыскі

Адным з удзельнікаў аперацыі па ліквідацыі Аміна быў беларус **Уладзімір Гаркавы** — савецкі разведчык спецыяльнага прызначэння, «сямнаццаць імгненняў вясны» якога расцягнуліся на доўгія чатыры з паловай гады, частку з якіх яму давядзецца правесці то ў скуры афганскага маджахеда, то пад маскай іх нямецкага ваеннага дарадцы.

Яго малая радзіма — вёска Лыскі Слонімскага раёна. Маці была палāводам, а бацька брыгадзірам у калгасе, а пасля пажарнікам. У ПТВ Валодзя вывучыўся на электрыка. Пасля пайшоў у армію. Вучэбка ў Пячах Барысаўскага раёна. Танкавая дывізія ў Полацку. Наводчык танка. Сяржант. Вырашыў стаць ваенным журналістам. Паступіў у Львоўскае ваенна-палітычнае вучылішча, але замест факультэта журналістыкі яму прапанавалі факультэт клубных работнікаў. Кінуў і вярнуўся дадому. Працаваў у Мінску электратэхнікам 4-га разраду на заводзе халадзільнікаў. Пайшоў на фізіка-матэматычны факультэт БДУ, але пасля першага семестра забраў дакументы. Шукаў сябе ў прафесіі. Паспяхова здаў экзамены ў Мінскі дзяржаўны педагагічны інстытут замежных моў на факультэт нямецкай мовы, які скончыў у 1975 годзе. Амаль год адпрацаваў у замежным аддзеле Прэзідыума Акадэміі навук БССР. Тым часам скончыў вышэйшыя курсы КГБ у Мінску, спецфакультэт Чырванасцяжнага інстытута імя Дзяржынскага ў Маскве, Курсы ўдасканалення афіцэрскага складу (школы дыверсійнай разведкі) у Балашысе пад Масквой. З добрай нямецкай мовай яго пасылаюць у Афганістан.

Яго задачамі былі нелегальная разведка, контрразведка, унясенне рознагалоссяў у рух паўстанцаў-маджахедаў, разлажэнне яго знутры, перацягванне на бок новага афганскага ўрада найменш радыкальных фарміраванняў, а галоўнае — выратаванне савецкіх вайскоўцаў з палону.


PINTEREST.COM

## Захоплены падчас самаволкі

Ураджэнец вёскі Рудня Дзяржынскага раёна Мінскай вобласці (гэта каля Негарэлага) сяржант Ігар Колас быў схоплены маджахедамі падчас самаволкі (пайшоў у суседні дукан (дробную лаўку) па пакупкі). Палон зацягнуўся на два гады. І Ігару яшчэ пашанцавала, бо беларускі хлопец трапіў да паўстанцаў, якія не належалі да радыкальных барацьбітоў за веру, таму яго не закатавалі.


З КНІГІ УЛАДЗІМІРА ГАРКАВАГА «ЖЫЦЦЁ І ЛЁС РАЗВЕДЧЫКА»

**Вольф (у цэнтры, бачная частка твару)** у атрадзе Суфі Аяфа ў Панджшэрскай цясніне з місіяй вызвалення палонных салдатаў. 1980 год.


З КНІГІ УЛАДЗІМІРА ГАРКАВАГА «ЖЫЦЦЁ І ЛЁС РАЗВЕДЧЫКА»

**Маёр Гаркавы.** Апошні год у Афганістане.



ФОТА АЛЯКСАНДРА СТАДУБА, SB.BY

**Кніга «Уладзімір Гаркавы: жыццё і лёс разведчыка»** выйшла ў 2018 годзе ў серыі «Асобы» выдавецтва «Адукацыя і выхаванне».

Ён выконваў розную гаспадарчую працу, авалодаў мясцовай мовай, навучыўся нават на ёй пісаць і заслужыў адносны давер у сваіх гаспадароў, якія паступова схілялі яго да змены веравызнання і прыняцця ісламу.

Шматхадовую аперацыю па вызваленні сяржанта Коласа распрацоўваў асабіста Уладзімір Гаркавы (на той момант ён дзейнічаў пад маскай грамадзяніна ФРГ Вольфа).

Спачатку ўсё ішло ўдала. У адным з баёў быў захоплены маджахед, які аказаўся братам камандзіра таго атрада, дзе ўтрымліваўся Ігар Колас. Было вырашана арганізаваць абмен. Пачаліся перамовы. Але здарылася нечаканае: палоннага маджахеда, якога трымалі ў кабульскім вайсковым шпіталі (ён быў паранены), уначы застрэлілі яго ідэалагічныя ворагі — супрацоўнікі афганскай разведкі ХАД*, якія таксама праходзілі там лячэнне. Пакуль ішло разбіральніцтва, забітага паспелі пахаваць.

Уладзімір Гаркавы праз сваіх агентаў працягнуў перамовы. Была дасягнута дамоўленасць, што радня забітага маджахеда зможа атрымаць яго цела. Для правядзення эксгумацыі прыйшлося прасіць дазвол кіраўніка Афганістана Бабрака Кармаля. Труп, які выкапалі з магілы, быў адвезены ў будынак ХАД. Заставалася вырашыць дэталі з перадачай, але зноў здарылася неспадзяванка. Нехта з супрацоўнікаў ХАД вырашыў паздзекавацца з трупа ворага і адрэзаў таму пальцы на нагах. У такім выглядзе парэшткі перадаваць было нельга. Дапамаглі савецкія хірургі, якія прышылі цудам знойдзеныя часткі цела на месца.

«Геру Вольфу» (Уладзіміру Гаркаваму) удалося асабіста ўвайсці ў давер да родзічаў застрэленага маджахеда, цела якога нарэшце было перададзена для пахавання ў родавым кішлаку. І цяпер паўстала пытанне аб умовах вызвалення савецкага салдата. Верхавод атрада (брат таго самага забітага маджахеда), залагоджаны буйной сумай грошай, даў згоду дапамагчы зладзіць уцёкі палоннаму беларусу, але з умовай: усё павінна быць зроблена так, быццам шураві (так афганцы звалі савецкіх вайскоўцаў) уцёк сам.

Праз Саіда Акбара (аднаго з кіраўнікоў Упраўлення контрразведкі аддзела ХАД) выйшлі на мулу Гуляма Фарука — старэйшыну мясцовых кішлакоў, ▶

* ХАД — служба дзяржаўнай бяспекі Афганістана, якая займалася пытаннямі разведкі, контрразведкі і арганізацыі спецыяльных мерапрыемстваў.

якому падначальваліся ўсе мясцовыя атрады самааховы. Выехалі на месца. Перамовы ішлі ў выглядзе сяброўскай бяседы на разасланым персідскім дыване за піялай гарбаты, смакаваннем свежапрыгатаванай бараніны, жаваннем насваю (лёгкага наркотыку). Уладзімір Гаркавы, экіпіраваны пад звычайнага афганца, больш маўчаў, галоўным перагаворшчыкам быў Саід Акбар. Паабяцалі ў абмен на савецкага салдата дапамагчы вызваліць двух палонных маджахедаў.

Усё прайшло як па нотах. Фіктыўнае партызанскае фарміраванне інсцэніравала напад на кішлак, які стаяў побач з лагерам, дзе ў палоне трымалі Коласа. Па загадзе падкупленага верхавода ўсе кінуліся на дапамогу суседзям, а Ігар Колас, застаўшыся без нагляду, кінуўся ў адваротны бок, атрымаўшы некалькі дзяжурных аўтаматных чэргаў у свой бок. Ужо за межамі лагера на вузкай горнай сцежцы ён замёр, наткнуўшыся на сівабародага афганца (таго самага Фарука). Цела абмякла. Ну, вось і ўсё. Той звязаў яму рукі нейкай анучай і павёў за сабой.

Другі раз у Коласа пацямнела ў вачах, калі гэты стары прывёў у месца, дзе яго сустрэлі два барадатыя тубыльцы (белыя хусткі абматаныя на галаве і вакол шыі, бясформенныя халаты, пад якімі вялізныя шаравары і босыя ногі ў сандалях). Толькі тут ён пачуў «ты сярод сваіх» і глытнуў спірту з біклагі, якую працягнуў маёр Гаркавы. Хлопец сеў на камень і заплакаў...

Пасля ўважлівай праверкі контрразведкай і пракуратурай Ігар Колас вярнуўся на радзіму. Жыў у Негарэлым (цяпер аграгарадок Дзяржынскага раёна Мінскай вобласці), ажаніўся, расціў дачку і сына. На юбілейныя сустрэчы, дзе збіраліся былыя афганцы, ён не хадзіў, перад школьнікамі не выступаў. Ордэнаў і медалёў не меў. Галоўнай узнагародай для яго стала свабода і тое, што «даравалі» парушэнне статута — самаволку і зброю, згубленую падчас захопу ў палон. Працаваў. Хварэў на сухоты. Моцна піў. Апошнія гады пераехаў у суседні пасёлак Коласава Стаўбцоўскага раёна, дзе і памёр...

У знакамітай амерыканскай кінастужцы Стывена Спілберга «Ўратаваць шарагоўца Раяна» галоўны герой у фінале шаптаў на магіле свайго выратавальніка капітана Мілера, што ён пастараўся з усіх сілаў пражыць годнае жыццё і апраўдаць тыя ахвяры, якія былі здзейсненыя дзеля яго — простага салдата амерыканскай арміі. У жыцці



Наш аўтар **Віталь Чырвінскі завёў свой ютуб-канал пра вайсковую гісторыю Беларусі** (перайсці можна па к'юар-кодзе).

IVAN-MELNIC667.LIVEJOURNAL.COM


SB.BY

Саід Акбар (злева), **Ігар Колас (пасля палону)**, Суфі Аяф (верхавод фіктыўнага фарміравання, якое інсцэніравала напад на кішлак).

Ігара Коласа фінал атрымаўся больш празаічны...

А выратавальнік Коласа Уладзімір Гаркавы пасля Афганістана даслужыўся да палкоўніка КДБ і ў 1994 годзе, ужо ў незалежнай Беларусі, быў звольнены ў запас. За выкананне спецзадання падчас аперацыі «Шторм-333» быў узнагароджаны ордэнам Чырвонай Зоркі. За ўдзел у вызваленні палонных — ордэнам «Зорка Афганістана».

Пасля выхаду на пенсію скончыў Беларускі дзяржаўны эканамічны ўніверсітэт. Цяпер працуе ў банкаўскай сферы. Напісаў мемуары «Афганістан: без грыфу “сакрэтна”». ◆

**Скульптура ў гонар жанчын,** якія страцілі сваіх сыноў падчас вайны ў Афганістане. Востраў слёз у Мінску.

ФОТА ВІТАЛЯ ЧЫРВІНСКАГА.

**Ахвяры чужой вайны**

Вынікі Афганскай вайны для Беларусі: не вярнуліся на радзіму 783 чалавекі, з іх 771 загінуў, 12 лічацца зніклымі без вестак. 718 вярнуліся інвалідамі. Колькасць тых, хто пазней памёр ад атрыманых у Афганістане ран, хваробаў, а таксама стаў ахвярай суіцыдаў, алкагалізму і наркаманіі, што з'явіліся на глебе пасляваеннага сіндрому, афіцыйна не агучваецца.

# «Афганская зямля зусім іншая, чым наша беларуская»

**З успамінаў Марыі Прохараўны Шыйко (маці забітага ў 1983 годзе ў Афганістане Георгія Шыйко з гарадскога пасёлка Уваравічы Буда-Кашалёўскага раёна на Гомельшчыне)**

Шмат было выпадкаў, калі казалі, што прывозілі труну, а на самай справе праз якіх 6 месяцаў вяртаўся гэты хлопец. То ў палоне быў, то яшчэ дзе-небудзь. І нават суседка мая паваражыла і кажа: «Не, Жорык у дарозе да ўласнай хаты, ён не загінуў».

І мне, вы ведаеце, як у галаву цюкнула, думаю: «Ой, трэба ратаваць, няма чаго плакацца, а калі ратаваць, трэба пераканацца, ці сапраўды ён у магіле». І я ўгаварыла мужа, і мы ўначы раскапалі магілу. Я — уласнымі рукамі. Таму што ў мужа радыкуліт быў, ён не мог. А ў мяне нейкі стан быў, я нават растлумачыць не магу. Гэта толькі сапраўды ашалелая маці можа такое зрабіць.

У тры гадзіны ночы пайшлі мы… Без ліхтарыка пайшлі, проста ўзялі покрыва такое, ну тканіну такую белую ўзялі, каб пакрыць яго, і святую вадзічку… Вось тут мы пазанавешваліся вянкамі — а раптам машына. Дарога побач. А раптам нас тут застукаюць і выцягнуць з гэтай магілы і не дадуць паглядзець. Гэта ж усё магло быць. Таму

мы ціхенька з рыдлёўкай гэтай прыбеглі. Рыдлёўка вялікая, мне замінае.

Божа мой, кідала, кідала. Здаецца, нават зямля падае і шум стварае, і настолькі хвалююча гэта было… Ну, а потым, калі дайшла да труны, тады ўжо муж мяне дастаў адтуль… Ну, вось ён гэтымі кусачкамі там паадкалупваў гэтую металічную труну. Адкрыў, як кнігу.

Ну вось і ўсё. Ляжыць наш сын, вядома… У яго было прабіта вось тут пад вокам, куля ўвайшла. І вось тут (паказвае на свае грудзі). І на руцэ была прывязаная бірачка такая — «Шыйко Георгій»... і ўсё. І ён быў раздзеты. На голых дошках. Так хаваем мы сваіх дзяцей...



**Марыя Прохараўна Шыйко (у цэнтры).**
Кадр з дакументальнай стужкі Халімы Хасанавай «Афганистан. Я помню…», знятай на кінастудыі «Беларусьфільм» у 2014 годзе.



## З лістоў Георгія Шыйко сваім бацькам

«Прывітанне, дарагія бацькі! Як вы ведаеце, служу я ў горадзе Кабуле. Горад па-свойму цікавы. Асабліва прыгожы вечарам, пабудовы тут своеасаблівыя, абгароджаныя каменнымі загарадзямі. Самі вуліцы ў асноўным вузкія. Калі былі ў патрулі, то з'явілася дзіўнае адчуванне, што гэта ўсё ў кіно… Раней я пісаў, што да нас у батарэю прыйшло папаўненне. Дзевяць з дванаццаці — хлопцы з Гомельшчыны. З якім задавальненнем я слухаю беларускую гаворку. Гукі такія мяккія і родныя, што нават душа сціскаецца. Як хочацца хоць на імгненне ўбачыць дом, вас, дарагія мае, і ўсіх-усіх…»

«Цэлы дзень працавалі ломікам і рыдлёўкай. Капаем фундамент пад КПП. Афганская зямля зусім іншая, чым наша беларуская. Спачатку сантыметраў 30–40 камяні з урадлівым пластом зямлі, а потым толькі пясок, праўда, сыры. Але то зямля ў далінах, а горы — адныя толькі сланцы, камяні...»

«Сёння была палявая праверка. Бегаў з разведкай на вяршыню гары з радыёстанцыяй. Праверка прайшла добра. Нават камдыў быў задаволены. Пакуль разлік рыхтаваў лічбы, я любаваўся прыгожым відам на горад Кабул і на вінаграднікі ў даліне. Краявід цудоўны. Нават апісаць цяжка.

Сяджу я са сваёй "малюткай" на камені. У небе свеціць сонейка і злёгку дзьме ветрык. Унізе, ля падножжа, пачынаюцца пабудовы афганскай сталіцы. Яны ўяўляюць сабой "скрыначкі" з вокнамі, дзвярыма, нават з балкончыкамі. Дамкі атынкаваныя — і здалёк здаюцца гладкімі, быццам паліраванымі. Двары абгароджаныя цаглянымі сценкамі 3–3,5 метра, атрымліваецца штосьці накшталт ячэі ў сотах, і ячэі па ўсёй даліне.

Кварталы адзін ад аднаго аддзеленыя даволі шырокімі дарогамі. І гэта стварае ўражанне, што даліна пакрытая клятчастым з бэзавым абрусам. А сам абрус нядбайна кінуты на даліну і схілы гор, зіхаціць беллю сярод шэра-зялёных гор…»



Георгій Шыйко.







**«Прадмесце Снiпiшкi з вiдам фiгуры Збаўцы».** Лiтаграфiя паводле малюнка мастака Яна Хруцкага. Парыж, 1848–1849 гады.

CYFROWE.MNW.ART.PL

# Езус са Снiпiшак

**Пра святыню, выява якой была з Калiноўскiм у хвiлiну яго смерцi, расказвае Сяргей Кузняцоў.**

22 лiстапада мiнулага года пры шматтысячным зборы людзей, вялiкая частка якiх адмыслова дзеля гэтага прыехала з Беларусi, адбылася знакавая падзея нашай гiсторыi: у Вiльнi прайшла цырымонiя ўрачыстага перапахавання парэшткаў паўстанцаў 1863–1864 гадоў. Парэшткi пакараных смерцю i таемна пахаваных царскiмi ўладамi паўстанцаў былi знойдзеныя лiтоўскiмi археолагамi ў 2017 годзе падчас аварыйных, выклiканых апоўзнем, раскопак на вiленскай Замкавай гары (больш пра гэта гл. у № 10/2019 «Нашай гiсторыi»).

У першым з выяўленых пахаванняў разам з парэшткамi маладога мужчыны археолагi знайшлi нацельны медальён. А пры далейшых даследаваннях высветлiлася, што парэшткi тыя належаць нашаму нацыянальнаму герою, кiраўнiку паўстання ў Беларусi i Лiтве Кастусю Калiноўскаму.

Беларускiя СМI пазней неаднаразова памылкова паведамлялi, што было знойдзена некалькi медальёнаў Калiноўскага. На самай справе, аднак, быў толькi адзiн срэбны медальён, але двухбаковы i складаны. На ўнутраных яго баках былi выяўленыя крыжык з распяццем i вобраз святога Казiмiра, а на адным з вонкавых бакоў — абраз Мацi Божай Вастрабрамскай.

На iншым баку медальёна — выява каплiчкi з надпiсам «Езус на Снiпiшскай гары». Гэтая вiленская святыня калiсьцi не саступала па значнасцi славутай Вострай браме.

Але сёння, на жаль, пра яе ведаюць нямногія, хоць месца, дзе калісьці стаяла тая капліца, шмат хто бачыў.

## Намоленае месца

Калі глядзець на горад з вышыні Замкавай гары, на другім беразе Віліі добра бачныя віленскія хмарачосы. Гэта і ёсць Сніпішкі, альбо Шніпішкі — даўняе віленскае прадмесце. Злева ад сучасных шкляных гмахаў — адна са старадаўніх пераправаў цераз раку, Зялёны мост (*Žaliasis tiltas*), і тут жа, ля самай вады, — барочны касцёл Святога Рафала. Акурат перад гэтым храмам і было некалі адно з намоленых месцаў — Сніпішская гара, курган з капліцай на вяршыні.

Традыцыйна лічыцца, што гэтая гара — месца апошняга спачыну ахвяраў эпідэміі чумы, што ўспыхнула падчас Паўночнай вайны на пачатку XVIII стагоддзя. Тады чорная смерць забрала жыцці каля паловы жыхароў сталіцы Вялікага Княства Літоўскага. Віленскі ксёндз Тадэвуш Рагаля-Завадскі ўжо ў XX стагоддзі так пісаў пра тыя часы: «Тады голад і мор сабралі ў Вільні і яе ваколіцах сапраўднае жніво. Людзі падалі на дарогах і вуліцах, нібы каласы пад касой. І трывала гэта тры гады: 1708, 1709, 1710...».




Карціна невядомага мастака **«Чума ў Вільні 1710 года»**. Захоўваецца ў касцёле Святых Апосталаў Пятра і Паўла на віленскім Антокалі.

З падзеямі тых часоў звязаны ахвярны подзвіг *рохітаў* — манахаў ордэна Святога Роха. Паводле аднаго з манаскіх шлюбаў (клятваў), браты мелі ратаваць бедных і «заражаных паветрам» людзей. Калі Вільню апанавала чума, рохіты збіралі з вуліц і хавалі ў брацкіх магілах целы памерлых, ратуючы гэтым жывых месцічаў ад новых заражэнняў. Але заражаліся і самі. З усіх віленскіх братоў-рохітаў эпідэмію не перажыў ніводны...




У 1720 годзе манахі-езуіты ў памяць пра ахвярнасць рохітаў паставілі на Сніпішскай гары капліцу з фігурай Езуса, які нясе на сабе крыж. Даволі хутка месца пачало лічыцца цудадзейным. Яго папулярнасці спрыяла і тая акалічнасць, што капліца ў Сніпішках стаяла на шляху з горада цераз пераправу па Зялёным мосце на Віленскую Кальварыю — Галгофу з крыжовай дарогай і станцыямі-капліцамі. Рэлігійныя працэсіі з Вільні на Кальварыю міналі фігуру Езуса на Сніпішках.

Традыцыя паломніцтваў захоўвалася і ў наступным стагоддзі, пры расійскай уладзе. Пры гэтым і сама Сніпішская капліца з Езусам была асобнай шанаванай віленскай святыняй, куды вернікі прыходзілі са сваімі малітвамі. «Калі ў справах жыцця стане цяжкім нам крыж ці параняць шыпы, тады годна ісці па цярністым шляху, памажы нам, Хрысце!» — пісаў у польскамоўным «Гімне Пану Езусу на Сніпішках у Вільні» паэт Уладзіслаў Сыракомля.

## Не чума, а маскоўскае войска

Не ўсе даследчыкі, аднак, згодныя з традыцыйным меркаваннем аб тым, хто быў пахаваны на Сніпішках. У 2020 годзе літоўскі краязнаўца Кястуціс Гірдзіяўскас выдаў нарыс «Сакрэт капліцы». У ім аўтар выказаў здагадку, што гісторыя пра ахвяраў чумы на Сніпішскай гары — легенда, адмыслова створаная ў XIX стагоддзі пад канкрэтнага адрасата, якім была расійская адміністрацыя. Гэта нібыта мела на мэце захаваць капліцу ад разбурэння. ▶

Рэч у тым, што, як лічаць некаторыя гісторыкі, на гары маглі быць пахаваныя ўдзельнікі куды больш ранніх падзей — абаронцы Вільні ад маскоўскіх і казацкіх войскаў у 1655 годзе. Вядомая гістарычная падзея, калі войскі маскоўскага цара Аляксея Міхайлавіча авалодалі сталіцай Вялікага Княства Літоўскага, мела свой гераічны эпізод. Атрады пад камандаваннем вялікага літоўскага гетмана Януша Радзівіла на працягу ўсяго дня 8 жніўня баранілі ад маскоўцаў пераправу цераз Вілію, прыкрываючы адыход з горада войскаў і цывільнага насельніцтва. Толькі з надыходам ночы войскі ВКЛ пакінулі свае пазіцыі і адышлі ў Кейданы. Бітва адбывалася ў раёне сённяшняга Зялёнага моста.

Прыхільнікі версіі аб ахвярах вайны з Масквой збольшага абапіраюцца на ўскосныя сведчанні. Так, на яе карысць могуць сведчыць такія факты, што ўжо ў канцы XVII стагоддзя на гары стаяла фігура святога Яна Непамуцэна, што пабудовай новага касцёла Святога Рафала ля месца бітвы апекаваліся Радзівілы (хоць яны і не былі пачатковымі фундатарамі) і, нарэшце, што пакуль не выяўлена дакладных крыніц, якія б пацвярджалі, што ахвяр чумы 1708–1710 гадоў хавалі менавіта тут, так блізка ад ракі.

Ёсць і больш важкія аргументы. Сярод нямногіх рэчаў, знойдзеных сярод парэшткаў на Сніпішскай гары, была манета з выявай караля Яна Казіміра Вазы. Той кіраваў Рэччу Паспалітай з 1648 па 1668 год.

**Падзенне Вільні**

адна з многіх трагічных падзей вайны Рэчы Паспалітай з Расіяй (1654–1667 гады). Захапіўшы сталіцу ВКЛ, маскоўскія войскі цара Аляксея Міхайлавіча і казакі Івана Залатарэнкі прынеслі ў горад татальнае разбурэнне. Забойствы працягваліся тры дні, яшчэ 17 дзён горад гарэў. У першыя дні загінула каля 20 000 чалавек. Былі разрабаваныя ўсе палацы, касцёлы, многія цэрквы. Сярод іншых было страчана і пахаванне Вітаўта Вялікага. Шмат якія будынкі былі знішчаныя і ніколі не аднавіліся. А даваенны ўзровень насельніцтва Вільня змагла аднавіць толькі праз 200 гадоў.



ФОТА УЛАДЗІМІРА САДОЎСКАГА

Пакуль справа аднаўлення капліцы на Сніпішках у Вільні яшчэ не рэалізаваная, **вельмі падобную капліцу на кургане можна пабачыць у вёсцы Гарадзец Шаркаўшчынскага раёна**. Хоць дату яе пабудовы адносяць да другой паловы XVIII стагоддзя, легенды чамусьці расказваюць пра пахаваных тут салдат напалеонаўскай арміі.

## Знішчаная гара

На жаль, правесці грунтоўныя археалагічныя даследаванні і адназначна адказаць, якая з версій больш праўдзівая — а могуць быць праўдзівыя і адразу абедзве, — ужо не ўдасца. У красавіку – чэрвені 1950 года савецкія ўлады знішчылі капліцу і скапалі Сніпішскую гару да яе асновы. Улады тлумачылі свае дзеянні тым, што гара ўскладняла рух транспарту з моста Чарняхоўскага (так тады называўся Зялёны мост) да скрыжавання на вуліцы Дзяржынскага (цяпер Кальварыйскай).

Літоўскія навукоўцы даведаліся аб зразанні гары не адразу. Калі на месца прыбыў археолаг Мікалас Чарняўскас, гара была ўжо часткова знішчаная. На падставе пабачанага ім Чарняўскас датаваў пахаванні сярэдзінай XVII стагоддзя — менавіта ягонай тагачаснай знаходкай была вышэйзгаданая манета часоў Яна Казіміра.

Сніпішская капліца, дарэчы, была не адзінай знішчанай у савецкі час віленскай святыняй. Так, у маі 1950-га была ўзарваная кампазіцыя Трох крыжоў на аднайменнай гары. Пазней, у 1962 годзе, былі разбураныя капліцы на Кальварыі. Па звестках Кястуціса Гардзіяўскаса, такі ж лёс меў напаткаць нават славутую Вострую браму, на месцы якой планавалася пракласці праспект. Але да гэтага, на шчасце, справа не дайшла.

## Сімвалічная знаходка

Хоць у сённяшняй Вільні адноўленыя многія архітэктурныя страты ранейшых часоў, месца былой Сніпішскай гары дагэтуль свеціць пусткай. Пра аднаўленне капліцы марыць група віленскіх энтузіястаў, але пакуль іх ідэя не знаходзіць падтрымкі муніцыпальных уладаў. А тым часам у сутарэннях касцёла Святога Рафала мясцовы пробашч нядаўна адшукаў драўляную фігуру. Навукоўцы, якім была перададзеная знаходка, пацвердзілі — знойдзеная фігура

Езуса з няіснай сёння Сніпішскай капліцы.

Сімвалічнае супадзенне, што здарылася гэта ў 2017-м, то-бок у тым жа самым годзе, калі апоўзень на Замкавай гары прывёў археолагаў да пахаванняў паўстанцаў...

**Матывы Каліноўскага**

Цяжка сёння меркаваць, пра што думаў Кастусь Каліноўскі, носячы на сабе абразок са Сніпішскай капліцай. Ці гучалі разам з рэлігійнымі ў ягоных думках і патрыятычныя матывы, ці быў ён знаёмы з гісторыяй Сніпішскага кургана? Хто ведае. Але бясспрэчна, што многім з тых, хто сёння зірне праз музейнае шкло на адшуканы праз 150 гадоў медальён, з якім аўтар «Лістоў з-пад шыбеніцы» сустрэў сваю смерць на Лукішках, напросяцца свае паралелі. І ў роздумах пра лёс Каліноўскага знойдзецца месца думкам і пра шматлікія пакуты Бацькаўшчыны, і пра адважнасць абаронцаў яе сталіцы, і пра абсалютную самаахвярнасць, якую праявілі падчас эпідэміі віленскія манахі-рохіты. ◆



BAŽNYTINIO PAVELDO MUZIEJUS, FACEBOOK

**Скульптура Езуса са Сніпішак, знойдзеная ў 2017 годзе.** Экспануецца ў Віленскім музеі царкоўнай спадчыны. Падчас рэстаўрацыі фігуры навукоўцы знайшлі на ёй дату «1855». Гэта дазваляе меркаваць, што знойдзеная фігура была зроблена ў сярэдзіне XIX стагоддзя, замяніўшы колішнюю арыгінальную.

# Бязлюддзе з сінім

## Падарожжа часоў кавіду: Туніс

**«Падарожжа ў часы каранавіруса мае свае асаблівасці. Па прылёце ў Туніс аўтобус з аэрапорта вязе мяне не ў запланаваны гатэль у Сусе, бо той нечакана зачыніўся на зіму: няма турыстаў, няма сэнсу працаваць. Сяджу, перажываю, што мяне цяпер чакае, урэшце аўтобус спыняецца каля гатэля ў Набуле — далёка не горшае месца, куды мяне мог закінуць лёс», — піша кандыдат сацыялагічных навук і знаны беларускі падарожнік Аляксей Ластоўскі.**

DEPOSITPHOTOS.COM, BY ZHURAVLEVAB

Многія традыцыйныя кірункі закрыліся для беларусаў з прычыны кавіду, а Туніс — не.

Пясчаныя пляжы, Карфаген і Сахара, недарагія цэны — добрая канкурэнцыя з больш вядомымі егіпецкімі курортамі. Я вандроўнік спрактыкаваны, звычайна як агню пазбягаю нашых туркампаній, але сітуацыя не пакідае выбару: дабрацца да Туніса іншым шляхам цяпер немагчыма.

Набул пачаткова называўся *Neapolis*, і калі зыходзіць з назвы, то заснавалі горад ажно грэчаскія каланісты, але хутка ён перайшоў да карфагенцаў. Быў разбураны рымлянамі і потым імі ж адбудаваны. Археолагі знайшлі тут велізарную фабрыку па вытворчасці гаруму, знакамітага соусу, які карыстаўся надзвычайным попытам у рымлянаў (можа, і таму, што мае ўласцівасці афрадызіяку). Гэты соус выраблялі такім чынам: у цыстэрну скідалі дробную рыбу, потым яна гніла пад сонцам, і з гэтай масы прэсам выціскалі патрэбны экстракт. Уявіце сабе, якія водары распаўсюджваліся па ваколіцах! Але цяпер мода на гарум мінула — можна дыхаць спакойна.

### Фрагменты Карфагена

Самы знакаміты археалагічны аб'ект Туніса — Карфаген. Гэты горад быў цэнтрам магутнай цывілізацыі і галоўным ворагам Старажытнага Рыма — змагаліся за кантроль над Міжземнамор'ем.

Паводле легенды, Карфаген заснавала царыца Дыдона, якая ўцякла з Фінікіі ад пераследу свайго зламыснага брата ды здолела лоўка падмануць мясцовых жыхароў — купіла ў іх кавалак зямлі, якую ахоплівае бычыная скура. Але царыца парэзала скуру на стужкі, якімі перавязала цэлую гару, дзе і быў збудаваны акропаль горада.

Рымлянам давялося правесці тры цяжкія вайны з Карфагенам. Славуты военачальнік Ганібал, які выправіўся з Іспаніі ў паход на Рым з баявымі сланамі, не здолеў зламаць рымскую ваенную машыну. Але Карфаген выявіў у гэтым супрацьстаянні нечаканыя здольнасці да рэгенерацыі. Пасля прайгранай Другой Пунічнай вайны горад зноў расквітнеў — і гэта так напалохала рымлян, што адзін з іхніх консулаў кожную сваю прамову заканчваў заклікам: «Карфаген павінен быць знішчаны!» Пасля Трэцяй вайны рымляне так і зрабілі — цалкам зраўнялі з зямлёю адзін з найбуйнейшых арадоў тагачаснага свету.




DEPOSITPHOTOS.COM, BY CARTARIUM

### Туніс

Краіна так званага Магрыба, у Паўночнай Афрыцы.

Насельніцтва 11,7 млн чалавек. Тэрыторыя 163 тыс. кв. км (трохі меншая, чым Беларусь). Адна з самых дэмакратычных арабскіх краін, з моцнай грамадзянскай супольнасцю.

Па ВУП на душу насельніцтва прыкладна ў 1,5 разу бяднейшая за Беларусь, цэны тут дэмакратычныя.

Некаторыя сляды старога, пунічнага Карфагена яшчэ можна знайсці: на вяршыні акропаля археолагі адкапалі пару жылых кварталаў, будаўніцтва якіх легенды чамусьці прыпісваюць Ганібалу. Але як жа палкаводзец, што з дзяцінства бавіў час у няспынных войнах, паспеў адчыніць выгадны будаўнічы бізнэс?

У пошуках пунічнага горада абавязкова раю зазірнуць у падземнае свяцілішча, дзе карфагенцы ўшаноўвалі сваіх багоў Ваала і Таніт. Яно было выпадкова знойдзена ў 1921 годзе. Свяцілішча было ▸

напоўнена дзіцячымі косткамі, што паслужыла пацвярджэннем рымскіх абвінавачванняў, быццам карфагенцы здзяйснялі дзіцячыя ахвярапрынашэнні. Але і цяпер навукоўцы дыскутуюць наконт гэтага: можа, гэта ўсё рымская прапаганда, а тут знаходзіўся дзіцячы некропаль? Толькі ў цёмнай і вільготнай пячоры, сярод якой стаіць ахвярнік, верыцца больш у змрочную версію карфагенскіх рытуалаў.

DEPOSITPHOTOS.COM, BY KATIEKK

## Якімі былі звычаі ў Карфагене? Дагэтуль цяжка адрозніць праўду ад рымскай прапаганды

Карфаген на дзіва імкліва адрадзіўся, і пасля татальнага знішчэння на яго месцы была пабудаваная сталіца рымскай правінцыі Афрыка, якая зноў стала буйной метраполіяй Міжземнамор'я. Большасць будынкаў, зразумела, паходзяць з рымскага часу: тэрмы Антонія, амфітэатр, тэатр (Адэон), вілы патрыцыяў. Асабліва любяць турыстаў вадзіць у тэрмы, зробленыя ўжо цалкам на рымскі манер, — тут табе і звыклая сістэма залаў з рознай тэмпературай, характэрны гігантызм з велічэзнымі калонамі і агромністымі заламі, якія маглі адначасова змясціць тысячы людзей. Застаецца толькі шкадаваць, што і тут рымляне паламалі мясцовыя звычкі ды навязалі ўласцівую ім унікультуру.


ФОТА АЛЯКСЕЯ ПАСТОЎСКАГА

**Карфагенскі леў з Керкуана.**

Тэрыторыю Карфагена пачалі актыўна забудоўваць яшчэ ў XIX стагоддзі, што стварае вялікія перашкоды для археолагаў, тут жа пабудаваны і прэзідэнцкі палац. Таму ўражанне вельмі фрагментаванае, ад аднаго да другога аскепка старажытнай цывілізацыі даводзіцца прадзірацца праз кварталы новай забудовы. Каб адчуць пунічную цывілізацыю, трэба ехаць у Керкуан.

Але на вяршыні гары, якую хітра вытаргавала царыца



ФОТА АЛЯКСЕЯ ЛАСТОЎСКАГА

**Сабор Святога Людовіка** цікавы сваім рамантычным міксам розных стыляў: гатычнага, маўрытанскага, візантыйскага.



У Тунісе пясчаныя пляжы.

DEPOSITPHOTOS.COM, BY KAYCO

Дыдона, варта завітаць яшчэ ў былы кафедральны сабор, пабудаваны якраз на месцы, дзе падчас крыжовага паходу памёр французскі кароль, кананізаваны пазней як Людовік Святы. Ён дужа цікавы сваім рамантычным міксам розных стыляў: гатычнага, маўрытанскага, візантыйскага.

Узведзены сабор быў у 1884–1890 гадах на фундацыі нашчадкаў крыжацкіх сем'яў, гербы якіх атачаюць інтэр'ер сабора па перыметры. Гэта былы кафедральны сабор адноўленай Карфагенскай дыяцэзіі (адной з самых слаўных у гісторыі хрысціянства, біскупам якой быў святы Кіпрыян, у Карфагене вучыўся і выкладаў святы Аўгусцін). Тут вітае дух ганарлівых крыжакоў, якія праз стагоддзі здолелі падпарадкаваць сабе гэтую зямлю. Пасля дэкаланізацыі, у 1963 годзе, сабор дэсакралізавалі, цяпер тут нейкі культурны цэнтр. Але галоўнае, што яго можна наведаць, бо ў актуальны каталіцкі кафедральны сабор у сталіцы я так і не здолеў прабіцца. Вельмі тут напружаная рэлігійная сітуацыя ды супрацьстаянне з ісламскімі фундаменталістамі.

**Тур у Туніс**

каштаваў прыкладна 500 долараў на 10–12 дзён, з пералётам і гатэлем *all inclusive*.

Мой гатэль знаходзіўся на самым беразе мора і пакідаў сюррэалістычнае ўражанне: інфраструктуру, разлічаную на тысячы турыстаў, скарыстоўвае дзясятак чалавек. Кармілі сытна і смачна, хоць абед звычайна прыпадаў на час падарожжаў.



**Бонус пандэміі — сярод антычных руін можна блукаць у поўнай адзіноце. Зусім іншыя адчуванні**

Аўтар у Керкуане.

ФОТА АЛЯКСЕЯ ЛАСТОЎСКАГА

## Каб адчуць пунічную цывілізацыю, трэба ехаць у Керкуан

### Ярка-сіні

Да Карфагена найлепш дабірацца са сталіцы звычайнай гарадской электрычкай, якая напоўнена студэнтамі ды працаўнікамі, мае сэнс праехаць і пару прыпынкаў надалей, каб патрапіць у Сідзі-бу-Саід, бела-блакітны гарадок мастакоў і паэтаў на ўзбярэжжы. Гэта Туніс з паштовак, ярка сонечны, вогненна прыгожы, працяты свежасцю марскога паветра. Можна сузіраць з вяршыні скалы, як караблікі змагаюцца з марскімі хвалямі, піць на тэрасе сок са свежавыціснутых фінікаў ці пакручастымі вулкамі дабрацца да «Зоркі Венеры».

Так назваў свой раскошны палац на беразе мора французскі барон Рудольф д'Эрлянжэ. Ён паходзіў з сям'і банкіраў, але аддаўся творчасці, пераехаў у Туніс і маляваў вузкія вулкі з арабамі ды любімага сабаку. Але больш праславіўся ён тым, што пачаў вывучаць ды аднаўляць традыцыйную тутэйшую музыку, нават утрымліваў пры палацы цэлы аркестр. Цяпер палац змяшчае музей музычных інструментаў (вельмі цікавыя і незвычайныя мясцовыя дуды!), але і сам па сабе гэта рэальны шэдэўр, зроблены рукамі мясцовых рамеснікаў, сапраўдная пярліна на беразе Міжземнага мора.

**Можна сузіраць з вяршыні скалы, як караблікі змагаюцца з марскімі хвалямі і піць на тэрасе сок са свежавыціснутых фінікаў**

### На луажы

Пасля працяглых росшукаў я знаходжу неабходны мне вакзал маршрутак (тут іх называюць на французскі манер — *луаж*), каб адправіцца ў шлях да Керкуана, закінутага горада карфагенцаў. Праўда, даводзіцца адольваць на шляху сувенірны кірмаш, дзе адзінокі белы чалавек выклікае шалёны ажыятаж сярод прадаўцоў: *«Руский? Как дела? Иди суда! Два динара!»* Турыстам з Заходняй Еўропы шлях у Туніс цяпер практычна зачынены, хоць сустракаліся невялічкія групкі французаў, якія прабраліся ў былую калонію патаемнымі кантрабандысцкімі сцежкамі. Цяпер беларусы цалкам здамінавалі тут індустрыю адпачынку. У наступны сезон мясцовыя гандляры будуць ужо крычаць «Жыве Беларусь!».

Нарэшце маршрутка набірае дзевяць пасажыраў і можа адпраўляцца. Калі не пашанцуе, то можна і некалькі гадзін



**Сідзі-бу-Саід, бела-блакітны гарадок мастакоў і паэтаў на ўзбярэжжы** — райскае месца над морам. Від на мора са знакамітага *Café des délices*.

**1 дынар прыкладна роўны аднаму беларускаму рублю**, што неймаверна аблягчае жыццё нашаму турысту.

прасядзець у чаканні поўнага камплекту пасажыраў. На шчасце, тунісцы не спрабуюць абдурыць на роўным месцы, што варта чакаць ад тых жа егіпцян. Цэны — недзе каля 6 дынараў за гадзіну падарожжа, адзін жа дынар прыкладна роўны аднаму беларускаму рублю, што неймаверна аблягчае жыццё нашаму турысту.

Яшчэ адзін кароткі рывок таксоўкай, якая дастаўляе да варот Керкуана. Гэта адзін з самых захаваных гарадоў пунійцаў, Карфаген жа рымляне зраўнялі з зямлёй, як і абяцалі. Адчуць, як жылі ганарлівыя ўладары марскіх прастораў, можна толькі тут.

Умацаваны горад перажыў спачатку напад сіракузскага тырана Агастокла (Сіцылія тут зусім побач, дарэчы, 140 км, але туды беларусам цяпер дарога забароненая), а пазней яго рымляне разбурылі падчас Першай Пунічнай вайны, і горад так і не здолеў аднавіцца. Але тое, што горад быў закінуты дзве з паловай тысячы гадоў таму, дало нам унікальны шанец зразумець, як насамрэч жылі пунійцы.

Падвойная абарончая сцяна атачае кварталы рамеснікаў ды арыстакратычныя вілы, нагадвае мініяцюрную версію Пампей. Першае, што кідаецца ў вочы, — адсутнасць адкрытай публічнай прасторы, якая абавязковая як для элінскіх (агора), так і рымскіх (форум) гарадоў. Арыстоцель нахвальваў палітычны лад Карфагена, але ён нагадваў больш алігархію: кіраўніцтва было ў руках некалькіх багатых



Горад Сідзі-бу-Саід.











ФОТА АЛЯКСЕЯ ЛАСТОЎСКАГА

**Так уяўлялі сабе Пасейдона ў антычным Тунісе.** Археалагічны музей Суса. Самая ж багатая калекцыя рымскіх мазаік — у музеі Бардо.

сем'яў, якія дазвалялі багацець і іншым, што спрыяла захаванню аднаснага ладу ў дзяржаве. Але нагоды збірацца грамадзянам разам пры такім кіраванні не было. Няма тут і тэатра, яшчэ адной публічнай інстытуцыі. Агулам складваецца ўражанне, што пунійцы былі людзьмі замкнёнымі — грамадскія лазні зусім не нагадваюць каласальныя рымскія структуры. Затое амаль у кожным доме прысутнічае ванная, выкладзеная з чырвонага каменю, якая паказвае, наколькі блізкія жыхарам гэтага горада былі інтымнасць і гігіена.

Адзін з нешматлікіх бонусаў пандэміі — што можна блукаць сярод руін, пад павевамі ветру з мора, у поўнай адзіноце. Толькі цені ганарлівых пунійцаў суправаджаюць на вуліцах закінутага горада.

### Рымскія мазаікі

Да сталіцы, Туніса, працсей за ўсё дабірацца звыклым луажам, на папулярным кірунку ён запаўняецца за пару хвілін. Але цікаўнасць цягне мяне на чыгуначную станцыю, каб пратэсціраваць і гэты сродак перамяшчэння. Першая ж спроба скончылася няўдала, цягнік прыбыў на станцыю на паўгадзіны пазней пазначанага, пастаяў — і не змог завесціся. Расчараваныя пасажыры высыпалі са сваімі клункамі з цягніка, пацягнуўся ўслед за імі і я, збянтэжаны. Зразумеў, чаму квіткі на цягнік тут трэба купляць у кандуктараў.

Значна больш надзейнае метро ў сталіцы, якое насамрэч нагадвае нашы трамваі.

Каб паглядзець, якую спадчыну пакінулі рымляне ў сваёй паўднёвай правінцыі, трэба абавязкова выбірацца ў Нацыянальны музей Бардо на ўскрайку сталіцы, які мае сусветную славутасць. На жаль, не толькі калекцыямі: у 2015 годзе ісламскія тэрарысты прарваліся ў музей і пачалі расстрэльваць наведвальнікаў. Цяпер музей ахоўвае бранявік з аўтаматчыкамі, звыклая тут карціна, абавязкова пытаюцца: «З якой краіны?»

Вялізны палац былых беяў пусты, ходзіць пара купак адчайных турыстаў. А экспазіцыя музея насамрэч фантастычная: тут і статуі карфагенскіх багоў, і скарбы германскага племені вандалаў (адзінае, што яны па сабе пакінулі падчас кароткага панавання ў гэтай краіне), візантыйскія саркафагі ды ісламская кераміка. Шмат што бачыў у сваім жыцці, але гэта самая багатая і разнастайная калекцыя рымскіх мазаік, што ёсць. Гонар музея — гэта мазаіка з самай ранняй выявай Вергілія, які паэтычна распісваў трагічны лёс царыцы Дыдоны.

Агулам у Тунісе захавалася безліч рымскіх мазаік, якія былі прыкметай багатых вілаў, што сведчыць пра досыць тлустыя і бесклапотныя гады пад рымскім панаваннем.

Самы яркі сведка тых часоў — гэта амфітэатр Эль-Джэм.



ФОТА АЛЯКСЕЯ ЛАСТОЎСКАГА

**Амфітэатр Эль-Джэм** быў найбольшым у рымскай Афрыцы.

Грандыёзны, лічыцца чацвёртым у свеце па памерах (а для Паўночнай Афрыкі цалкам унікальны!). Змяшчае 35 000 гледачоў — фантастычная лічба. Парадаксальна, што гэты калос цяпер стаіць у правінцыйным, збяднелым магрыбскім гарадку (21 тысяча жыхароў), найлепшае сведчанне заняпаду цывілізацыі.

Цяжка цяпер паверыць, але гэты гарадок у рымскія часы быў найбольшым цэнтрам вытворчасці аліўкавага алею на ўсю імперыю. І называўся ён тады Цісдрус. Адпаведна, канкураваў за ганаровае месца другога па значнасці горада ў рымскай Афрыцы. Застаўся гіганцкі амфітэатр, які маўкліва навісае над актуальным мізэрным атачэннем. Грандыёзная пабудова стала вынікам амбіцый мясцовага консула Гадрыяна, які пазней спрабаваў нават выбіцца ў рымскія імператары, але пацярпеў паразу.

Сведчаннем неймавернага багацця ў рымскую эпоху стаў не толькі амфітэатр, які ўпарта прастаяў тысячагоддзі, але і мноства шыкоўных вілаў па ваколіцах, адна з якіх (Дом Афрыкі) была адноўлена ў мясцовым музеі.

Усё мінае, так і рымскае панаванне прыйшло нарэшце да свайго лагічнага завяршэння. Імперыя рухнула пад энергічным націскам варварскіх плямёнаў, і рымская Афрыка была заваявана племенем вандалаў. Як і абавязвае такое імя, нейкіх архітэктурных слядоў па сабе яны не пакінулі, і гэтая зямля зноў вярнулася ў арбіту цывілізацыі пасля перамог візантыйскай арміі.

Толькі і візантыйскае панаванне не працягнулася доўга, бо з Аравійскай пустыні ў Паўночную Афрыку пад сцягам джыхаду прыйшлі новыя заваёўнікі, якія назаўжды зрабілі Туніс мусульманскай краінай.



На вуліцы Кайруана.

ФОТА АЛЯКСЕЯ ПАСТОЎСКАГА

### Святы горад Кайруан

Чарговым луажам я еду ў Кайруан — святы горад для ісламскіх паломнікаў. У Сярэднявеччы Кайруан быў цэнтрам адукацыі і навукі (асабліва медыцыны і права), яго параўноўваюць з роляй Парыжскага ўніверсітэта для хрысціянства.

Маршрутку спыняе ўзброены аўтаматамі патруль, уважліва правяраюць у пасажыраў дакументы, прабіваюць усіх па базе звестак. Я спачатку знерваваўся, можа, і мяне прыцягнуць, што я тут у час пандэміі замест ляжання на пляжы гойсаю па краіне, але мае дакументы патруль не зацікавілі.

Шукаюць ісламскіх фундаменталістаў. У тым жа страшным для Туніса 2015 годзе 22-гадовы студэнт з Кайруана здзейсніў яшчэ адзін жахлівы тэракт на пляжы ў Сусе, дзе пераважна адпачывалі брытанскія турысты.

**Выйсці з гасціннага дома ўдалося толькі з набытым дыванам за плячыма**

Кайруан стаў сталіцай заваяванай воінамі прарока Мухамеда краіны, тут жа пабудавалі ў 670 годзе мячэць, якая змагаецца за тытул першай мячэці ў Паўночнай Афрыцы (у Каіры, зрэшты, думаюць інакш). Праўда, тут і так пасля серыі тэрактаў немусульман асабліва не пускаюць у мячэці, ды яшчэ наклалася гэтая пандэмія. Але добрыя людзі адразу ж мяне зацягнулі на тэрасу дома насупраць, адкуль выдатна бачная агульная структура Пятнічнай мячэці, куды ў велічэзны двор ▸

на чарговую малітву маглі сабрацца ўсе вернікі сярэднявечнай сталіцы. Адразу ж згадалася легендарная кардоўская Мескіта, з такімі ж абарончымі сценамі, з такімі ж шэрагамі калонаў, якія нагадваюць містычны лес, а паколькі Кардоўскі эмірат ствараўся берберамі-заваёўнікамі з Туніса, то ясна, што мадэллю была менавіта гэтая мячэць.

Праўда, выйсці з гасціннага дома атрымалася толькі з набытым дыванам за плячыма (а Кайруан славіцца сваімі дыванамі!) — сам не разумею, як і НАВОШТА я яго набыў...

## Андалузская настальгія

Ад галоўнай мячэці можна завярнуць у медзіну. Так у Паўночнай Афрыцы называюць гістарычны цэнтр гарадоў, часцей за ўсё аточаны абарончымі сценамі, за якімі разгортваецца лабірынт вузкіх вулак, дзе немагчыма не заблукаць. Кайруанская медзіна, як і мае быць для святога горада, напоўненая старымі мячэцямі ды маўзалеямі святых, але я найбольш заўважыў:


DEPOSITPHOTOS.COM, BY URF

**Тунiскі: жанчын у хіджабах тут мала**, але яны ёсць.

Тунісцы любяць піць чай з мятай. Кава па-туніску — тая ж кава па-турэцку. Шмат розных дэсертаў, якія можна таксама прывезці на сувеніры дадому.

— безліч катоў, якія досыць мірна паставіліся да інтэрвента;

— дзвюх прыгожых дзяўчат у міні-спадніцах, якія на мяне зацікаўлена пазіралі і міла сказалі «Бонжур!», для месца рэлігійных пілігрымак гэта было крыху нечакана;

— за аскетычнымі фасадамі дамоў хаваюцца раскошныя інтэр'еры, якія зноў жа нагадалі Андалусію.

З другога боку, калі пасля паспяховай Рэканкісты з Іспаніі выгналі маўраў, большасць з іх перабралася ў Туніс, адкуль у свой час распаўсюджваліся хвалі ісламскага заваявання на еўрапейскі кантынент. Таму не здзіўляюць тут у дамах дэкоры з керамічнай пліткі ў тыповым андалузскім стылі. Настальгія выгнаннікаў па страчаных «крэсах» Кардовы і Гранады шмат у чым вызначае эстэтыку ісламскай культуры Туніса.

## Новы погляд на вярблюда

Адведаў я таксама легендарны калодзеж на месцы заснавання Кайруана, які нейкім містычным чынам наўпрост звязаны з калодзежам Зум Зум у Мецы (хоць вісіць шыльда «Ваду не піць!»). Ваду з калодзежа па старынцы дастаюць з дапамогай вярблюда, з якім у мяне атрымалася ўсталяваць прыязны кантакт і абдымашкі. А я думаў, што вярблюды — гэта небяспечныя істоты, якія могуць толькі смачна плюнуць табе ў твар. Думаю, можа, і сабе завесці вярблюда для вясковай гаспадаркі?



ФОТА АЛЯКСЕЯ ЛАСТОЎСКАГА

Яшчэ адным рэліктам эпохі джыхаду застаюцца дзве суровыя крэпасці ў Сусе і Манастыры — яны называюцца *рыбаты*. Такія крэпасці будавалі падчас джыхаду, тут не было пастаяннага гарнізона, а спыняліся воіны падчас вялікіх аперацый. Напрыклад, сускі рыбат быў бастыёнам для далейшага ісламскага заваявання Сіцыліі. Ваярам непатрэбныя былі шыкоўныя ўмовы, шэрагі суровых і мінімалістычных



**Нязвыкла пустыя вуліцы старых гарадоў Туніса**: каранавірус.



**Маўзалей Хабіба Бургібы**, першага прэзідэнта Туніса, у горадзе Манастыр.

ФОТА АЛЯКСЕЯ ПАСТОЎСКАГА

каморак ды агульная сталовая — вельмі нагадвае сярэднявечныя кляштары. Калі хваля джыхаду сціхла, то рыбаты асвоілі брацтвы суфіяў, якія ператварылі іх у свае містычныя цытадэлі, дзе яны танчылі свае карагоды, пілі віно і шукалі містычнага збліжэння з Алахам.

### Медзіны

У медзінах жа Туніса і Суса пануе зусім іншая, гандлёвая атмасфера. Тут раскінутыя шэрагі невялічкіх крамаў і майстэрняў, дзе можна набыць безліч прыгожых і непатрэбных рэчаў. Вузкія вулачкі, якія мусілі абараняць ад спякоты паўднёвага сонца, скандэнсавалі ў сабе тысячагоддзі. Лад жыцця тут мала змяніўся, толькі што еўрапейцаў раней можна было ўбачыць пераважна на рынку рабоў, а зараз — у якасці турыстаў.

**Суфіі ў сваіх цытадэлях танчылі карагоды, пілі віно і шукалі містычнага збліжэння з Алахам**

Туніс стагоддзямі спраўна пастаўляў для ісламскага свету ваяроў, заваёўнікаў, піратаў. Славуты пірат Хайрэдзін Барбароса (Рудая Барада) наводзіў жах на ўвесь хрысціянскі свет, напады на караблі і рэйды па прыморскіх гарадах пастаўлялі на тутэйшыя рынкі чарговыя партыі хрысціянскіх рабоў, якіх чакала цяжкая доля.

Іспанскі кароль і імператар Святой Рымскай імперыі Карл V у XVI стагоддзі вырашыў ліквідаваць гэты пірацкі асяродак, і хоць помнік яму ў Палерма адлюстроўвае яго як трыумфатара над Тунісам, але замацавацца ў Паўночнай Афрыцы іспанцам надоўга не ўдалося, у Алжыры іх чакала балючая параза. Гэта каштавала доўгіх і пакутлівых гадоў у рабстве іспанскаму мараку Мігелю дэ Сервантэсу, які пазней гэты досвед здолеў перакаваць у геніяльнага «Дон Кіхота».

### Спадчына першага прэзідэнта

Калі ў сярэдзіне XIX стагоддзя наступае новая хваля каланіяльнага перадзелу свету, то на стагоддзе Туніс патрапляе пад французскі кантроль. Яшчэ і цяпер французская мова захоўвае тут статус дзяржаўнай, усе тунісцы гавораць на ёй, не раз чуў, што між сабой людзі размаўляюць менавіта па-французску, а не мясцовым дыялектам арабскай мовы. ▸

Каланіяльная французская спадчына адчуваецца лепш за ўсё на шырокім сталічным праспекце, названым у гонар першага прэзідэнта незалежнага Туніса Хабіба Бургібы. Тут і велічны гмах каталіцкага кафедральнага сабора, і нацыянальны тэатр з дэкорам з аголеных антычных багоў, і фешэнебельныя асабнякі ды дарагія крамы. Фрагменты вялікага еўрапейскага стылю, але зробіш пару крокаў убок — і элементы ўпарадкаванасці знікаюць, прымітыўныя жылыя кварталы і горы смецця ствараюць тыповы ландшафт сталіцы.

Шмат у чым сучасны Туніс сфарміраваны палітыкай яго першага прэзідэнта Хабіба Бургібы, які атрымаў выдатную французскую адукацыю, вучыўся паліталогіі ў Сарбоне і некалькі дзесяцігоддзяў свайго жыцця паклаў на мэту дасягнення незалежнасці краіны. Ён прайшоў праз турмы і выгнанні, але стаў бясспрэчным лідарам незалежніцкага руху. У 1954 годзе Бургіба здолеў-такі дабіцца ад французаў аўтаноміі, і паступова краіна пакрочыла сваім шляхам — з ідэаламі свецкай дзяржавы, раўнапраўя жанчын, сацыяльнай справядлівасці. Гэты шлях заклаў моцныя падмуркі для сучаснай свядомасці тунісцаў.

## На вуліцах тунісцы гавораць не толькі па-арабску, але і па-французску



PINTEREST.COM

**Бруталісцкі шэдэўр *Hotel du Lac*** у сталіцы Туніса стаіць занядбаны.

Помнікам гэтаму перыяду сацыяльных трансфармацый я лічу свой улюбёны будынак у Тунісе — гэта бруталісцкі шэдэўр *Hotel du Lac*, перавернутая піраміда з бетону і сталі, праца італьянскага архітэктара Рафаэле Кантыджані.

Эпоха росквіту архітэктуры бруталізму 1970-х супала з дасягненнем незалежнасці краін Трэцяга свету, дзе паўстала шмат важных праектаў, якія злучалі ў сабе інавацыйныя прыёмы будаўніцтва з прагай сацыяльных зменаў. Гэта была эпоха мрояў пра светлую будучыню. Лёс гатэля паказальны: ён даўно зачынены, выношваюцца планы яго знесці. Але пакуль яшчэ касмічны карабель трымаецца ў сталічным ландшафце!

Хабіб Бургіба кіраваў незалежным Тунісам аж 30 гадоў і мерыўся быць прэзідэнтам

**Бруталізм**
стыль у архітэктуры 1950–1970-х: шмат бетону, мінімум дэкору, падкрэсленая масіўнасць. З вядомых імён — Лё Карбюзье. У Беларусі ўплывы гэтага стылю адбіліся на такіх будынках, як Палац моладзі ў Мінску, гатэль «Прыпяць» у Пінску.

ФОТА АЛЯКСЕЯ ПАСТОЎСКАГА



**Традыцыйны кускус** з курыцай і тушанай гароднінай каштаваў мне 10 рублёў.

## Паабедаць у кавярні

можна адносна нядорага, напрыклад, 10 дынараў (=10 рублёў) будзе каштаваць традыцыйны кускус з курыцай, а за 3–4 дынары на вуліцы табе пакладуць у булку перчаных каўбасак мергес.

Хваляць **туніскія віны** — асабліва ружовыя і чырвоныя. Сярод найлепшых ружовых і чырвоных — *Tébourba*, *Coteaux d'Utique*, *Grand Cru Mornag*, а з белых — александрыйскі мускат *Kélibia*.

## Буха

Нацыянальная туніская гарэлка «буха» мацункам 36–40% выраблядецца шляхам браджэння фінікаў з наступнай простай дыстыляцыяй. Алкаголь можна набыць у супермаркетах, але па пятніцах ён не прадаецца: дзень святы.

да самай смерці: у 1975 годзе ён абвясціў сябе пажыццёвым прэзідэнтам. Але намеры намерамі, а жыццё жыццём: калі стан здароўя 84-гадовага прэзідэнта значна пагоршыўся, яго 7 лістапада 1987-га мірна адхілілі ад улады. А жыў ён пасля таго яшчэ доўга — памёр толькі ў 2000 годзе ва ўзросце 96 гадоў.

Наступнік Бургібы Зін аль-Абідзін Бен Алі трымаўся пры ўладзе аж да Язмінавай рэвалюцыі 2010–2011 гадоў, працягваючы курс на пабудову свецкай аўтарытарнай дзяржавы. Пераслед апазіцыі, кантроль над СМІ, няўдалая эканамічная палітыка — усё па класіцы.

У снежні 2010 года адзін бедны гандляр садавінай, тавар якога канфіскавала паліцыя, падпаліў сябе ад адчаю. Гэтая трагедыя стала кропляй, якая перапоўніла чашу цярпення. У Тунісе паляцелі кактэйлі Молатава, запалалі паліцэйскія машыны і штаб-кватэра кіруючай партыі. Сілавікі спрабавалі разганяць дэманстрацыі, як заўсёды, але гэтым разам не дапамагала, супраціў толькі нарастаў. Падчас аднаго з шэсцяў паліцыя застрэліла 14 маніфестантаў. Калі 14 студзеня 2011 года на вуліцы сталіцы выйшла сто тысяч пратэстоўцаў, напалоханы прэзідэнт Бен Алі, які кіраваў Тунісам 34 гады, уцёк з краіны.

Поспех Язмінавай рэвалюцыі шмат у чым быў абумоўлены развіццём сацсетак.

Рэвалюцыя ў Тунісе запусціла хвалю «арабскай вясны», пратэсты супраць рэпрэсіўных рэжымаў перакінуліся далей — у Лівію, Егіпет, Сірыю. Але толькі Туніс, дзе і распачалася гэта хваля ўзрушэнняў, здолеў не толькі перамагчы, але і перайсці да дэмакратычнага кіравання.

## Тут на дзіва спакойныя, крыху меланхалічныя людзі, вельмі мала махлярства

Лад жыцця мясцовых жыхароў куды больш свецкі, чым у тым жа Егіпце, і зусім адрозніваецца ад Блізкага Усходу. Устаноўкі на добрую адукацыю і раўнапраўе жанчын захоўваюцца, не так шмат жанчын тут ходзяць у хіджабах. Алкаголь нават прадаецца ў супермаркетах (тут добрае сваё віно!), хоць па пятніцах яго продаж забараняецца. Тут на дзіва спакойныя, добразычлівыя, крыху меланхалічныя людзі і вельмі мала махлярства. Я магу ім зычыць толькі поспеху, каб дасягненне вольнасці дало ім больш дабрабыту. ◆

Рамантычныя краявіды Наваградчыны мала змяніліся за 100 гадоў. **На фота: царква ў Валеўцы.**

# Трагедыя пад Навагрудкам

## Як стагоддзе таму расследавалі жудаснае забойства

**Сяцевіна і Ігольнікі — дзве невялікія вёскі за сем кіламетраў ад Навагрудка, размешчаныя ўздоўж старога гасцінца. Зрэдку па пыльнай жвіровай дарозе, засаджанай высокімі дубамі, праедзе выпадковая машына, на імгненне патрывожыўшы сон гэтай беларускай глыбінкі. Мясцовыя жыхары звыкліся з ціхім жыццём удалечыні ад вялікай зямлі, і ніхто ўжо не ўспомніць, як стагоддзе таму да гэтых мясцін была прыкавана ўвага ўсяго краю. На падставе дакументаў з фондаў Нацыянальнага гістарычнага архіва гісторык Дзмітрый Кішкілевіч раскрывае жудасныя падрабязнасці адной гучнай крымінальнай справы 1914 года.**

### Жудасная знаходка

Марозным днём 8 лютага 1914 года ля карчмы, размешчанай каля вёскі Сяцевіна, спыніліся сялянскія сані. Марцін Горбач, як і большасць яго аднавяскоўцаў, часта звяртаўся па дапамогу да гаспадыні карчмы Іткі Гаркаві, якая займалася лекаваннем. Гэтым разам селянін прывёз да габрэйкі хворую жонку.


ФОТА НАДЗЕІ БУЖАН

На ганку Марцін звярнуў увагу на ручку ўваходных дзвярэй: яна была прывязаная чорнай стужкай да скобы на сцяне. Зачыненыя былі і іншыя дзверы карчмы. Марцін захацеў пераканацца, што ў хаце нікога няма, і пачаў стукаць у вокны і клікаць гаспадароў. Вокны спальні былі адзінымі, дзе не было фіранак, і селянін зазірнуў у сярэдзіну дома. З гэтага моманту Марцін Горбач афіцыйна стаў першым сведкам у справе жудаснага забойства.

Паліцэйскі ўраднік (правобраз сельскага ўчастковага) Парамонаў, прыехаўшы неўзабаве, склаў пратакол агляду месца злачынства. Падрабязнасці, апісаныя ў ім, ледзянілі душу: «на падлозе спальнага пакоя знойдзеныя тры трупы пад вялікай масай крыві і адзін труп на кухні, таксама акрываўлены... Побач валяюцца нажы... Сцены і дзверы ўсіх пакояў запэцканыя крывёю... Поўнае бязладдзе дома, а таксама вывернутыя паліцы шафаў відавочна сведчаць пра характар злачынства — забойства з мэтай рабунку». На ўваходных дзвярах былі выяўленыя тры адтуліны, зробленыя ручным свердлам. Адтуліны знаходзіліся ніжэй за ўзровень засаўкі, на якую знутры замыкаліся дзверы, што дазволіла выказаць здагадку пра спосаб пранікнення злачынцаў у карчму.

Апытанне прысутных мясцовых жыхароў дапамагло высветліць асобы забітых. Труп, які ляжаў сярод пустых піўных бутэлек на кухні, належаў 50-гадоваму Абраму Гаркаві, уладальніку карчмы. У спальні на падлозе знаходзілася знявечанае цела Іткі Гаркаві — жонкі Абрама. У вялікай крывавай лужыне побач з целам жанчыны ляжалі трупы двух маладых мужчын, пастаяльцаў карчмы: Меера Чыжа і Івана Груды.

Доўгія крывавыя сляды на падлозе, а таксама вялікая лужына крыві пад ложкам Іткі ў суседнім пакоі сведчылі пра тое, што тая дарэмна спрабавала схавацца. Пасля забойства цела жанчыны перацягнулі ў пакой, дзе былі Чыж і Груда. Колькасць пашкоджанняў на целах забітых уразіла ўрадніка Парамонава. Пазней у адной толькі Іткі медыцынская экспертыза налічыць не менш за 80 нажавых ранаў.

Сярод рэчавых доказаў, знойдзеных ураднікам Парамонавым, апынуліся два нажы, сякера з прыліплымі да абуха валасамі і дзве брудныя сялянскія кашулі. У той далёкі час гэты набор яшчэ не азначаў хуткую ідэнтыфікацыю злачынца: узровень развіцця крыміналістычнай экспертызы быў невысокі. Аднак прадметы валодалі адной важнай уласцівасцю — пахам.

### Гектар

Расследаванне злачынства было даручана следчаму Георгію Аляксандраву. Адным з першых дзеянняў следчага стаў зварот да новага спосабу вышуку — пошукавага сабакі.

Сабака Гектар і ягоны павадыр прыбылі ў карчму на наступны дзень пасля выяўлення забітых. Сабаку далі абнюхаць трупы і сталі назіраць за яго паводзінамі. Гектар выбег на вуліцу, спыніўся каля праваслаўных могілак, а затым павёў на скрыжаванне дарог. Там сабака пабег у бок вёскі Ігольнікі. Мінуўшы некалькі сялянскіх хат, Гектар забег у двор Рамана Шынтара і пачаў брахаць на ўваходныя дзверы. Калі іх адчынілі, сабака забег у хату і спыніўся. Замёр і Раман Шынтар, які сядзеў на ложку. Гектар падышоў да гаспадара і забрахаў.

Было вырашана паўтарыць эксперымент. Сабаку тройчы давалі панюхаць рэчавыя доказы, і той па-ранейшаму завяршаў свой шлях каля Шынтара. У момант аднаго з такіх эксперыментаў, калі Шынтар спрабаваў прыбраць ад сябе сабаку, следчы Аляксандраў звярнуў увагу на падрапаныя рукі селяніна. Адразу былі агледжаныя рукі і твары ўсіх членаў сям'і. Падобныя драпіны былі выяўленыя і ў сыноў Шынтара — Рамана ды Макара. Затым следчы ▶

▶ загадаў мужчынам прымераць кашулі, знойдзеныя на месцы злачынства. Прысутныя ахнулі: па памеры кашулі цалкам падышлі як бацьку, так і яго старэйшаму сыну Раману. Крыху пазней у гумне Шынтароў было знойдзена некалькі ручных свердзелаў, адзін з якіх падышоў да адтулін на ўваходных дзвярах карчмы.

Перапуджаныя Шынтары кляліся ў сваёй невінаватасці і запэўнівалі, што правялі мінулыя дні на вяселлі аднавяскоўца. Наяўнасць драпінаў патлумачылі наступствамі цяжкай сялянскай працы, а падобныя кашулі, па іх словах, можна было знайсці ў любой мясцовай сям'і. Але просьбы ды ўгаворы не дапамаглі Шынтарам: бацьку і дваіх яго сыноў спешна арыштавалі і адправілі ў камеру Навагрудскага турэмнага замка. Здавалася, што ўсё відавочна і жорсткае злачынства неўзабаве будзе раскрытае. Але на самай справе ўсё толькі пачыналася.

## Бойка на вяселлі

Значная частка следчых дзеянняў ускладалася у той час на паліцыю. Ураднік Парамонаў прыклаў нямала намаганняў пры аглядзе месца злачынства і пошуку доказаў, не застаючыся ўбаку і пры далейшым расследаванні справы. Сам ён жыў у адной з навакольных вёсак, добра ведаў жыццё мясцовых сялян і карыстаўся іх павагай. Гэта дапамагло Парамонаву даведацца пра важныя дэталі.

Пры апытанні сялян вёсак Сяцевіна і Ігольнікі паліцэйскі звярнуў увагу на тое, з якой неахвотай мясцовыя жыхары гавораць пра трагедыю. Неяк пры размове адзін з мужыкоў сказаў Парамонаву, што валасны старшыня (правобраз старшыні сельсавета) злуецца на сялян і просіць іх не ўмешвацца ў «цёмную справу». Сяляне ахвотней дзяліліся падрабязнасцямі іншай падзеі ў жыцці вёскі — вяселля сына

НАЦЫЯНАЛЬНЫ ГІСТАРЫЧНЫ АРХІЎ БЕЛАРУСІ




**План карчмы** з пазначэннем целаў загінулых.

НАЦЫЯНАЛЬНЫ ГІСТАРЫЧНЫ АРХІЎ БЕЛАРУСІ



**Малюнак нажоў**, знойдзеных на месцы забойства.

старэйшага жыхара Ігольнікаў Уласа Жмуры, якое святкавалі ў ноч перад страшнай знаходкай у карчме. Багаты стол, танцы і традыцыйная бойка — пра гэта сяляне былі гатовыя гаварыць ва ўсіх падрабязнасцях. Апошняе і зацікавіла Парамонава, улічваючы тое, што адным з удзельнікаў бойкі быў сын валаснога старшыні — 26-гадовы Іван Кур'ян.

Даведацца аб прычынах бойкі Парамонаў вырашыў у іншага яе ўдзельніка — Паўла Кур'яна, далёкага сваяка сям'і валаснога старшыні. Па словах пацярпелага, Іван Кур'ян і яго сябры прыйшлі на вяселле ўжо добра п'янымі. Паводле мясцовага звычаю, няпрошаных гасцей вяселля заўсёды «абносілі чаркай», частуючы невялікай порцыяй гарэлкі. Сын валаснога старшыні і яго кампанія запатрабавалі наліць ім больш алкаголю. Бацька жаніха, стары Жмура, адмовіў ім.

Усім было вядома пра круты нораў сына старшыні, і бойка, якая адбылася пасля, чарговы раз гэта даказала. Бяскрыўднае слова, кінутае Івану ўслед, прымусіла хлопца кінуцца на Паўла Кур'яна і збіць яго. Пасля кампанія кудысьці сышла, але неўзабаве вярнулася, застаючыся на вяселлі да раніцы.

Раман Шынтар і яго сыны таксама былі на свяце, аднак нічога падазронага ў іх паводзінах Павел Кур'ян не заўважыў. Куды сыходзіў сын валаснога старшыні і яго сябры, а таксама што яны

думаюць з нагоды забойства, ураднік Парамонаў збіраўся ўдакладніць у саміх маладых людзей. Раптоўнае прызнанне Паўла Кур'яна дапоўніла карціну цікавымі падрабязнасцямі.

### Валасны старшыня

Тое, што Павел распавёў паліцэйскаму пра валаснога старшыню, ведалі, але баяліся ў адкрытую абмяркоўваць аднавяскоўцы. Макар Кур'ян, які займаў пасаду старшыні ўжо 27-ы год, вяршыў лёсы не толькі Кашалеўскай воласці, але і іншых мясцовых сялян. Ніводнае дзяржаўнае або царкоўнае свята не абыходзілася без абдорвання ўсёмагутнага старшыні сялянскімі прысмакамі: свежанінай, яйкамі, пірагамі. Тых, хто стараўся гэтага не рабіць, чакалі непрыемнасці: нечаканыя штрафы, зацягванне выдачы хутарскога ўчастка ды іншае.

Акрамя падарункаў, валасны старшыня любіў грошы. Як адказны за грамадскія сродкі, Кур'ян стараўся не забываць пра сябе і да чацвёртага дзясятка гадоў на пасадзе займеў вялікі ўчастак ды багатую гаспадарку. Удалося ўладкаваць і дзяцей: старэйшы сын вучыўся ва ўніверсітэце ў Пецярбургу, а малодшыя дзеці мелі хатніх настаўнікаў. Здавалася б, сялянская мара здзейснілася, але Кур'ян хацеў большага. Перашкодай да гэтага была сям'я габрэяў Гаркаві, а менавіта — іх участак зямлі.

Валасны старшыня рэгулярна наведваўся ў карчму і прапаноўваў гаспадарам паўтары тысячы рублёў за продаж участка. Абрам Гаркаві адмаўляў Кур'яну і тлумачыў, што не плануе пакідаць звыклыя для яго мясціны. Тады ў ход пайшлі пагрозы. У адзін дзень невядомыя разбілі ў карчме акно. Неўзабаве з'явіўся старшыня і намякнуў, што «хата можа згарэць, калі яе своечасова не прадаць».

Пра ўсё гэта Паўлу Кур'яну распавёў сам Гаркаві і дадаў, што прапаноўваў старшыні суму 3 000 рублёў за ўчастак, але той працягваў настойваць на сваім. Павел заявіў ураднiку Парамонаву, што забойства — справа рук Макара Кур'яна, яго сына Івана і іх суседзяў Шынтароў, з якімі ў старшыні было моцнае сяброўства. Але калі датычнасць апошніх да злачынства была амаль даказаная, то супраць Кур'яноў ніякіх доказаў не было.

### «Муры Ерусаліма»

Тым часам на адрас следчага Аляксандрава сталі паступаць ананімныя запіскі з указаннем імён забойцаў. Амаль ва ўсіх ананімках фігуравалі адны і тыя ж асобы: Раман Шынтар з сынамі Макарам і Раманам, Іван Кур'ян, а таксама Іван Каралько і Міхаіл Ждан з вёскі Кашалева. Двое апошніх былі сябрамі Івана


Господинъ Справникъ Это
нажи катори найдени
на убиство мне куранъ далъ
ма далъ деньги что я покупилъ
[illegible] ево ножи то я ево покуп[illegible]
патомъ онъ мине далъ деньги
что ево покупалъ всего одинъ
ножъ у другой лавка патом
я увидилъ етие нажи [illegible]
катори убитри было как я
сказалъ ему нащто ти
мане покупить и на
какойу работа такъ онъ
мине сказилъ молчи
в [illegible] что деле не исправите
[illegible] на пишу [illegible]
М. Ш. єто я подпису



**Ананімная запіска.**

Кур'яна і прысутнічалі разам з ім на вяселлі. Пры перагрусе ў Каралько былі знойдзеныя рэчы, не ўласцівыя сялянскай сям'і: сталовы абрус з махрой і зялёная гліняная талерка з надпісам на ідышы ды малюнкам «Муры Ерусаліма».

Якіх-небудзь падазроных рэчаў на хутары валаснога старшыні Кур'яна знойдзена не было. Як і ручных свердзелаў, якія павінны быць у такой вялікай ды багатай гаспадарцы. Падчасператрусу старшыня быў спакойны, чаго нельга было сказаць пра яго сына Івана. Хлопец абураўся прысутнасцю паліцыі і прыкметна хваляваўся.

Калі ператрус падышоў да канца, следчы Аляксандраў працягнуў бацьку і сыну пратакол аб адсутнасці доказаў. Валасны старшыня падпісаў дакумент і выказаў надзею, што злачынцу хутка знойдуць. Калі ж па ўказанні следчага паліцыянты надзелі на мужчын кайданкі, здзіўленню Кур'яноў не было межаў. Прычынай арышту стала прызнанне Марыі Шынтар — дачкі Рамана Шынтара-старэйшага. Прызнанне, якога не чакаў ніхто.

### «Не бацька з братам павінны сядзець! Кур'яны павінны сядзець!»

За некалькі дзён да арышту Кур'яна з сынам Марыя Шынтар па дарозе з Наваградка, дзе яна безвынікова спрабавала пакінуць перадачу ў турму для арыштаваных сваякоў, спаткала сяброўак з вёскі. Слова за словам, і даведзеная да адчаю жыццёвымі абставінамі Марыя скрозь слёзы заявіла:

— Не бацька з братам павінны сядзець! Кур'яны павінны сядзець!

Хутка змест гэтай размовы стаў вядомы следчаму. Дзяўчына ў падрабязнасцях апісала раніцу ▶

▶ 8 лютага, а менавіта — настойлівы грук у дзверы, з якім у дом Шынтароў прыйшло няшчасце. На парозе стаялі двое — Макар Кур'ян ды ягоны сын Іван з пухлым скруткам у руках. Марыя запрасіла гасцей у хату, разбудзіла бацьку і братоў, якія нядаўна вярнуліся з вяселля. Мужчыны селі за стол, і Іван Кур'ян разгарнуў скрутак, расклаўшы на стале пару кольцаў каўбасы і паставіўшы бутэльку гарэлкі. Крыху пазней да іх далучыліся Іван Каралько ды Міхаіл Ждан, якія вырашылі заначаваць у Шынтароў пасля вяселля. Абмеркавалі вяселле, выпілі ды закусілі.

А пасля валасны старшыня пачаў казаць дзіўныя рэчы. Маўляў, трэба вырашаць даўнюю праблему, бо момант прыдатны. Будучы ў суседнім пакоі, Марыя магла пачуць толькі асобныя фразы, але нават іх хапіла, каб насцярожыцца. Макар Кур'ян, звяртаючыся да Рамана Шынтара-старэйшага, сказаў, што «грошы і рэчы падзелім», і пастаянна падбадзёрваў старога. Гутарка доўжылася не больш за гадзіну, пасля чаго старшыня сышоў, а астатнія пачалі мітусіцца і хадзіць па хаце ў пошуках чагосьці. На роспыты Марыі ніхто не адказваў, а маці ўвогуле загадала дачцэ ісці спаць.

Неўзабаве ўваходныя дзверы бразнулі, запанавала цішыня. Праз акно дзяўчына паспела заўважыць, што бацька, браты і Іван Кур'ян з Каралько ды Жданом накіраваліся ў бок могілак і карчмы.

У тую ноч упершыню за шмат дзён выпаў снег. Ён ахутаў усё навокал, і нават самае зоркае вока не змагло б разглядзець, што хавае белая заслона. Ніхто так і не ўбачыў, як спрытныя рукі адсунулі дзвярную засаўку. Як выбег на шум Абрам Гаркаві ды спрабаваў абараніцца ад udараў, але ўпаў, забіты вастрыём сякеры. Як Ітка Гаркаві ў страху залезла пад свой ложак, але і там не здолела схавацца ад смерці. Як упарта змагаўся з нападнікамі Іван Груда і як хутка перарэзалі горла Мееру Чыжу, які спаў.

## «Цяпер мы прапалі»

У турэмных сценах удзельнікі злачынства працягвалі быць героямі даносаў, але ўжо з боку сукамернікаў. Адзін з іх распавядаў следчаму, што калі ў камеру, дзе таксама былі і Шынтары, увялі валаснога старшыню з сынам, то Макар Шынтар прамовіў: «Цяпер мы прапалі». Сам жа старшыня



**Стары гасцінец каля вёсак Сяцевіна і Ігольнікі.** Злева — месца, дзе знаходзілася карчма Гаркаві. Справа – старыя праваслаўныя могілкі.

ФОТА ХВЕДАР ЛЫСЕНКА

Кур’ян не пакідаў спробаў зняць з сябе ўсе падазрэнні. Падбухторваў сукамернікаў узяць віну на сябе ўзамен на шчодрую ўзнагароду, даручаў сваім парабкам накіроўваць следства на падманны след. Нават за кратамі грозная постаць валаснога старшыні працягвала наганяць страх на простых сялян. Мясцовыя верылі, што Кур’ян зможа «ўтапіць у грашах любую праблему», здолее выйсці на волю і ўсім адпомсціць.

### Вайна ўсё спісала

28 ліпеня 1914 года Расія ўступіла ў сусветную вайну. Да гэтага моманту Шынтары, Кур’яны, Ждан і Каралько знаходзіліся ў Наваградскай турме ўжо чацвёрты месяц. Арыштаваныя рэгулярна пісалі на імя следчага прашэнні аб пераводзе іх на хатні арышт, тлумачачы гэта цяжкім становішчам сваіх сем’яў. Рэзалюцыя следчага была заўсёды адна — «адмовіць».

Следства ішло павольна, у тым ліку з-за маруднай экспертызы валасоў, знойдзеных на месцы злачынства і ў руках забітых. Пакуль следчы Аляксандраў чакаў яе вынікаў, лінія фронту ўшчыльную наблізілася да Наваградка. У верасні 1915 года Сяцевіна і Ігольнікі былі ўжо ў тыле нямецкай арміі. Крыху раней усіх зняволеных Наваградскага турэмнага замка спешна эвакуіравалі ўглыб краіны: спачатку ў Смаленск, а затым у Маскву — у цэнтральную перасыльную турму, званую ў народзе «Бутыркай».

Вясной 1916 года просьбы аб змене меры стрымання ад арыштантаў аднавіліся. Зацягнутых спраў у Аляксандрава было мноства, і віной таму была вайна: шматлікія сведкі

Θ (P.). **Schwytanie morderców.** W związku z zamordowaniem w d. 9 (22) lutego małżonków żydów Harkawichi nocujących u nich dwóch podróżnych, aresztowano wójta gminy, jego syna i siedmiu włościan. Morderstwo zorganizował wójt w celu skorzystania z domu Harkawiego i założenia szynku. Nocujący przejezdni zostali zabici, jako mimowolni świadkowie.

LITHUANIAN STATE HISTORICAL ARCHIVES

**Зацемка пра забойствы** ў папулярнай у той час газеце *«Kurier Litewski»*.

апынуліся на акупаванай тэрыторыі, губляліся рэчавыя доказы і дакументы. У сувязі з гэтым следчы пастанавіў змяніць меру стрымання ўсім семярым падазраваным і папрасіў паліцэйскія ўлады Масквы весці над імі «асаблівы паліцэйскі нагляд».

Неўзабаве пракурор Мінскага акруговага суда перадаў справу аб забойстве ў карчме следчаму па найважнейшых справах акругі Піменаву. Чыноўніку ўдалося аднавіць экспертызу валасоў: некалькі з іх, знойдзеных у сціснутых руках Іткі Гаркаві, аказаліся ідэнтычнымі валасам валаснога старшыні Кур’яна, а валасы Рамана Шантыра-старэйшага нічым не адрозніваліся ад валасоў, што засталіся на абуху сякеры. Сукупнасць сабраных доказаў паказвала на дачыненне да злачынства ўсіх семярых мужчын, следства даўжынёю два гады падыходзіла да канца.

Піменаў адмяніў пастанову папярэдніка і папрасіў маскоўскіх паліцэйскіх вярнуць Шынтароў, Кур’яноў, Ждана і Каралько ў турэмную камеру. Але ўжо было позна: скарыстаўшыся з папушчальніцтва мясцовай паліцыі, зламыснікі зніклі, змяшаўшыся з дзясяткамі тысяч бежанцаў.

Далейшы лёс фігурантаў гэтай справы невядомы. Віхуры гісторыі прынеслі ў іх родныя мясціны новыя беды. Па пыльнай дарозе каля закінутай карчмы ездзілі нямецкія абозы, маршыравалі польскія жаўнеры, цягнуліся вазы з забітымі чырвонаармейцамі. Мяняўся час, змяняліся краіны, а ў вёсках Сяцевіна і Ігольнікі і цяпер, як і стагоддзе таму, жывуць Шынтары, Кур’яны, Жмуры, Каралькі. У міры і згодзе. ◆

Ці вярнуліся імаверныя забойцы на радзіму? Ці засталіся мясцовыя жыхары, якія памятаюць аб гэтым жудасным забойстве? Калі хто-небудзь з чытачоў ведае цікавыя падрабязнасці гэтай гісторыі, то, калі ласка, пішыце на **history@nn.by**.



# «Ірачка, захавай толькі жыццё, гэта ж не вечна»

**Ірына Шэйбак, якая перажыла сталінскія рэпрэсіі, успамінае, як у цяжкія моманты заўсёды знаходзіліся добрыя людзі.**

### «Ганна Данілаўна, усё гэта вам не трэба»

Дзядзька — служачы звычайны, у яго быў свой дом вялікі. Калі вызвалілі ў 1939-м, то палову дома аддалі пад рэдакцыю газеты. А ў палавіне, дзе нам дазволілі жыць, — яшчэ сям'ю энкавэдзіста пасялілі.

У хуткім часе дзядзьку арыштавалі, мы з цёткай хадзілі ў Лунінец пад турму, насілі перадачу. На спатканне хадзілі, але гэта было вельмі ўсё кароткае. Спатканняў жадных не было, толькі адзін раз, калі сабраліся такія жанчыны, як цётка, там каля турмы, то вязні адзін аднаго падсаджвалі на краты і можна было хвілёва ўбачыць. Калі пабачылі мы дзядзьку, то ён быў да сябе не падобны.

Пазней прыйшлі вывозіць і цётку ў Сібір. Яна разгубленая была, не ведала, што хапаць. Але добрым чалавекам аказалася жонка гэтага энкавэдзіста. Яна зайшла, паглядзела вокам знаўцы, кажа: «Ганна Данілаўна, усё гэта вам не трэба». Шубы клала, адзёжу, палезла ў склеп, дастала харчы, спакавала. Кажа: «А ты, Ірачка, не плач, я дам

тэлеграму тваёй маме». Мама прыехала на вакзал у Лунінец, а я ўжо з цёткай у цялятніку, у вагоне сядзела, на саломе. Тады адпусцілі, і мама мяне забрала назад дамоў у вёску. А жонку энкавэдзіста я з удзячнасцю ўсё жыццё згадваю.

### «Прасіў даслаць толькі макухі»

Папу судзіла надзвычайная нарада, на 10 гадоў, «за недастатачнасцю ўлік». З нашай мясцовасці на яго ніхто не хацеў даносы пісаць. Ён стараста быў пры акупацыі, можна ж на яго напісаць. З нашай вёскі ўсіх людзей перацягалі ў Вілейку. І яму далі 10 гадоў, ён адбываў срок у Агадыры ў Казахстане. З дому прасіў даслаць толькі макухі, каб не памерці з голаду. Во такія былі ўмовы.



**Дзядзька Станкевіч Міхаіл Ільіч з жонкай Ганнай Данілаўнай.** Высланыя ў 1939 годзе.

### «Дура акаянная!»

Былі мы вельмі бедныя, елі, што Бог паслаў. Гэта пшонная каша, будзь яна праклятая на ўсе вякі, і прыправа — карыца. Адна сястра вязаннем займалася, другая — шыццём.

Але НКВД настырны. На працы імкнуліся не гаварыць. Але ўсё гэта, канечне, вылезла наверх, і сталі мяне выклікаць на допыты: «Дзе былі падчас акупацыі?» Сёстраў выклікалі, але сёстры ў СБМе не былі. «Ну, Волкава, вы ў фашысцкай арганізацыі былі? Калі будзеце супрацоўнічаць — вернецеся на фабрыку. Калі не — вашая дарога ці ў падвал, ці на Кірава, 53». Аб гэтым падвале ўжо легенды хадзілі — там мучылі людзей.

Я падумала неяк, што тата адмучыўся, сядзіць у лагеры, а я буду нейкае супрацоўніцтва!? Я кажу: «Я хачу ў лагер». — «Дура акаянная!» І прывялі мяне з контрразведкі на Кірава, 53 у НКВД [па гэтым адрасе ў Пінску і сёння знаходзіцца гарадскі аддзел унутраных спраў. — **Рэд**.]. Стаю я на калідоры тварам да сцяны, рукі назад. Побач са мной стаіць пінскі ксёндз Рэшка. Ён трымае штаны ў руках, таму што гузікі паадразалі адразу.

### «Апусцілі ў камеру 11»

Апусцілі ў камеру 11. Са мной адны паляшучкі сядзелі. Тады ішла хваля, людзей заганялі ў калхозы. Людзі не хацелі ісці, бо памяталі, як пасля вайны. Як мы бедна ні жылі, але была свая гаспадарка, мы не пухлі з голаду, і нашы людзі не ездзілі з мяшкамі жабраваць. І іх пад артыкул 63.1 «Здрада радзіме» па шаблоне цягалі.

Са мной у камеры было 11 жанчын. Цесна, лета было, спёка, недахоп вады, недахоп паветра. Ноччу допыты,



**Бацька Канстанцін Волкаў**, арыштаваны ў 1948 годзе, вызвалены ў 1957-м.

днём спаць не можна, ляжаць не можна — сядзелі. Падзяліліся: калі я выцягну ногі, дык яны ногі падкорчаць, а потым наадварот. Са следства прыводзілі і пабітых, і раненых... Была са мной Зося Хлябовіч. Яна малапісьменная. «Ізменніца родзіны» — яна не разумела слова «ізменніца». І калі следчы да яе прычапіўся: «Ты — ізменніца», — дык яна клялася, што не.

### «А следчага добрага свайго памятаю»

Мяне не білі. У мяне быў следчы, ён сам малаграматны, мусіць, п'яніца, называўся Жураўлёў Васілій. Вечарам выклікаюць, садзяць мяне на зэдлік. Да грубкі не можна прыхіліцца і да сцяны. Трэба было толькі так сядзець. Ён адкрывае шуфляду, сядзіць і дрэме. І я сяджу. ▶

Як толькі крокі чуюцца, ён пачынае допыт: «Я тебя сотый раз спрашиваю!..» Я «да» адказваю на ўсе пытанні. З усім была згодна. Бо калі мяне арыштавалі, то мама сказала: «Ірачка, захавай толькі жыццё, гэта ж не вечна». І так гэтыя мае допыты цягнуліся тры месяцы. Што ён пісаў — аднаму чорту вядома. А я ўсё падпісвала, з усім пагаджалася, нічога не пярэчыла.

Пачыналася абвінавачванне так: «Волкава Ірына Канстанцінаўна, дачка буйнога беларускага нацыяналіста, ганебна з нямецкімі афіцэрамі збегла ў Германію ад доблеснай савецкай арміі». Я ўсё згаджалася. Усё роўна тэрмін 25 гадоў. Большасць паляшучак, якія са мной былі, усе атрымалі 25 гадоў...

## А следчага добрага свайго памятаю, ён спіўся, бедны

А следчага добрага свайго памятаю, ён спіўся, бедны, я яму два разы па 1000 рублёў давала. Тут ужо, у Пінску, калі вярнулася.

### «Мне спадабалася на судзе, бо выводзілі на дворык»

Хутка нас усіх асудзілі. Мне спадабалася на гэтым судзе, бо выводзілі на дворык, а сонца пасля падвала, неба і паветра свежае. Гэта мне ўрэзалася ў памяці, вельмі было балюча. Пасля суда павезлі на Брэсцкую вуліцу, там была перасыльная турма. Адтуль фарміравалі эшалоны і адпраўлялі на Оршу.

Сказаць, што ўсе надзірацелі былі дрэнныя, я не скажу. У той страшны час яны не баяліся, яны па-людску з намі абыходзіліся, былі такія. Ну, напрыклад, калі вядуць у баню мыцца, трэба вады, а вады толькі па норме. Так ён: «Мыйцеся, вады бярыце колькі трэба, я пацягну час». Гэта ж было добра, праўда? Адзін дзяжурыць, усю ноч па дзвярох б'е ключом, гэта зматывае нервы. Другі ноччу ні разу не ўдарыць. Такія ўсякія, на цяперашні погляд, здавалася б, драбніцы, але калі сядзіш у падвале, гэта не драбніцы — гэта жыццё было.

### «Каб начальнік гэта гаварыў!»

На этапе нас аб'ядналі з бытавікамі. Тыя нас абрабавалі: забралі нашы сухары, нашу вопратку. Прыйшоў надзірацель, мы сталі скардзіцца — і нас адтуль забралі. А к вечару нас ужо садзяць у варанок і вязуць на этап далей. Мы ўсе адурэлі ад нечаканасці. Варанок адкрыты, і стаіць побач зэдлік, каб нам лепей было залазіць.

На дарогу нам далі рыбу салёную, як заўсёды. Далі хлеб. Начальнік стаіць і кажа: «Жанчыны, не плачце, гэта доўга не працягнецца, вы вернецеся дахаты». У той смутны час, страшны, каб начальнік гэта гаварыў! І мы так усе плакалі, так плакалі страшна, бабы старэйшыя маліліся, дзякавалі яму. Гэта я не забуду ніколі.

## Усякія, здавалася б, драбніцы, але калі сядзіш у падвале, гэта не драбніцы — гэта жыццё было

### «Ляжаць кучы рыбы пратухлай»

Выгрузілі нас у Джэзказгане, у Кенгіры, як тады ён называўся. Гэты лагер заснаваны быў у 1948 годзе, а нас прывезлі ў 49-м. Голы стэп, зіма, сцюжа, провалака — і нідзе нічога няма. Адкрываюцца вароты, нас запускаюць. Каля варот стаяць ужо тыя, што раней прыбылі, кожны шукае землякоў. Гуртаваліся па зямляцтвах, знаёмствы завязваліся.




СССР
МИНИСТЕРСТВО ЮСТИЦИИ

Форма «А»
ВИДОМ НА ЖИТЕЛЬСТВО НЕ СЛУЖИТ
ПРИ УТЕРЕ НЕ ВОЗОБНОВЛЯЕТСЯ

I-БЦ

СПРАВКА №0023431

Выдана гражданке Волковой Ирине Константиновне
1926 года рождения, уроженке
гражданство СССР национальность белоруска
осужденной
по ст.ст. УК БССР
к лишению свободы на лет, с поражением в правах на года,
имеющей в прошлом судимость не судима
в том, что она отбывала наказание в местах заключения по
16 октября 1955 г. и
Освобождена
следует к избранному месту жительства Пинск, Брестская обл. БССР
Начальник лагеря (ИТК)
Начальник отдела (части)

**Даведка аб вызваленні.**
1955 год.

Першы раз пайшлі ў сталовую, сталы драўляныя. Ляжаць кучы рыбы пратухлай, і гэта трэба есці. Я надта плакала, баялася гэтай рыбы, лепей нічога не есці. А сяброўка сядзіць і кажа: «Ды яна ж смачная, гэта з віду такое. На табе кусочак хлеба». Сама галадала, а мне аддзірала скарыначку, каб я з голаду не здохла, каб я гэтай рыбы паела. Прывыкла я да гэтай рыбы, ела тады ўжо, добра было.

Давалі нам цукар трохі, мы яго адразу не з'ядалі, ссыпалі і берaглі. Калі хто захварэе, таму неслі ў бальніцу. Падтрымка была, а каб не было, Бог знае, ці мы б павыжывалі.

Помню адзін выпадак. Нас вывелі на працу далёка за лагер, мы доўга з канвоем ішлі, працавалі каля чыгункі. Ідзе цягнік, і з цягніка на нас булкі хлеба ляцяць, нейкія канфеты, баранкі... Ежа ляціць з вокнаў на нас, і людзі крычаць: «Канвой, аддай людзям!» Але канвой таксама баіцца. Нам так хочацца гэтай булкі, так хочацца! Але ніхто ж не адважваецца за квадрат выйсці. Тады канваір кліча брыгадзіра і кажа: «Я аддам вам усё, але адразу да крошкі ўсё з'ешце». Мы так і зрабілі і чэсна пашлі ў зону. Во такі добры выпадак быў. Людзі шкадавалі.

## Мы пад канвоем ішлі, і з цягніка на нас булкі хлеба ляцяць, канфеты, баранкі

### «Жанчыны, не пужайцеся, памёр Сталін»

Я яго ў сне бачу, штоб ён у гробе варочаўся! На дзень смерці чалавека гэтага мы працавалі на абпальванні цэглы. Гэта была вельмі добрая праца, бо, калі мы зацягваем у цёплую печ сырую цэглу, пагрэцца можна. Мы зналі, што калі падчас працоўнага дня раздаецца трывога, то гэта альбо на расстрэл павязуць, альбо нешта здарылася. І аднойчы сярод дня раздаецца трывога, мы скоранька збіраемся, трэба ляцець на прахадную.

Мы ўсе сабраліся, а вароты не адкрываюцца, нікога няма. Мы стаім, усе баяцца, пачынаюць маліцца, пачынаюць плакаць, што бяда нейкая. І раптам адкрываецца прахадная, з будкі выходзіць начальнік і кажа: «Жанчыны, не пужайцеся, памёр Сталін. Зараз вы пойдзеце ў лагер. Усё будзе добра».

І тут Маня Бойка як стала на язык іграць, як стала пець і пайшла па коле танцаваць...


Ірына Канстанцінаўна Шэйбак (Волкава). 2011 год.

**Шэйбак Ірына Канстанцінаўна** (у дзявоцтве **Волкава**) нарадзілася ў 1926 годзе ў вёсцы Казлы на Вілейшчыне. У 1939-м паступіла ў гімназію ў горадзе Лунінец, дзе жыла з сям'ёй дзядзькі. Неўзабаве яго арыштуюць, а сям'ю вышлюць. Падчас вайны Ірына Канстанцінаўна вучылася ў Вілейскай беларускай настаўніцкай семінарыі, была ў Саюзе беларускай моладзі. Пад канец вайны разам з сям'ёй выехала ў Германію, баючыся рэпрэсій, але хутка вярнулася. Пасля вайны жыла ў Пінску, дзе 30 красавіка 1949 года была арыштаваная і асуджаная за «здраду радзіме» на 25 гадоў працоўна-папраўчых лагераў. Адбывала пакаранне ў лагерах Кенгіра і Тайшэта. Пасля вызвалення вярнулася ў Пінск. Рэабілітаваная ў 1992 годзе.

Канвой рагоча, начальнік рагоча... Тады ўжо хлеба ўволю, можна было нумары здымаць. Мы ж нумараваныя ўсе былі. Мой номер быў — СШ785, я яго добра памятаю. Пачалося пасля смерці Сталіна іншае жыццё, ужо нейкая надзея была, мы не былі такія маўклівыя, па святах збіраліся, сядзелі, нешта гаварылі... ◆

Успаміны запісаныя ў 2011 годзе Валерыяй Чарнаморцавай, падрыхтаваныя да друку Вольгай Івановай.

# Беларускія стральцы. Яны ж гаёвыя

**У № 5/2020 «Нашай гісторыі» быў надрукаваны нарыс пра асочнікаў — цягам стагоддзяў вартаўнікоў нашых пушчаў і ўдзельнікаў каралеўскага палявання. Гэтыя ахоўнікі лесу і паляўнічыя, узброеныя пераважна халоднай зброяй, да XIX стагоддзя практычна сышлі з гістарычнай сцэны, а на змену ім прыйшлі стральцы лясной варты. Пра іх піша доктар гісторыі Алесь Белы.**

Сярод розных катэгорый дарэвалюцыйнага насельніцтва Беларусі была адна, якая ў савецкі час не была прадметам асаблівa пільнай увагі ні гісторыкаў, ні белетрыстаў: лясная варта, па-простаму «стральцы». Яны ў свой час вылучыліся з асочнікаў і пaступова іх зусім выцеснілі па меры таго, як рабілася ўсё больш звыклай і таннай агнястрэльная зброя. У выніку, здаецца, стральцы колькасна пераважалі над асочнікамі ўжо з другой паловы XVII стагоддзя ці нават раней. А да эпохі падзелаў Рэчы Паспалітай яны амаль выцеснілі іх як асобны від службоўцаў.

Палясоўшчыкі, леснікі, егеры, гаёвыя — усё гэта ў шырокім сэнсе таксама стральцы, то-бок узброеныя агнястрэльнай зброяй службоўцы, якія ахоўваюць лясныя ўгоддзі ды ўдзельнічаюць у арганізацыі паляванняў. У самым шырокім сэнсе слова «стралец» — уласна беларуская форма слова «стралок», відавочнай калькі з рускай мовы. А ў вузкім сэнсе — гэта тыя, хто так і называўся ў штатным раскладзе адпаведных арганізацый.

### «Не зачапляй стрэльчыка, бо Вашэці настрэляе»

Стралецкую службу неслі як прадстаўнікі беднай беззямельнай шляхты, так і выбраныя для гэтага сяляне. Яны ўмела абыходзіліся са зброяй і лічыліся вельмі трапнымі стралкамі. Менавіта стральцы (егеры) былі найбольш яскравым прамежкавым слоем паміж шляхтай і сялянамі, што праяўлялася ў тым ліку і ў мове.

Памежнае сацыяльнае становішча стральца ўскосна, але вельмі яскрава апісанае ў адным эпізодзе з «Успамінаў квестара»



PINTEREST.COM

**Пано «Паляўнічы»** Вікторыі Хоміч.

### Стральцы Налібоцкай пушчы ў XVIII стагоддзі

Стральцы [радзівілаўскай лясной варты] неслі варту ў найдрабнейшых адміністрацыйных лясных адзінках — стражах. Цэнтрам стражы была буда. Але стража магла буды і не мець. Стральцы неслі варту ўдвох. Праз тыдзень іх мянялі іншыя стральцы. Калі будаў наўкол не было, то тыя проста абыходзілі адведзены ім для пільнавання кавалак лесу. Сваю службу яны неслі конна ці пешшу, у залежнасці ад пастаўленай задачы. Стральцы, па загадзе падлоўчых, кантралявалі правы сялян на ўваходы ў пушчу. Дазвалялася пускаць да лесу толькі тых, хто меў адмысловы на гэта дазвол — «квіт». Такія білеты ён мусіў збіраць і ў канцы месяца здаваць да падлоўчага, які рабіў агульную калькуляцыю ўсіх атрыманых ад стральцоў квітоў для падрыхтоўкі рапарту для лоўчага. Кожнае падлавецтва мела білеты свайго колеру з адмысловым малюнкам. Стральцы таксама займаліся адловам лісянят і ваўчанят для радзівілаўскіх звярынцаў і інш. Сярод стральцоў былі вайсковыя званні, у прыватнасці, званне паручніка. Узбраенне стральца, ці, як яго часам называюць дакументы, мысліўца (паляўнічага), складалася з гусарскага палаша, якія адмыслова закупляліся для гэтай патрэбы ў Караляўцы колькасцю 60 штук (што адпавядала колькасці ўсіх стральцоў у лавецтве) і пісталета. Для іх шылася з сукна спецыяльная стралецкая форма (*barwa*).

**Дзмітрый Крывашэеў**

Ігнацыя Ходзькі, датычных XVIII стагоддзя. Там адзін «гламурны» маладзён, амбітны, але недалёкі, усё кпіць са шляхціча Станіслава Свебады, называючы таго «стрэльчыкам» за тое, што той бедна апрануты і размаўляе «па-просту». Дзея адбываецца ў 1780-я гады ў Полацкім ваяводстве, ці, дакладней, у тым, што ад яго да таго часу, пасля першага падзелу Рэчы Паспалітай, засталося — з цэнтрам ва Ушачах, дзе адбываецца соймік.

Пан Станіслаў у Ходзькі, вядома, ніякі не «стрэльчык», а сапраўдны шляхціч, але беларускую мову ён яшчэ не забыўся. Урэшце ён не вытрымлівае і задае свайму крыўдзіцелю камбінаваны ўрок фехтавання і ветлівасці, не горшы, чым у «Трох мушкецёрах», завяршаючы яго прамоўленай падкрэслена па-беларуску мараллю: «Другі раз, пане браце, не зачапляй стрэльчыка, бо Вашэці настрэляе».



**Стралец і касінеры падчас паўстання 1863 года.** Сучасная польская гістарычная рэканструкцыя.

### «Стральцы-байцы»

Слова *стралец* нярэдка можна сустрэць у беларускім фальклоры, і гэта часцей за ўсё не проста «той, хто страляе», але часам і канкрэтна — прафесійны лясны вартаўнік, егер або ляснік, гэткі беларускі «рэйнджар». Няма куды ад тых стральцоў падзецца беднаму зайцу ў каляднай песні «А ў заенкі тры домухны»:

Лесам бегчы — ваўкі з’ядуць,
Полем бегчы — стральцы заб’юць,
Морам плыці — утаплюся.

Купальская ж песня «Стральцы-байцы капцяўляне» кпіць з няўдалых паляўнічых з вёскі Капцёўня, якія «застрэлілі жабу ў водзе, мыш на калодзе свайму пану на пахвалу». І, як звычайна ў падобнага тыпу песнях, другая частка твора паказвае іншых стральцоў-байцоў (у дадзеным выпадку чашнічан), што на фоне недарэк капцяўлян выглядаюць людзьмі дасціпнымі, трапнымі стралкамі і да т. п.: «Стральцы-байцы чашнічане застрэлілі лося ў лесе, свайму пану на пахвалу, сваёй пані на абламе». Стралец тут, прынамсі свой, чашніцкі, — адназначна станоўчы персанаж, увасабленне спрыту, кемлівасці і жыццёвай удачы, а не проста чалавек, які трапна страляе.

Паляванне было адной з галоўных забаў зніклай у прадонних гісторыі літоўска-беларускай шляхты, а таму праслойка людзей, што прафесійна займаліся яго арганізацыяй, а таксама аховай прыватных лясоў, была дастаткова шматлікай. Верагодна, на момант рэвалюцыі 1917 года яна налічвала дзясяткі тысяч чалавек.

Адразу некалькі вёсак у Заходняй Беларусі — усе, дарэчы, у Панямонні — дагэтуль так і называюцца — Стральцы, бо, відавочна, некалі ўзніклі як паселішчы лясной варты. Дарэчы, і славутыя Багатырэвічы пад Гроднам, апетыя Элізай Ажэшка ў рамане «Над Нёманам», узніклі і развіваліся менавіта як такое паселішча. Стралецкая, як і асочніцкая ды лясніцкая службы, часта мелі дынастычны характар, то-бок маглі перадавацца ад бацькі да сына. Часам нават і ўсе дарослыя мужчыны ў сям’і былі асочнікамі ці стральцамі.

### «Мыслівы — з палкай на слівы!»

Стральцы былі не толькі персанажамі беларускага фальклору, але і самі з’яўляліся яго носьбітамі. Існаваў своеасаблівы фальклорны паляўнічы пласт, які праз сваю спецыфіку быў мастком паміж сялянскім і «панскім» светапоглядамі, паміж літаратурнай польскай мовай і беларускімі гаворкамі. Гэта добра бачна ў творчасці выдатнага ▶




Сярод персанажаў гэтай карціны Юліяна Фалата лёгка ўявіць і **Міхала Міцкевіча, бацьку Якуба Коласа.**

мемуарыста з Міншчыны Міхала Крыспіна Паўлікоўскага. Ён быў умелым паляўнічым, знаўцам паляўнічай этыкі, а таксама любіў ды цытаваў у сваіх творах амаль страчаны сёння паляўнічы фальклор — дэмакратычна-братэрскі, іранічны і вельмі мужчынскі па сваёй сутнасці, амаль на мяжы фола. Так, у адным з эпізодаў аўтабіяграфічнай аповесці Паўлікоўскага «Дзіцячыя гады Тадэвуша Іртэнскага» паляўнічыя за трапны стрэл узнагароджваюць яшчэ неспрактыкаванага хлопца вершыкам, які тады аднолькава добра ведалі і паны, і стральцы-«мужыкі», з двухсэнсоўным паляўніча-эратычным сэнсам:

Хто не смотрыць на двурурку*,
А пільнуе адну дзюрку,
Той ці ў шчасці, ці ў бядзе
Як ні стрэльне — пападзе!

У іншым жа эпізодзе, наадварот, паляўнічы-недарэка атрымлівае ў свой адрас грэблівую рэпліку: «Мыслівы — з палкай на слівы!»

* **Двурурка** — двухстволка. Ад «рура» — труба, руля, ствол.

## «З людзьмі грызешся, як сабака, а доля ўсё ж твая аднака»

У даўнейшай беларускай літаратуры, ад самага яе зараджэння, егеры ды леснікі нярэдка траплялі ў поле зроку пісьменнікаў. Першы, хто з гэтага шэрагу амаль аўтаматычна прыгадваецца, —




**Міхала са стрэльбай** малявалі розныя мастакі.

«Тарас на Парнасе» Канстанціна Вераніцына, што «палясоўшчыкам служыў». Апавяданне пад назвай «Палясоўшчык» ёсць і ў Францішка Багушэвіча.

Апавяданне «Не мужыцкі розум» Францішка Умястоўскага (1908) пабудаванае на канфлікце лесніка Юзіка і пана Шміда, якога Юзік суправаджае падчас палявання на глушцоў. Раззлаваны на здзеклівыя кпіны Шміда наконт асаблівасцяў «мужыцкага розуму», ляснік знаходзіць магчымасць, лепш ведаючы ўласцівасці асцярожнай птушкі, як правучыць свайго крыўдзіцеля, застаўшыся фармальна невінаватым.

Але самы маштабны, найбольш эпічны вобраз лесніка (*стральца* ў шырокім сэнсе) у беларускай літаратуры — гэта, канечне, Міхал з коласаўскай «Новай зямлі», прататыпам якога быў бацька паэта Міхал Міцкевіч. Тут напоўніцу праяўляецца прамежкавае сацыяльнае становішча ляснога вартаўніка. З аднаго боку, ён нібыта селянін, які марыць пра ўласную зямлю,

### Янка Лучына. Стары ляснік

— Паночку, даражэнькі, дай пораху крышку,
Калі маеш увагу на старога Грышку!..
От ліха наляцела! прыйшло на астатак:
Найлепшае заўчора з нашых жарабятак
Мядзведзь — падла... ды каб жа ваўкі яго з'елі! —
Задушыўшы ў лесе, кінуў каля елі!..
А Божа ж мой!, от быў бы конь цераз два годы,
А цяпер што? — нічога акром адной шкоды!
Дай пораху, паночку! —
Так стары, чуць жывы
Прасіў пана даўнейшы са двара мыслівы.
— Што ж тут порах паможа?
— Каб раз здох маруха,
Яго я пачастую са стрэльбы у вуха!
— Чы ты, Грышка, звар'яцеў?
— Не! — дзякаваць Богу!
— Як жа ж ты на мядзведзя?.. Ледзьве цягнеш ногі,
Як бы ў ліхаманцы, скачуць табе рукі.
— І сам я гэта знаю... Калі ж плачуць ўнукі,
Ды й гоманам вялікім поўна наша хатка.
Каб пан відзеў, якое было жарабятка!
І доўга, й шырока, і крэпка у карку,
Сама гэты конь быў бы нам у гаспадарку!..
Не дарую!., мядзведзю павыцягну жылы!
Каб не меў я спакою і сярэдзь магілы,
Калі будзе без кары то насенне ўражжа!!!
Чы ён мне шкуру злупіць, чы сам, шэльма, ляжа!
— Ды ты ж хіба са стрэльбай даўно не меў дзела?
— Лет з пятнаццаць, як старасць маю сілу з'ела!
— Што ж цяпер ты ўздумаў? — ты ж старэй ад хрэна,
Страляючы, не ўцэліш і ў капу сена.
— Скуль пан знае?.. Аднача ж я лічу на гэта,
Што маруху патраплю перавесць са света.
Не глядзі, пан, што гарбом мне сагнула спіну;
Вымяркую ў вуха чы ў лоб, ў серадзіну!
— Ды ты хіба сягоння блёкату аб'еўся?..
Куды ж розум даўнейшы у цябе падзеўся?..
Мерыш сілы старыя Бог знае якой мерай!
— Дай пораху, паночку, бо пайду з сякерай!
— Ось мы лепей іначай гэту скончым справу:
На мядзведзя скора устроім аблаву!..
— А, крый божа! не трэба, паночку, не трэба!
Ён уцячэ з аблавы!.. Не скаштую хлеба,
Спаць не буду, пакуль жа не заб'ю маруху,
Пакуль чорну на зямлю не выпушчу юху,
Пакуль шкуру ў нашай не развешу хаце:
Ось! — гэта для вас, дзеткі, па нашай утраце.
Ён уцёк бы з аблавы, як піць даць, паночку.
Да жарабятка прыйдзе на трэцюю ночку,
А я і прыпільную!!!
— Проста жаль старога!..
Слухай, Грышка! — каб дзеткі не плакалі многа,
Дарую жарабятка ад сівой кабылы!.. Бяры й успакойся!
— Да самай магілы буду Бога за вас прасіць, ясны пане!..
Каб вам і вашым дзеткам даваў панаванне
За вашу для нас, бедных, добрую натуру,
Ды й пану ж ад мядзведзя прывалаку шкуру.
— Як та шкуру? — якую?..
— Ды з яго, халеры,
Жаль бо нейкі вялікі еў мяне без меры,
Яго я звесці кляўся, пакляўся на душу...
Дык і слова прад Богам стрымаць цяпер мушу...
— Гм!.. а стрэльбу чы маеш?
— Ёсцека у клеці;
— Учора трошкі правіў, папсавалі дзеці,
Але стрэліць — нічога!.. я знаю старуху,
Яшчэ раз мне паслужыць!.. будзе гад без духу!
— Ты лепей гэты штуцэр на! бяры ад мене!
— Не, паночку, не трэба!.. кажу на сумленне,
Не умею я з панскай... лепей з сваёй плясну,
Але будзь, пан, спакоен! — як у свечку ясну!
— Казёл ты! больш нічога!.. Усе вы такія!..
На порах!.. дый няхай жа сам Бог цябе крые! —
Назаўтра яшчэ з лесу не ўзглянула сонца,
Пан праснуўся, падняўся, паглядзеў у аконца;
Глядзь! — а Грышка са стрэльбай сядзіць ўжо на ганку:
— Па мядзведзя да лесу пашлі, пан, хурманку.

але з іншага — наёмны працаўнік князёў Радзівілаў. Чалавек, які знаходзіцца паміж двух саслоўяў, і яго, па сутнасці, не ўспрымаюць як свайго ні паны, ні сяляне:

І хто ж, як ты, на свеце служыць?
Аб глупству кожнаму ён тужыць,
Не спіць, не есць і ног не чуе,
У лесе днюе і начуе,
З людзьмі грызешся, як сабака, —
А доля ўсё ж твая аднака.

### Паўстанцкі рэзерв

А вось пасля коласаўскай «Новай зямлі» беларуская культура, здаецца, ніколі сур'ёзна не асэнсоўвала вобраз стральца — лесніка і паляўнічага. Тэктанічныя сацыяльныя рэформы прывялі да таго, што гэтая прафесія хоць фармальна і засталася, але значна трансфармавалася, згубіўшы свой ранейшы асаблівы статус. Сімвалічна ўвянчана гэта было праведзенай у лютым 1940 года дэпартацыйнай акцыяй, у ходзе якой працаўнікі лясной варты былой Заходняй Беларусі разам з вайсковымі асаднікамі былі масава высланыя разам з сем'ямі на поўнач СССР. Пасля гэтага стральцы як асобная прафесійная катэгорыя сышлі ў нябыт услед ▸




WIKIMEDIA COMMONS

**Якуб Шрэтэр.**

за сваімі працадаўцамі-панамі і разам са сваім унікальным складам характару і дагэтуль неацэненым і нават незаўважаным фальклорам.

Чаму савецкая ўлада зрабіла над гэтымі людзьмі такую расправу, зраўняўшы іх з вайсковымі асаднікамі? Стральцы, узброеныя знаўцы лясоў, успрымаліся як ненадзейны элемент яшчэ царскай уладай, а за саветамі гэтая інтуітыўная фобія ўзрасла бадай да ўзроўню параноі.

Правадыр паўстання 1794 года Тадэвуш Касцюшка зразумеў значны вайсковы патэнцыял егераў ужо падчас свайго ўдзелу ў вайне за амерыканскую незалежнасць. Ён не раз быў сведкам, як набраныя сярод паляўнічых добраахвотныя аддзелы рэйнджараў наносілі цяжкія страты прафесійным англійскім часткам — добра ведаючы мясцовасць, маючы навыкі маскіроўкі і ўмеючы трапна страляць. Да таго ж у тыя часы паляўнічая зброя мела значна лепшыя стралковыя якасці, чым вайсковая. Са сваіх стрэльбаў, г. зв. *kentucky rifles*, амерыканскія рэйнджары трапна выбівалі англійскіх жаўнераў з такой адлегласці, на якой самі заставаліся недасяжнымі для варожых куляў.

Таму, вярнуўшыся на радзіму, Касцюшка заняўся арганізацыяй падобных аддзелаў і ў войску Рэчы Паспалітай. Жаўнеры створаных ім у 1789–1791 гадах фармаванняў атрымалі назву *strzelcy celni*. Інструкцыя навучання для гэтага новага віду элітнай пяхоты, своеасаблівага «спецназу Касцюшкі», была выдадзена Вайсковай камісіяй 20 красавіка 1791 года. Да чэрвеня 1792 года было навучана і ўзброена 7 пяхотных палкоў, агульнай колькасцю 896 стральцоў. Іх узбраенне складалася са стрэльбы з наразной руляй калібрам 16,4 мм і цесака, а афіцэр быў узброены шабляй.

І ў наступных паўстаннях да стральцоў лясной варты, леснікоў і егераў нязменна звярталіся як да каштоўнага баявога кантынгенту. Спрыяў гэтаму і іх выдатны вайсковы патэнцыял, і ідэйная блізкасць да шляхты.

У паўстанні 1830—1831 гадоў узяла ўдзел значная частка



IMAGO.BY

**Артур Гротгер «Дух».** Картон 5 з цыкла *«Lithuania»*, 1866.



S-MODEL.COM.PL

**Жаўнеры батальёна сандомірскіх «стральцоў цэльных»** часоў паўстання 1830–1831 гадоў. Сучасная рэканструкцыя.

лясной варты Аўгустоўскай, Белавежскай і іншых пушчаў цяперашняга польска-беларускага сумежжа. Камандзірам аднаго з аддзелаў быў стражнік Якуб Шрэтар з Гайнаўкі, адна з культавых постацяў таго паўстання. Са сваімі стральцамі ён ваяваў на баку Напалеона яшчэ ў кампанію 1812 года, а гэтым разам, маючы ўжо 60 гадоў, павёў за сабой у бой пяцярых сыноў, уключаючы малодшага Паўла, якому было ўсяго 10 гадоў.

У паўстанні 1863–1864 гадоў стральцы лясной варты ізноў адыгралі знакавую ролю. Знакаміты Валеры Урублеўскі (гл. пра яго артыкул Віталя Чырвінскага ў № 2/2018 «Нашай гісторыі»), выпускнік Ляснога інстытута ў Пецярбургу, перад паўстаннем быў намеснікам дырэктара, а потым і дырэктарам лясной егерскай школы ў Саколцы. Ствараючы паўстанцкі аддзел, ён абапіраўся ў значнай ступені на сваіх вучняў.

Ды і хто мог бы лепш надавацца да змагання ў зусім няроўных умовах, калі дасканалае веданне паўстанцамі роднага лесу хоць часткова выроўнівала ад пачатку непараўнальныя шанцы бакоў?

Чуткі пра мужнасць і трываласць стральцоў-ліцвінаў у паўстанні разышліся далёка за межамі былога Вялікага Княства Літоўскага, бо мастак Артур Гротгер, які сам ніколі так далёка на ўсходзе не бываў, у адным з малюнкаў свайго цыкла «*Lithuania*», пад назвай «Дух», стварыў вобраз лесніка, які гераічна загінуў у паўстанні, але, як нябачны анёл-ахоўнік, наведвае жонку і сына-немаўля пасля смерці. ◆


FORMULARZ SŁUŻBOWY

Pełniącego obowiązek w Dobrach J. O. [illegible]

ANTONIEGO RADZIWIŁŁA

Za rok 1885



**Асабісты службовы фармуляр службоўца лясной варты князя Антонія Радзівіла**, 1885 год. Такі ж ці падобны мусіў быць заведзены і на Міхала Міцкевіча.

**Мікола Равенскі** / Уклад. Лявон Юрэвіч; навук. рэд. Наталля Гардзіенка. — Мінск: Кнігазбор, 2020. — 300 с.

Зборнік «Мікола Равенскі» — першая кніга, прысвечаная жыццю і творчасці нашага выбітнага кампазітара.

Мікола Равенскі (1886—1953), кампазітар, хормайстар, музычны крытык, аўтар музыкі духоўнага гімна беларусаў «Магутны Божа», прайшоў усе выпрабаванні, наканаваныя ягонаму пакаленню. Гэта было незвычайнае пакаленне. Народжаныя напрыканцы XIX стагоддзя, яны паспелі яшчэ чарпануць старога свету — запаволенага, стомленага, спакутаванага ўнутранай трывогай і няўцямнай прагай пераменаў, а пасля з галавой акунуцца ў эпоху глабальных катастроф новага часу — Першая сусветная, рэвалюцыя, грамадзянская, будаўніцтва новай дзяржавы, рэпрэсіі, Другая сусветная. Стары і новы свет існавалі ў іх адначасова, яны спалучалі ў сабе і вартасці, і заганы абедзвюх эпох. І таму сталі дэміургамі.

У лёсе Міколы Равенскага і ягонай працы, як у лёсах кожнага, хто спрычыніўся да агульнага будаўніцтва нашай культуры, напоўніцу адлюстравалася драматычная эпоха і яе няпростыя асабістыя выбары.

Сёння Равенскі быў бы шчаслівы. Ягоная музыка гучыць у кожным мінскім двары, у касцёлах і цэрквах, у канцэртных залах і павільёнах метро. Часцей за ўсё людзі нават не ведаюць імя кампазітара — але няма цяпер чалавека, які не ведаў бы нотаў, што ён склаў у магутны спеў. За кожнай з гэтых нотаў — нашая супольная гісторыя, яе гонар і яе пакута, яе перамога і яе выпрабаванне.

Няпросты лёс кампазітара адлюстраваны ў яго аўтабіяграфічных і даследчых тэкстах, а таксама ва ўспамінах суродзічаў як міжваеннага, гэтак і паваеннага-эміграцыйнага часу. Яны друкуюцца ў гэтым зборніку. Выданне ілюстравана ўнікальнымі архіўнымі дакументамі і фотаздымкамі.

Кнігу можна набыць у кнігарнях па ўсёй Беларусі, а таксама ў інтэрнэт-кнігарнях **knihi.by** і **kniganosha.by**.



**У наш час з’явілася ўнікальная платформа — форумы на сайтах і сацыяльныя сеткі. Тут аматары абмяркоўваюць навуковыя адкрыцці са спецыялістамі, а навукоўцы могуць разняволіцца, выказаць смелыя здагадкі і падзяліцца знаходкамі. У гэтай рубрыцы — пераказ некаторых цікавых запісаў і дыскусій на гістарычныя тэмы ў інтэрнэце.**




## Людамонт: вёска за Стэлай

Журналіст **Васіль Сямашка** размясціў на сваёй старонцы ў фэйсбуку фотаздымак 1995 года з выявай каровы на фоне шматкватэрных дамоў на праспекце Пераможцаў у раёне стэлы «Мінск — горад-герой». Сямашка піша: «Цяпер цяжка паверыць, але яшчэ 15 гадоў таму на месцы сучаснага будынка музея гісторыі Вялікай Айчыннай вайны існаваў невялікі квартал прыватных драўляных дамоў, якія былі пабудаваныя адразу пасля вайны, а можа, і раней. Ацяпляліся гэтыя дамы дровамі, вада была з вулічных калонак. Некаторыя жыхары дамоў трымалі кароў, якія, калі зрываліся з навязі, маглі спакойна перайсці праспект Машэрава (цяпер Пераможцаў) і пасціся побач са шматпавярховікамі».

У каментарах да запісу адзначылі, што квартал прыватнай забудовы ў гэтым раёне Мінска існаваў прынамсі з пачатку XX стагоддзя. Называўся ён Людамонт. Апошнія хаты былі знесеныя напрыканцы 2000-х перад пачаткам будаўніцтва музея.



**Вуліца Людамонцкая** ў час вайны.

WIKIMEDIA COMMONS

## Ізноў 7 лістапада…

У дзень афіцыйнага пуску Беларускай АЭС у Астраўцы 7 лістапада 2020 года **Уладзімір Садоўскі** на старонцы ў фэйсбуку адзначыў, што роўна за 90 гадоў да гэтай падзеі ў Беларусі таксама пускалі самую магутную на той час у краіне электрастанцыю. 7 лістапада 1930 года ў дзень 13-й гадавіны Кастрычніцкай рэвалюцыі была ўрачыста адкрытая Беларуская дзяржаўная раённая электрастанцыя (БелДРЭС) імя Сталіна. На адкрыцці станцыі прысутнічаў тагачасны старшыня ЦВК БССР і фактычны кіраўнік краіны Аляксандр Рыгоравіч Чарвякоў.

БелДРЭС павінна была задаволіць патрэбы ў энергіі буйных прамысловых цэнтраў міжваеннай БССР: Оршы, Віцебска і Магілёва. Яна была пабудавана пры фінансавай і тэхнічнай дапамозе РСФСР, за што Чарвякоў дзякаваў асабіста Іосіфу Сталіну, а таксама незадоўга да адкрыцця падпісаў загад аб наданні БелДРЭС імя правадыра. Разам са станцыяй былі ўведзеныя ў эксплуатацыю сотні кіламетраў высакавольтных сетак напружаннем 110 кВ і 35 кВ, а таксама вузлавых падстанцый у буйных гарадах, што стала першым этапам стварэння агульнабеларускай энергасістэмы.



Менавіта ад гэтых падзей цяперашняе дзяржаўнае вытворчае аб'яднанне «Белэнерга» вядзе адлік сваёй гісторыі.

## Біблія як «антысавецкая літаратура»

Жыхар Брэста **Дзмітрый Піскур** на сваёй старонцы ў фэйсбуку выставіў цікавы дакумент эпохі — ліст выканаўцы абавязкаў дырэктара кінастудыі «Беларусьфільм» Аляксандра Парыцкага да ўпаўнаважанага Савета па справах рэлігіі пры Савеце Міністраў БССР Кавалёва з просьбай у сувязі з пастаноўкай мастацкага фільма «Хрыстос прызямліўся ў Гародні» выдаць кінастудыі для часовага карыстання... Біблію.

Па сённяшніх часах, калі Біблія агульнадаступная, такая просьба выглядае як анекдот і ў сапраўднасць дакумента проста не верыцца. Але ў 1966 годзе, якім датаваны ліст, у гэтым нічога незвычайнага не было. Камуністычная дзяржава зацята ваявала з «рэлігійнымі перажыткамі». Як адзначыў берасцеец **Ігар Бараноўскі**, «Біблія да 1988 года лічылася антысавецкай літаратурай і за яе правоз маглі асудзіць».

Доступ да Бібліі для людзей, непасрэдна не звязаных з рэлігіяй, быў магчымы толькі праз адмысловы дазвол.

А людзі, якія мелі Біблію ў асабістым карыстанні, асабліва з ліку савецкай інтэлігенцыі, імкнуліся гэтага не афішаваць. У каментарах да перапосту Ігара Бараноўскага адзін з лідараў сучаснай беларускай дыяспары ў Вялікабрытаніі **Мікола Пачкаеў** напісаў: «Мой дзед меў Біблію. Яна стаяла ў другім шэрагу кніг у глыбокай кніжнай шафе, і ён настойліва прасіў мяне ў дзяцінстве (пачатак 1980-х) нікому пра яе наяўнасць не распавядаць».

У сваіх шчырых успамінах беларускі пісьменнік, ветэран вайны **Валянцін Тарас** прызнаваўся: «Толькі сёння да канца разумею, які гэта нонсэнс — дажыць да старасці... не прачытаўшы Біблію, маючы самае павярхоўнае, збольшага, уяўленне аб феномене хрысціянства. А лічыў сябе адукаваным чалавекам! Яшчэ адзін рахунак тым, хто семдзесят пяць гадоў адсякаў нас ад гэтага велізарнага мацерыка духоўнай культуры, без якога не было б еўрапейскай цывілізацыі, хто, талдычачы, што рэлігія — "опіум для народа", падмяніў гэты "опіум" таннай гарэлкай, морам "чарніла", хуліганскім атэізмам люмпенаў, які з філасофскім атэізмам не мае нічога агульнага. Яны называлі сябе атэістамі, а насамрэч былі вандаламі, бо з ідэяй Бога нельга спрачацца, разбураючы храмы, апаганьваючы і спальваючы абразы». ◆



7 сентября 196[illegible]

УПОЛНОМОЧЕННОМУ СОВЕТА ПО ДЕЛАМ РЕЛИГИИ ПРИ СОВЕТЕ МИНИСТРОВ СС[illegible] ПО БССР

тов. КОВАЛЕВУ Г.В.

В связи с постановкой художественного фильма [Х]ристос приземлился в Гродно", киностудия "Бела[ру]сьфильм" просит выдать на временное пользование [Б]иблию".

Возврат гарантируем.

И.О.ДИРЕКТОРА КИНОСТУДИИ "БЕЛАРУСЬФИЛЬМ"

/А.ПОРИЦКИЙ/

## Пошта і водгукі

Добры дзень, рэдакцыя часопіса «Наша гісторыя»!

Шыкоўна апісана гісторыя «Салідарнасці» ў №9 за 2020 год.

Першы раз дзядзя Мікалай (1917 года нараджэння), брат нашага таты (ён нарадзіўся ў 1904-м), запрасіў мяне ў госці, каб пазнаёміцца з іх горадам Гданьскам у ліпені 1967 года. Гэта праз 20 год, як не бачыў «захаду». А ў 1971 годзе запрасіў ужо нас з жонкай. Асабліва жонцы (яна 1941 года) было ўсё-ўсё цікава, бо пасля 28 год рэпрэсій у Сібіры з сям'і вярнуліся толькі яна і яе маці. Дзядзька Мікалай расказваў, як народ супраць камуністычнай сістэмы ў сацлагеры. Ён нават паказаў нам лістоўкі, што вывешваліся па горадзе, дзе выражалася незадаволенасць камуністычнай сістэмай. А нам, грамадзянам СССР, іх жыццё здавалася раем. Усё-ўсё было ў крамах, на рынках. У той час лета — вінаград, цытрусавыя, бананы, для дзяцей — жуйкі. Проста як неба і зямля! Што ім яшчэ трэба?

У 1979 годзе едзем ужо са сваім сынком (перад школай). А там ужо дзядзя расказваў, якую шкоду нарабіла дзяржава людзям. Расказваў і пра «Салідарнасць», бо рабіў ён у порце Гданьска боцманам і ўсё ведаў. Ваша інфармацыя змусіла мяне ўспомніць тыя часы.

**Аляксандр Салагуб,**
**Маладзечна,**
**1935 года нараджэння**

* * *

Уражаны вашай працай. Адкрыў для сябе ваш цудоўны часопіс з нумара пра Купалу. Не разумею, дзе быў раней! Аднак ужо паспеў набыць каля 10 папярэдніх. Крута-крута!

Раскажыце, калі ласка, ці пісалі вы пра гісторыю мінскага Цэнтральнага ўніверсама? Як «Цэнтрос», яго першы паверх, стаў культавым і хто з нашай інтэлігенцыі там тусіў? Калі не, то тут можна нешта даведацца, мне гэта падаецца вельмі цікавым.

**Мікіта Кісялёў**





































## Калі часопіса не засталося ў «Саюздруках» і на поштах, пытайцеся яго ў кнігарнях

**Мінск**
«Мой модны кут» (Цэнтр «Маскоўска-Венскі», павільён 333 — гэта каля ЦУМа, метро «Плошча Якуба Коласа», пр. Незалежнасці, 58)
«Акадэмкніга» (пр.Незалежнасці, 72, метро «Акадэмія навук»)
Філіял «Акадэмкнігі» на вул. Багдановіча, 46
Гандлёвы цэнтр «Купалаўскі» (пад Кастрычніцкай плошчай), крамы 41–42 і 44–45
«Галіяфы» (вул. Няміга, 3, крама № 47 на цокальным паверсе)
«Рагна» (вул. Сухая, 4, метро «Фрунзенская»)
«Кніжная шафа» (пр. Дзяржынскага, 9)
«Светач» (пр. Пераможцаў, 11)
«Цэнтральная кнігарня» (пр. Незалежнасці, 19)
«Кнігі і кніжачкі» (пр. Незалежнасці, 14)
«Эўрыка» (вул. Куйбышава, 75)

**Поштай ці з дастаўкай на дом** вы можаце яго замовіць праз Halijafy.by, Knihi.by, Kniger.by, Akademkniga.by, kniganosha.by

**Гродна**
«Цудоўня» (вул. Кірава, 3).
«Кругагляд» (б-р Ленінскага камсамола, 29а)
«Раніца» (вул. Маставая, 33)

**Брэст**
«Князь Вітаўт», Kniaz.by
«Асвета» (пр. Машэрава, 57)
«Дружба»(б-р Касманаўтаў, 120)
«Іскра» (вул. Пушкінская, 4)

**Гомель**
«Кніжны свет» (пр. Леніна, 45)

**Віцебск**
«Светач» (вул. Кірава, 10)
«Глобус» (вул. Замкавая, 21–30)

**Магілёў**
«Гасцінец» (Віцебскі праспект, 48)

**Бабруйск**
«Крыніца ведаў» (вул. Горкага, 31)

**Баранавічы**
«Кнігі» (вул. Савецкая, 73)

**Маладзечна**
«Спадчына» (вул. Прытыцкага, 7)

**Ліда**
«Кніжны свет» (пр. Перамогі, 33)

**Наваполацк**
«Дом кнігі» (вул. Маладзёжная, 145)
«Усход» (вул. Кірава, 4)

Акрамя таго, праз сайт **ARCHE.BY** часопіс можна купіць у ПДФ, у электроннай версіі.